ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# Комуністычнае выхаванне

ОРГАН
НАРКАМАСВЕТЫ
І ЦП САЮЗА
ПРАЦАСВЕТЫ
БССР

№ 3-4
1934

ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# Комуністычнае выхаванне



ОРГАН
НАРКАМАСВЕТЫ
І ЦП САЮЗА
ПРАЦАСВЕТЫ
БССР

САКАВІК-КРАСАВІК
№ 3—4

ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ

1934

## За ўдзел школы ў большэвіцкай сяўбе

Рэзалюцыя XVII з'езда ВКП(б) аб 2-м пяцігадовым плане соцбудаўніцтва, пастановы партыі і ўраду аб народна-гаспадарчым плане на 1934 г., вызначылі праграму большэвіцкай сяўбы другога года 2-й пяцігодкі.

Цэнтральнымі задачамі пасеўнай кампаніі гэтага года з'яўляюцца: забеспячэнне высокай якасці сяўбы, высокай прадукцыйнасці працы і безумоўнае выкананне тэрміна і плана сяўбы.

Поспех веснавой сяўбы залежыць галоўным чынам ад арганізацыі работы, арганізацыі калгасных мас, правільнай расстаноўкі сіл. Трэба звярнуць увагу на падрыхтоўку добраякаснага насення, падрыхтаванасць інвентару, правільна арганізаваць севазварот, добраякасна апрацаваць глебу, рацыянальна скарыстаць кожную сельскагаспадарчую машыну, у асаблівасці трактар, падрыхтаваць як след каня, правільна спалучыць яго работу з трактарам. Неабходна мець чотка распрацаваны фінансава-вытворчы план, давездены да кожнага калгасніка, да кожнага рабочага соўгаса і МТС. Рашаючае значэнне адыгрывае пастаянная вытворчая брыгада, сістэматычны і строгі кантроль і ўлік работы па колькасці і якасці, разгортванне соцспаборніцтва і ўдарніцтва, ахоп усіх калгаснікаў палітыка-выхаваўчай работай і агро-зоотэхнічнай вучобай і, самае галоўнае, неабходна большэвіцкая пільнасць і непрымірымасць у барацьбе з класавым ворагам і яго агентурай.

У выніку ажыццяўлення першай пяцігодкі мы выцеснілі цалкам капіталістычныя элементы з прамысловасці і гандлю. Нанесен сакрушальны ўдар апошняму капіталістычнаму класу нашай краіны— кулацтву. Класавы вораг разбіт, але не дабіт. І чым шырэй фронт нашага соцыялістычнага наступу, тым вастрэй адчуваюць астаткі капіталістычных класаў сваю немінучую гібель, тым больш шалёным становіцца іх супраціўленне.

Класавы вораг, ужо няздольны да прамой атакі супроць нас, змяніў тактыку. Ён не выступае прама і адкрыта супроць калгасаў, супроць мерапрыемстваў совецкай улады, а дзейнічае зараз метадамі ціхай сапы, маскуючыся, старанна хаваючы свой твар. Класавы вораг зрывае севазвароты, шкодзіць у рамонце трактароў, сельскагаспадарчых машын і даглядзе за канём, раскрадае калгасную маёмасць і г. д.

Гэта ў адносінах ворагаў Ленін у 1918 г. сказаў: „Багачы і жулікі, гэта два бакі аднэй медалі, гэта два галоўныя разрады паразітаў, якія былі ўскормлены капіталізмам, гэта галоўныя ворагі соцыялізма. Гэтых ворагаў патрэбна ўзяць пад асобы кантроль усяго насельніцтва. З імі патрэбна распраўляцца пры малейшым парушэнні імі правіл і законаў соцыялістычнага грамадства, бязлітасна. Усякая слабасць, усякія хістанні, усякае сентыментальнічанне ў гэтых адносінах

было-б найвялікшым злачынствам перад рэволюцыяй“ (Ленін, арт. „Як арганізаваць спаборніцтва“).

Гэтыя ўказанні Леніна абавязваюць нас весці самую рашучую барацьбу з лодырамі, прагульшчыкамі, раскрадальнікамі грамадскай уласнасці. Мы павінны быць надзвычайна пільны ў адносінах да манеўраў класавых ворагаў. „Рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам“ (Сталін).

І чым мацней будзе развіта ў кожнага калгасніка, рабочага соўгаса і МТС гэта рэволюцыйная пільнасць, чым аперацыйней будзе праверка і кантроль за работай кожнага калгасніка ў час пасеўнай, тым больш гарантыі ў тым, што сяўба гэтага года пройдзе больш паспяхова, што дырэктывы партыі і ўраду аб правядзенні сева на высокім якасным узроўні будуць выкананы ў тэрмін.

Наша палітэхнічная школа,—праваднік арганізацыйнага, ідэёвага, выхаваўчага ўплыву пролетарыята на поўпролетарскія і непролетарскія слаі працоўных мас. Наш совецкі настаўнік,—актыўны барацьбіт, агітатар і прапагандыст за генеральную лінію партыі. Совецкая школа цесна звязвае навучанне з актыўным удзелам дзяцей у соцбудаўніцтве і класавай барацьбе пролетарыята. І таму зусім ясна, што школа ў цэлым не можа стаяць у баку ад правядзення веснавой сяўбы, гэтай важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі.

Вопыт удзелу чырвонасцяжнага настаўніцтва БССР у важнейшых гаспадарча-палітычных кампаніях сведчыць, што асноўная маса настаўніцтва, асабліва настаўнікі—ударнікі, умеюць пабольшэвіцку змагацца за генеральную лінію партыі. Пад кіраўніцтвам вясковай партарганізацыі і палітаддзела, настаўнікі і школа змогуць правесці велізарную работу ў напрамку ператварэння нашых калгасаў у большэвіцкія.

Адной з асноўных задач школы ў барацьбе за большэвіцкую сяўбу з'яўляецца разгортванне масавай палітыка-выхаваўчай работы сярод калгаснікаў, рабочых соўгасаў, МТС і аднаасобнікаў. Неабходна, каб кожны сельскагаспадарчы рабочы, калгаснік і працоўны аднаасобнік ведаў, якія задачы стаяць перад пасеўнай кампаніяй гэтага года, якія партыя паставіла задачы ў другую пяцігодку ў галіне сельскай гаспадаркі. Даклады т. т. Сталіна, Молатава, Куйбышава, Кагановіча, прамовы т. т. Якаўлева і Варашылава павінны быць добра прапрацаваны і засвоены. Прапрацоўка матэрыялу XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б павінна быць пастаўлена так, каб яна выклікала новы творчы ўздым у соўгасах, калгасах і сярод працоўных аднаасобнікаў, спрыяла выкананню плана сяўбы ў тэрміны, якія вызначаны партыяй.

Гэтая прапрацоўка павінна весціся самымі рознастайнымі формамі (палітгурткі, паліт. інфармацыі пасля работы, гутаркі ў хатах-чытальнях, гутаркі ў паасобных калгаснікаў на кватэры і г. д.). Асабліва гібкімі павінны быць формы масавай работы сярод працоўных аднаасобнікаў. Трэба больш зацікавіць калгаснікаў, соўгасных рабочых і працоўных аднаасобнікаў палітычным жыццём нашай краіны. У час сяўбы неабходна арганізаваць дастаўку газет, часопісаў, брашур на поле. Не толькі настаўнікі, але і старэйшыя вучні могуць быць скарыстаны для калектыўнага чытання газет і іншых матэрыялаў. Трэба памятаць, што добра пастаўленая палітычная прапаганда і агітацыя ў час сяўбы ўзмацняе рэволюцыйную пільнасць, свядомую дысцыпліну, павялічвае прыліў працоўных аднаасобнікаў у калгасы, садзейнічае ліквідацыі перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей.

Другой вельмі важнай задачай з'яўляецца разгортванне агро-зоотэхнічнай вучобы. Шмат прыдзецца прапрацаваць над тым, каб зламаць недааценку гэтай справы сярод часткі калгаснікаў і асабліва аднаасобнікаў, распаўсюджваючых адсталыя настроі аб тым, што агровучоба не патрэбна, што кожны селянін сам добра ведае, як і калі трэба сеяць, што ён сам сабе лепшы аграном. Неабходна пераканаць усю масу калгаснікаў, сельскагаспадарчых рабочых і аднаасобнікаў, што агротэхнічная вучоба надта важная справа, аўладанне якой з'яўляецца адной з важнейшых умоў павышэння прадукцыйнасці працы, забеспячэння высокай ураджайнасці, палепшання матэрыяльна-бытавога і культурнага становішча працоўных. Неабходна ўстанавіць абавязкова для ўсіх калгаснікаў і сельскагаспадарчых рабочых, у першую чаргу для брыгадзіраў, штодзённую гадзіну агротэхнічнай вучобы

Задача настаўнікаў,—не толькі ў тым, каб кіраваць гэтай вучобай, але і ў тым, каб арганізаваць яе, прывіць інтарэс да агротэхнікі і дабівацца, разам з тэарэтычнай падрыхтоўкай, поўнага захавання агротэхнічных правіл, як у час сяўбы, так і ў час падрыхтоўкі і правядзенні ўборачнай кампаніі. Неабходна распрацаваць агротэхнічны мінімум, які павінен ведаць кожны калгаснік і сельскагаспадарчы рабочы. Для калгаснага актыва гэты мінімум павінен быць некалькі больш пашыран і на вопыце нашых фабрык і заводаў трэба арганізаваць здачу тэхэкзамена. Такая форма барацьбы за аўладанне агротэхнікай у радзе лепшых калгасаў і соўгасаў сябе поўнасцю апраўдала.

Важнейшае значэнне для своечасовага і добраякаснага правядзення сяўбы мае дэталёвая і дзелавая прапрацоўка вытворчага задання дзяржавы і складання на яго аснове вытворча-фінансавага плана. У корані трэба адмовіцца ад тэндэнцыі габінетнага складання плана; у складанні і абгаварэнні кожнай лічбы і кожнага пункта плана павінна ўдзельнічаць уся маса калгаснікаў, уся маса рабочага калектыва соўгаса.

Складаючы план, трэба абгаварыць яго не толькі на вытворчай нарадзе соўгаса, калгаса і МТС, але і ў кожнай брыгадзе, на кожным вытворчым участку. Кожны рабочы соўгаса, кожны калгаснік павінен добра ведаць, які аб'ём работы намечан у гаспадарцы, у яго брыгадзе, і што гэтыя лічбы ўскладаюць на яго. Рабочы і калгаснік павінны добра ведаць тэрміны сельскагаспадарчых работ, агротэхнічныя мерапрыемствы, якія трэба прымяняць для выканання той, ці іншай работы; расцэнкі па ўсіх відах здзельнай работы.

Патрэбен план з канкрэтнымі паказчыкамі аб'ёма і характара работы і агротэхнічнымі правіламі па кожнаму віду работы, цвёрдымі тэрмінамі, чоткай расстаноўкай рабочай сілы, замацаваннем цягла за брыгадамі, вызначэннем мер, забяспечваючых высокую ўраджайнасць і развіццё жывёлагадоўлі. Толькі такі план, складзены пры актыўным ўдзеле кожнага рабочага, кожнага калгасніка будзе магутным вагаром, магутнай рухаючай сілай у барацьбе за пастаўленыя партыяй і ўрадам перад сельскай гаспадаркай задачы.

Задача школы і настаўнікаў састаіць не толькі ў тым, каб дапамагчы праўленню калгаса ў складанні фінансава-вытворчага плана, але і давесці да кожнага калгасніка гэты план, арганізаваць сістэматычны кантроль за яго правядзеннем і выкананнем. Пры складанні фінансава-вытворчага плана ў калгасе і соўгасе неабходна асаблівую ўвагу ўдзяліць севазвароту.

Правільна-вытрыманы з пункту гледжання агротэхнічных запатрабаванняў севазварот мае агромнае агротэхнічнае і арганізацыйнае значэнне. Правільны севазварот забяспечвае сапраўды высокі і ўстойлівы ўраджай. Настаўніцтва пад кіраўніцтвам партарганізацый і палітаддзелаў павінны ўзняць актыўнасць калгасных мас на барацьбу з класавым ворагам, які імкнецца сарваць мерапрыемствы партыі і ўраду па барацьбе за высокі ўраджай, за высокую прадукцыйнасць працы, за моцную соцыялістычную гаспадарку.

З кожным годам усё больш і больш машынізуецца і механізуецца наша соцыялістычная сельская гаспадарка. Ужо ў 1934 годзе агульны лік машына-трактарных станцый дойдзе да 3406 замест 2446 у 1932 годзе. Лінія партыі на завяршэнне ў другой пяцігодцы, у асноўным, механізацыі сельскай гаспадаркі рэалізуецца ў значнай меры ў гэтым годзе. Прамысловасць павінна будзе даць сельскай гаспадарцы звыш 115 тыс. новых трактароў і на 475 мільёнаў руб. новых сельскагаспадарчых машын. Гэта дазваляе зрабіць галоўны ўпор на далейшае павышэнне ўраджайнасці зернавых і тэхнічных культур. Разам з тым мы павінны максімальна скарыстаць тыя сельскагаспадарчыя машыны, якія ўжо маюцца на сёння. Ад таго, наколькі будзе добра адрамантаван увесь трактарны парк, увесь сельскагаспадарчы інвентар і наколькі ён будзе правільна выкарыстан у працэсе сяўбы ў значнай меры, залежыць поспех сяўбы.

У аснове рамонта, як адзначыў тав. Сталін у сваім дакладзе на з'ездзе, ляжыць бягучы сярэдні рамонт, а не капітальны. Гэта значыць, што неабходна арганізаваць работу так, каб не толькі ў час падрыхтоўкі да сяўбы, але і ў працэсе сяўбы рамонтныя майстэрні і кузні працавалі надзвычай чотка. Неабходна самым сур'ёзным чынам правяраць якасць рамонта, а саміх калгаснікаў прывучыць да беражлівых адносін да сельскагаспадарчага інвентара. У кожнай трактарнай майстэрні, кузні неабходна стварыць з лепшых калгаснікаў, настаўнікаў—кантрольныя пасты па рамонту, задача якіх безадкладна выпраўляць і знішчаць на хаду недахопы, злачынствы і разгільдзяйства. Вінаватыя ў недобраякасным выпуску прадукцыі павінны прыцягвацца да строгай судовай адказнасці.

Побач з сельгасмашынамі і інвентаром трэба рыхтаваць да сяўбы і жывую цяглавую сілу. Конь—вялікая цяглавая сіла ў соцыялістычнай с/г вытворчасці, аб ім трэба клапаціцца, яго трэба берагчы. У веснавую сяўбу на каня ўскладаецца цяжкая і адказнейшая задача. Недаацэнка каня ў соцыялістычнай вытворчасці шкодна, яна накіравана на зрыў пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва. Настаўнікі і школа пад кіраўніцтвам палітаддзелаў і партарганізацый павінны весці самую рашучую барацьбу з гэтай недаацэнкай, якая выходзіць ад класавага ворага і яго агентуры, выкрываць перад масамі ўсю шкоднасць ігнаравання важнейшай цягавай сілы ў земляробстве—каня. „Конь,—казаў тав. Варашылаў,—не толькі не процівастаіць трактару, не канкурыруе з ім, але, наадварот, яго ва многім дапаўняе, яму дапамагае; конь патрэбен не толькі ў сельскай гаспадарцы, у вёсцы, але і ў прамысловасці, у горадзе“.

Ад стану конскага пагалоўя, ад яго падрыхтаванасці, у значнай меры і, галоўным чынам, будзе залежыць поспех вясновай сяўбы. Нядбайны догляд, абязлічка, дрэннае выкарыстанне і дрэннае карменне каня пагражае зрывам плана вясновых работ. Задачай настаўніцтва і школы з'яўляецца актыўна і ўпарта праводзіць работу ў калгасе і соўгасе за рамонт каня, за добры дагляд, за добрага конюха, за правільнае і рацыянальнае выкарыстанне каня. Удзельнічаючы

ў кантрольных пастах на канюшні, дапамагаючы брыгадам лёгкай кавалерыі ў гэтай справе, школа ўключаецца ў барацьбу за лепшае правядзенне сяўбы.

Важнейшым сродкам у барацьбе за высокі ўраджай з'яўляецца своечасовая і добраякасная апрацоўка глебы. Якасць-жа апрацоўкі глебы вызначаецца глыбінёй ворыва, правільнасцю абарота пласта, ворывам без агрэхаў, добрай раздзелкай камоў для правільнага абмену спажыўных матэрый у глебе. Трэба даць рашучы адпор пануючым у радзе месц контррэволюцыйным тэорыям мелкага ворыва, якое спрыяе засмечанасці структуры глебы, і, значыцца, зніжае ўраджай.

Вядома, што беларускія нацдэмы асабліва ратавалі за мелкае ворыва. Гэта яны ўпэўнівалі сялян, што трактар для беларускіх палёў зусім не падыходзіць. Класавы вораг усімі мерамі імкнецца сарваць высокі ўраджай у соцыялістычнай гаспадарцы. Ён накіроўвае сваю барацьбу таксама супроць ранніх і звышранніх тэрмінаў сяўбы. Кулак і яго агентура агітуюць за расцягванне тэрміна, за познюю сяўбу. Усякая зацяжка сяўбы вядзе да зніжэння ўраджая, што з усёй відавочнасцю падцверджана вопытам 1933 года. Адсюль задача, у гэтым годзе пасеяць раней, і ў максімальна кароткія тэрміны.

Але трэба памятаць, што „рэкордсменства" звышранняй сяўбой. сяўба ў непадрыхтаванай глебе і г. д. таксама прыносіць надзвычай вялікую шкоду. Тэрміны сяўбы, вызначаныя партыяй і ўрадам для кожнага раёна, з'яўляюцца самымі рэальнымі, бо яны выходзяць з сапраўдных задач, накіраваных на тое, каб дабіцца высокага ўраджая нашых соцыялістычных палёў.

Выключна важнае значэнне ў гэтую вясну набывае насенне. Пасеяць своечасова і добраякасным зярном,—значыць прадрашыць рэзультат ўраджая, а таму неабходна зараз-жа па ўдарнаму мабілізаваць усе наяўныя сілы і правесці самую старанную праверку ўсхожасці ўсяго насеннага зярна ў калгасах і соўгасах, каб забяспечыць пасеў насеннем з усхожасцю 90% і вышэй. Справа гонару кожнага калгаса забяспечыць пасеў поўнацэнным зярном. Для гэтага патрэбна ў самы кароткі тэрмін арганізаваць ачыстку і патручванне насення, хутка абмяняць горшае насенне на лепшае, каб своечасова забяспечыць усе калгасы лепшым насеннем. Пільна, па-рэволюцыйнаму трэба выяўляць усе махінацыі класавага ворага, які імкнецца і на гэтым участку шкодзіць і зрываць бальшэвіцкую падрыхтоўку да вясны.

„1934 год,—казаў тав. Сталін,—павінен і можа стаць годам пералому да пад'ёма ва ўсёй жывёлагадоўчай гаспадарцы". Вядома, што па пагалоўю жывёлы за выключэннем свінагадоўлі мы маем усё яшчэ прадаўжаючыйся ўпадак. На гэтым участку больш усяго аказалася супраціўленне кулацтва, яго ўзмоцненая агітацыя за ўбой жывёлы. З другога боку органы Наркамзема недастаткова ўдзялялі ўвагі жывёлагадоўлі. „Справу жывёлагадоўлі павінна ўзяць у свае рукі ўся партыя, усе нашы работнікі, партыйныя і беспартыйныя, маючы на ўвазе, што праблема жывёлагадоўлі з'яўляецца зараз такой-жа першачарговай праблемай, якой была ўчора ўжо выражаная з поспехам праблема зернавая. Няма чаго і даказаць, што совецкія людзі, якія бралі не адну сур'ёзную перашкоду на шляху да меты, змогуць узяць і гэтую перашкоду" (Сталін).

Гэтыя ўказанні правадыра нашай партыі кожны настаўнік і вучань совецкай школы павінен добра ведаць і прымаць усе захады, каб указанні т. Сталіна былі рэалізаваны ва ўмовах кожнага калгаса. Ва ўсёй масавай рабоце вакол сяўбы неабходна асабліва выпукліць ба-

рацьбу за вырашэнне жывёлагадоўчай праблемы. Мы ўжо казалі аб тым, што поспех сяўбы ў значнай меры вырашае правільная арганізацыя людзей, узмацненне соцыялістычных метадаў работы. Соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў калгасах яшчэ разгорнуты недастаткова. Гэтую работу неабходна ўзмацніць асабліва па лініі разгортвання спаборніцтва паміж брыгадамі, звеннямі, паасобнымі калгаснікамі і рабочымі.

Кожная пастаянная брыгада соўгаса і калгаса павінна ўжо цяпер ведаць склад людзей па ўзросту і кваліфікацыі, замацаваныя за сабой машыны, сельгасінвентар і цяглавую сілу, а таксама месца, адведзенае для работы ў веснавой сяўбе. На аснове выпрацоўкі рабочага і вытворчага плана неабходна гэтую справу арганізаваць так, каб ужо цяпер кожны рабочы соўгаса і калгаснік ведаў, што і дзе ён будзе рабіць у кожны дзень сяўбы, колькі за дзень павінен ён зрабіць, якой якасці і колькі атрымае за работу.

Пастаянная калгасная брыгада з'яўляецца асноўным звяном калгаснай вытворчасці. Арганізацыя работы ўнутры брыгады, спаборніцтва паміж звеннямі па асобных работах павышае прадукцыйнасць сельскагаспадарчай працы, ліквідуе ўраўнілаўку сярод членаў брыгады, дае магчымасць выявіць гультаёў і лодыраў.

Неабходна арганізаваць самы дакладны ўлік соцспаборніцтва, паказваючы лепшых ударнікаў, лепшыя ўзоры і прыклады работы, арганізуючы прэміраванне сапраўдных ударнікаў і інш. Разам з гэтым трэба бязлітасна выкрываць усіх гультаёў, зрыўшчыкаў вясновай сяўбы і кулацкіх падпявал, прымяняючы самыя рознастайныя формы правядзення масавай работы па ўнядрэнню соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў час пасяўной. Неабходна скарыстаць усё багацце форм аргмасавай работы, якія ўжываліся ў мінулым годзе,—міжкалгасныя праверкі, вечары старай калгаснай гвардыі, інспекцыя якасці, піонерскія дазоры, палявыя вытворчыя нарады, грамадскі буксір, грамадскія суды над бракаробамі, чорныя і чырвоныя дошкі,—неабходна хутка распаўсюджваць усё лепшае, што нараджае практыка соцспаборніцтва. Асаблівую ўвагу неабходна звярнуць на разгортванне насеннага друку,—палявыя штодзёнкі, насценгазеты ў брыгадах, чырвоных кутках,—усё гэта неабходна пусціць у ход для паспяховай барацьбы за паднятне ўраджайнасці, лепшую апрацоўку глебы, дакладнае выкананне плана і тэрмінаў сяўбы, развіццё жывёлагадоўлі і тэхнічных культур.

Разгортваючы масавую работу ў калгасах, соўгасах, МТС і сярод працоўных аднаасобнікаў, неабходна мець на ўвазе яе ўвязку з антырэлігійным і інтэрнацыянальным выхаваннем.

Зразумела, што гэтае выхаванне павінна пранізваць усю нашу масавую палітыка-выхаваўчую работу, але ў вясновa-летні час неабходна яго ўзмацніць. Побач з растлумачэннем класавай сутнасці рэлігіі, яе контррэволюцыйнага характару, неабходна дабіцца, каб усе калгаснікі, соўгасныя рабочыя і працоўныя аднаасобнікі ў дні рэлігійных свят, як адзін, выходзілі на работу, вялі барацьбу з рэлігійнымі забабонамі і традыцыямі.

Побач з растлумачэннем сутнасці ленінскай нацпалітыкі, яе канкрэтнай рэалізацыі ва ўмовах БССР, скажэнняў і ўхілаў ад яе (асабліва на фактах дзейнасці беларускіх контррэволюцыйных нацдэмаў), неабходна разгарнуць узаемадапамогу і соцспаборніцтва паміж нацыянальнымі калгасамі з тым, каб наша антырэлігійная і інтэрнацыянальная работа дала найбольшы эфект і служыла адным са сродкаў барацьбы за большэвіцкае правядзенне сяўбы.

Органы АНА і саюза працасветы павінны не толькі забяспечыць актыўны ўдзел школы ў пасяўной, але і зрабіць пасяўную кампанію гэтага году пераломным момантам у справе стварэння ўласнай харчовай базы. Кожны вясковы настаўнік павінен засеяць агарод і набыць сабе карову. Кожная школа павінна мець пэўны прышкольны ўчастак.

Разгортваючы падрыхтоўку да вясенняй пасеўнай кампаніі на прышкольных участках, трэба дабіцца, каб у гэтым годзе кожная школа поўнасцю выканала план сяўбы, палепшыла якасць апрацоўкі зямлі і ўхода за пасевамі, а таксама ўмацавала сваю жывёлагадоўчую базу, арганізуючы свінарнікі, трусатнікі і г. д. Асабліва важнае значэнне мае замацаванне за школамі зямельных участкаў. Работнікі школы павінны цвёрда помніць, што першае назначэнне прышкольных участкаў гэта служыць базай правядзення працоўнага навучання. Пагэтаму ў работу на гэтых участках павінны быць уцягнуты ўсе вучні, з улікам іх узростных асаблівасцяў і запатрабаванняў школьнай праграмы. Кожная школа абавязана к пачатку вясенняй сяўбы скласці чоткі вытворчы і вучэбна-мэтадычны план работы на прышкольным участку, асвятляючы на занятках значэнне сяўбы, ход яе і г. д.

У мінулым годзе былі выпадкі, калі ў некаторых раёнах у час пасеўнай кампаніі мясцовыя арганізацыі адрывалі школьнікаў ад вучобы і пасылалі іх на ўсякія палявыя работы ў калгасах і соўгасах. Гэта рабілася нібы з мэтай ліквідацыі прарываў і актыўнага ўдзелу ў пасеўнай. Гэтыя перагібы, наносячыя вялікую шкоду ўсенавучу, ні ў якім разе не павінны паўтарацца. Нельга дапускаць, каб удзел у пасяўной зрываў нармальны ход заняткаў. Уцягваючы вучняў у барацьбу за паспяховае правядзенне сяўбы, неабходна помніць, што яна супадае з вельмі сур'ёзным і адказным перыядам у школе, калі вучні павінны старанна падрыхтавацца да пераводных іспытаў і забяспечыць у гэтым годзе высокую якасць учобы. Вось чаму ўдзел вучняў у пасяўной павінен быць строга прадуман і спланаван такім чынам, каб ён не перагружаў рабят, а, наадварот, садзейнічаў яшчэ лепшаму ўсваенню ведаў, умацаванню свядомай дысцыпліны і комуністычнай маралі.

Вясенняя пасеўная кампанія на прышкольных участках можа быць праведзена паспяхова толькі тады, калі самі калгасы, соўгасы і МТС акажуць школе рэальную дапамогу ў апрацоўцы прышкольнага зямельнага ўчастка: даць цяглавую і рабочую сілу, узараць прышкольны ўчастак—доўг кожнага калгасніка. На выкананне непасільных для дзяцей работ на прышкольных участках трэба мабілізаваць сілы грамадскасці і ў першую чаргу бацькоў вучняў.

Разгортваючы актыўную работу па правядзенні большэвіцкага сева ў соцыялістычным сектары, нельга аднак забываць і аднаасобнікаў. Аднаасобны сектар у БССР займае яшчэ вялікае месца ў выкананні ўсіх сельскагаспадарчых кампаній, ігнараваць яго ў падрыхтоўцы і правядзенні веснавой сяўбы ні ў якім разе нельга. Трэба так падрыхтаваць аднаасобніка да вясны, каб забяспечыць поўнае добраякаснае выкананне ў самыя кароткія тэрміны плана вясновых работ. Трэба памятаць, што працоўны аднаасобнік—гэта наш заўтрашні калгаснік. У рэзультаце падрыхтоўкі аднаасобніка да сяўбы павінен быць створан новы прыліў сераднякоў і беднякоў ў калгасы. Калгасы і соўгасы павінны дапамагчы працоўным аднаасобнікам у іх рабоце, прыцягваючы і аднаасобнікаў на дапамогу калгасу.

Партыя і ўрад ствараюць калгаснікам максімальна спрыяючыя ўмовы для арганізацыі і правядзення сяўбы. Вядома, якая вялікая дапамога аказваецца сялянству пролетарскай дзяржавай. Калгасы

маюць усе ўмовы для шпаркага прасоўвання ўперад і падняцця матэрыяльнага добрабыта калгаснікаў. Адзінае, што зараз патрабуецца ад калгаснікаў—гэта сумленна працаваць і берагчы калгасную маёмасць. Толькі ў нашай краіне працоўны селянін акружан клопатамі і дапамогай партыі і ўрада. Сёлета, як ні ў адну яшчэ вясну, калгасы маюць у сваіх руках усё для таго, каб дабіцца высокага ўраджая і хуткага роста жывёлагадоўлі. Уся справа зараз у правільнай арганізацыі работы, ва ўменні спалучаць расстаноўку людзей і машын, з яшчэ большым узмацненнем працоўнай дысцыпліны ў брыгадзе, калгасе, рашучым выгнанні са сваіх радоў агентаў класавага ворага і ўсякага рода дэзарганізатараў, зрываючых работу.

Тав. Сталін указаў у сваім дакладзе на XVII з'ездзе, што жанчына ў калгасе,—гэта вялікая сіла. Правільна выкарыстаць гэтую сілу з найбольшай эфектыўнасцю, высунуць лепшых з іх на кіруючую работу, адначасова з гэтым забяспечыць ім усе ўмовы для паспяховай работы,—такава задача калгаса. Школа павінна дапамагчы праўленню калгаса і соўгаса ў гэтай справе, арганізаваць пры кожным калгасе дзіцячую пляцоўку, яслі, акружыць гэтыя дзіцячыя ўстановы вялікай увагай, дапамагчы маладым дашкольным работнікам наладзіць работу. Праз вучняў школы трэба зрабіць неабходныя цацкі для дашкольнікаў. Шэфства школы над дашкольнымі ўстановамі будзе мець вялікае значэнне ў справе паляпшэння іх работы.

Удзел школы ў веснавой пасеўкампаніі гэтага году яшчэ больш узмацніць ідэёва-палітычны ўзровень настаўніцтва. Яно пад кіраўніцтвам палітаддзелаў і партарганізацыі яшчэ больш узДыме сваю палітычную актыўнасць, загартуецца ў класавай барацьбе, яшчэ цясней звяжа нашу школу з соцыялістычным будаўніцтвам, з выкананнем важнейшых палітычна-гаспадарчых заданняў партыі і ўрада.

Няўхільна ўздымаючы якасць вучобы, разгортваючы пасільны і актыўны ўдзел дзяцей у пасяўной,—мы даб'емся роста іх палітычнай актыўнасці, узмацнення антырэлігійнага і інтэрнацыянальнага выхавання, узмацнення свядомай дысцыпліны і пролетарскага калектывізма. Чым лепш будзе працаваць школа, чым вышэйшыя будуць якасныя паказчыкі яе вучэбна-выхаваўчай работы і ўдзел ў большэвіцкай сяўбе,—тым больш эфектыўнай будзе наша работа па выхаванню пакалення, здольнага канчаткова пабудаваць комунізм.

*В. Зайцаў*

*А. Джэлюк*

# Перамога ленінскай нацпалітыкі

Мудрэйшы правадыр сусветнага пролетарыята т. **Сталін** на XVI з'ездзе партыі гаварыў, што **„перыяд дыктатуры пролетарыята і будаўніцтва соцыялізма ў СССР ёсць перыяд росквіта нацыянальных культур, соцыялістычных па зместу і нацыянальных па форме“**. Гэта ўстаноўка правадыра цалкам і поўнасцю падцвярджаецца на факце існавання совецкіх рэспублік, на факце росквіту экономікі і соцыялістычнай культуры ў іх.

Буйнейшыя перамогі, якія атрыманы нашай партыяй па будаўніцтву соцыялізма, забяспечылі росквіт экономікі і культуры Совецкай Беларусі. Няма і не можа быць ніякіх параўнанняў паміж старой царскай Беларуссю—калоніяй рускага самаўладства і Беларуссю Совецкай, якая, дзякуючы кіраўніцтву комуністычнай партыі, дзякуючы ленінскай нацыянальнай палітыцы, геніяльна прадоўжанай тав. **Сталіным**, забяспечыла пад'ём экономікі, культуры і добрабыту шырокіх працоўных мас.

Ці мела ў мінулым Беларусь колькі-небудзь развітую прамысловасць? Ці можна назваць прамысловасцю тыя старыя паўсаматужныя прадпрыемствы, якія былі раскіданы на тэрыторыі былой царскай акраіны? Досыць указаць, што па ўсіх прадпрыемствах колькасць рабочых дасягала якіх-небудзь 23 000 чал. Гэта-ж факт, што ў Беларусі не было ніводнага высока-тэхнічна абсталяванага прадпрыемства.

Яшчэ горш было становішча ў сельскай гаспадарцы. Сталыпінскія хутары і экстэнсіўнае вядзенне гаспадаркі, якое прымянялася ў большай частцы Беларусі, праспалосіца, непраходзімыя балоты—вось што было характэрным для сельскай гаспадаркі. Беларуская вёска амаль не мела і паняцця аб сельскагаспадарчых машынах. Толькі невялічкая вярхушка вёскі—з кулакоў і шляхты карысталася простымі поўскладанымі машынамі. Як правіла „самабытную“ саху, драўляную барану па вузкіх сялянскіх шнурах цягнула карова. Звыш 60% усіх зямель, да таго-ж найбольш лепшых і ўдобных знаходзілася ў руках памешчыкаў і кулакоў. Нішчата, малазямелле, беспашчадная эксплаатацыя памешчыкамі і кулакамі працоўнага сялянства, перасяленне ў розныя месцы аж да эміграцыі ў Амерыку дапаўнялі „твар“ беларускай вёскі.

На сярэдневяковым узроўні знаходзілася і культура. Нават тыя невялічкія расткі буржуазнай культуры, якія праводзіліся ў сярэдняй Расіі, былі недаступны рабочаму і селяніну Беларусі. Працоўныя Беларусі цярпелі падвойны прыгнёт—нацыянальны і соцыяльны. У дарэволюцыйнай Беларусі мы мелі больш 70% непісьменнага насель-

ніцтва, не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы, адсутнічалі школы на роднай мове, поўная забарона ўсялякіх друкаваных выданняў на беларускай мове—ці ўсё гэта не з'яўляецца яскравымі паказчыкамі той палітыкі, якая праводзілася царызмам у дачыненні да сваіх калоній?

Кастрычніцкая рэволюцыя знішчыла нацыянальнае і соцыяльнае прыгнечанне, ліквідавала палітычнае нераўенства нацыянальнасцей, стварыла ўсе ўмовы для хуткага і паспяховага развіцця эканомікі культуры тых народаў з нацыянальных меншасцей, якія раней знаходзіліся пад прыгнечаннем царскага самаўладства. У рэзультаце правільнага ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі большэвікоў, мы маем росквіт эканомікі і трыумф пролетарскай культуры Совецкай Беларусі.

Толькі ў рэзультаце правільнага правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі, Совецкая Беларусь зараз мае дзесяткі новых, узброеных перадавой тэхнікай заводаў дрэваапрацоўчай, скураной, запалкавай, шкляной, харчавой, швейнай, металаапрацоўчай і кірамічнай прамысловасці. Мы зараз маем такія прадпрыемствы, якія з'яўляюцца гігантамі не толькі ў Беларусі, але і ў маштабе ўсяго вялікага Саюза ССР. Укажам хоць-бы на Гомельскі завод сельскагаспадарчых машын з праектнай магутнасцю ў 27 млн. рублёў, Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат з гадавой прадукцыяй у 20 млн. руб., швейная фабрыка „Сцяг індустрыялізацыі“, велізарны цэментны завод, трубаліцейны завод, і касцюкоўскі шкляны завод і г. д. і т. п. Былыя дробныя саматужныя майстэрні выраслі ў магутныя прадпрыемствы, узброеныя навейшымі дасягненнямі тэхнікі і навукі. Аб велізарнейшым росце нашай соцыялістычнай прамысловасці яскрава гаворыць той факт, што аб'ём прамысловай прадукцыі ў параўнанні з 1913 годам павялічыўся ў 10 разоў, а колькасць рабочых—да 105 тыс. чалавек.

Бурны і небачаны ў гісторыі рост прамысловасці уцягнуў у вытворчасць дзесяткі тысяч рабочых з беларускай вёскі, дзякуючы чаму значна змяніўся нацыянальны склад пролетарыята БССР. Удзельная вага беларусоў у складзе рабочых буйнай прамысловасці толькі за гады першай пяцігодкі павялічылася з 21 да 62%, а па цэлым радзе галін прамысловасці гэты проц. павялічваецца да 75—85. Павялічылася колькасць рабочых і іншых нацыянальнасцей з карэннага насельніцтва Совецкай Беларусі.

Паспяховае вырашэнне задач, пастаўленых партыяй у галіне індустрыялізацыі, стварыла базу для соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. У сучасны момант больш 52% індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак ужо аб'яднаны ў калгасы, якія прымяняюць перадавую машынную тэхніку. Створана звыш 430 буйнейшых соўгасаў. На калгасных палях работае звыш 2000 трактароў, колькасць якіх сёлета будзе павялічана яшчэ амаль на 800 трактароў. Калгасны строй ліквідаваў у асноўным кулацтва, як клас, выкарчоўваюцца апошнія астаткі капіталістычных элементаў у вёсцы. Пад кіраўніцтвам КП(б)Б, ажыццяўляючы ўказанні свайго друга і настаўніка тав. Сталіна, калгаснікі пры дапамозе створаных партыяй палітаддзелаў МТС, дасягнулі значных поспехаў на шляхуператварэння калгасаў у большэвіцкія, а калгаснікаў у заможных. 5—6 кілограм зернавых культур і 10—15 *кгр* бульбы—вось паказчыкі вагі працадня калгасніка пераважнай большасці калгасаў Совецкай Беларусі. Выраслі і пасеўныя плошчы Беларусі. Калі ў 1913 годзе пасеўная плошча складала 2390 тыс. *га*, то ў 1933 годзе ўжо 3711 тыс. *га*, у тым ліку соўгасы займаюць 239 тыс. *га* і калгасы 1863 тыс. *га*.

Буйнымі, небачанымі тэмпамі расце электраўзброенасць народнай гаспадаркі. Толькі за годы першай пяцігодкі тут мы маем рост амаль на 500%. Так, калі ў 1928 годзе магутнасць электрастанцыі складала 14 400 кіловат, то ў сучасны момант яна складае ўжо 70 000 кіловат. Выработка электраэнергіі ў 1928 годзе складала 35 млн. кіловат гадзін, а за мінулы 1933 год яна дасягнула 220 мільёнаў кіловат гадзін.

На базе гістарычных перамог у галіне індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі Совецкай Беларусі, рабочы клас пад кіраўніцтвам КП(б)Б дасягнуў бурнага росквіту культуры нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу. З кожным годам неўхільна павышаецца матэрыяльны дабрабыт працоўных, растуць іх культурныя запатрабаванні, а разам з гэтым расце і задавальненне культурных запросаў мільённых працоўных мас.

Возьмем такую галіну, як дашкольнае выхаванне. Да Кастрычнікавай рэволюцыі ў Беларусі былі адзінкі прыватных дзіцячых садоў, даступных толькі нязначнай часціцы дзяцей буржуазіі. Размах дашкольнага выхавання ў БССР настолькі вялікі, што дзіцячы сад, дзіцячыя пляцоўкі і яслі сталі звычайным з'явішчам у самых далёкіх кутках рэспублікі. Рост і развіццё дашкольнага выхавання з'яўляецца арганічнай часткай агульнага ўздыма соцыялістычнай будоўлі. Толькі совецкая ўлада паспяхова вырашае ўсеагульнае дашкольнае выхаванне. Зараз рознымі дашкольнымі ўстановамі ў БССР ахоплена 31,6% дзяцей дашкольнага ўзроста, а да канца другой пяцігодкі мы забяспечым усіх дзяцей гэтага ўзроста рознага тыпа дашкольнымі ўстановамі. У рэзультаце правільнага правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі нашы дашкольныя ўстановы абслугоўваюць дзяцей працоўнага насельніцтва ўсіх нацыянальнасцей на іх роднай мове.

Яшчэ большыя поспехі мы маем у галіне будаўніцтва совецкай палітэхнічнай школы. У дарэволюцыйнай Беларусі не было зусім беларускіх і нацменаўскіх школ. Наогул, напярэдадні імперыялістычнай вайны пачатковай школай было ахоплена толькі каля 28% дзяцей, а астатняя дзетвара, голоўным чынам, дзеці гарадской і сялянскай бедната абракаліся царызмам на вечную непісьменнасць. Гэтай-жа палітыкі прытрымліваліся і беларускія контррэволюцыйныя нацдэмы на чале з Баліцкімі, Ігнатоўскімі, Лёсікамі і К⁰, якія так „планавалі" ўвядзенне ўсенавуча за пачатковую школу, што ён змог-бы ажыццявіцца толькі ў 1934/35 навучальным годзе, якія прапаведвалі „тэорыйку" аб тым, што для дзяцей рабочых досыць і пачатковай школы.

Комуністычная партыя большэвікоў Беларусі, разграміўшы контррэволюцыйных нацдэмаў і іх шкодніцкія планы, прывяла рабочы клас, калгаснае сялянства і працоўных БССР да велізарнейшых перамог на фронце школьнага будаўніцтва. Дастаткова ўказаць, што ў нас не толькі ажыццяўлён усенавуч за пачатковую школу, але ажыццяўляецца ўсеагульнае абавязковае навучанне за 7-гадовую школу і яшчэ з 1932 года прыступлена да ажыццяўлення праграмы партыі аб усеагульным агульна-адукацыйным і палітэхнічным навучанні дзяцей і падлеткаў ва ўзросце ад 8 да 17 год,—10-гадовая палітэхнічная школа становіцца фактам не толькі ў гарадах, але і цэлым радзе сельскіх раёнаў. Калі ў дарэволюцыйнай Беларусі школамі было ахоплена каля 28% дзяцей школьнага ўзроста, дык зараз у нашых школах першага і другога канцэнтра навучаецца 937 тыс. дзетвары,—ці звыш 95% усіх дзяцей школьнага ўзроста.

Дарэволюцыйная Беларусь не мела ніводнага тэхнікума, ніводнай вышэйшай навучальнай установы, Совецкая ўлада шырока адкрыла

дарогу ў вышэйшую і сярэднюю школу, да навуковай работы рабочым і працоўным сялянам БССР. На тэрыторыі Савецкай Беларусі мы маем зараз 19 ВНУ і ВТНУ, 83 тэхнікумы, каля 30 розных навукова-даследчых устаноў, Беларускую Акадэмію Навук. У вышэйшых навучальных установах, тэхнікумах і рабфаках Беларусі навучаецца звыш 50 тыс. чалавек. Социяльны склад студэнцтва ў 1933 годзе—72,6% рабочых і працоўнага сялянства лепш за ўсё абвяргае прапагандаваўшуюся ў свой час беларускімі нацдэмамі „тэорыю“ аб тым, што рабочаму не пад сілу навучаць сваіх дзяцей у 7-годцы, а таму, моў, дастаткова з іх пачатковай школы. Дзеці рабочых, калгаснікаў і працоўных сялян аднаасобнікаў канчаюць не толькі 7-годкі, але прадаўжаюць навучанне ў рабфаках, тэхнікумах і ВНУ.

Совецкая Беларусь не толькі поўнасцю ліквідавала непісьменнасць, не толькі ажыццявіла ўсенавуч за пачатковую школу і ажыццяўляе ўсеагульнае абавязковае навучанне за 7-гадовую школу, але шырока разгарнула і падрыхтоўку сваіх пролетарскіх высока кваліфікаваных кадраў з карэннага насельніцтва рэспублікі для ўсіх галін нашай соцыялістычнай гаспадаркі. У дзесятках навуковых устаноў Беларускай Акадэміі Навук распрацоўваецца рад навуковых праблем, навука перастала быць дастаяннем „избранных“, а стала здабыткам шырокіх мас рабочых і калгаснікаў.

Комуністычная партыя большэвікоў Беларусі, як неадлучную частку ў правядзенні ленінскай нацпалітыкі паставіла абслугоўванне працоўных мас усіх нацыянальнасцей, насяляючых БССР, кнігай, часопісам і газетай на роднай іх мове. Рост нашага друку і літаратуры, і ў першую чаргу беларускай, з'яўляецца якасным выражэннем роста культурных запатрабаванняў мільёнаў працоўных мас, культурнага ўздыма Совецкай Беларусі, дасягнутага на аснове гіганцкага гаспадарчага і культурнага росту нашай рэспублікі.

Аб бурным развіцці і тэмпах нашай кніжнай прадукцыі гавораць ітогі работы Белдзяржвыдавецтва. Калі ў 1925 г. было выдадзена 118 назваў беларускіх кніжак з тыражом у 1 431 тыс. экз., то ў 1933 годзе ўжо 654 назвы з тыражом 7 719 тыс. экз. Адпаведна на яўрэйскай мове было выдадзена 14 назваў, тыражом 63 тыс. экз. і 69 назваў тыражом 510 тыс. экз.; польскіх—4 назвы—17 тыс. экз. і 32 назвы тыражом у 130 тыс. экз. У 1925 г. не было выдадзена ніводнай літоўскай кніжкі, а ў 1933 годзе—20 назваў з тыражом 33 000 экз. і т. д. Наогул у перыяд з 1925 па 1933 год уключна на мовах усіх нацыянальнасцей, насяляючых БССР, выдадзена 5592 назвы з агульным тыражом у 45 167 тысяч экземпляраў, што складае ў сярэднім каля 9 кніжак на душу насельніцтва.

Зараз у БССР выдаецца 11 цэнтральных газет, 75 раённых і гарадскіх, 53—пры палітаддзелах МТС і соўгасаў, каля 100 фабрычна-завадскіх і іншых шматтыражак, 6 чыгуначных і воднага траспарта ды інш. Агульны тыраж друкаваных газет Совецкай Беларусі зараз складае каля 800 000 экз. Пераважная большасць газет выдаецца на беларускай мове, а рэшта на мовах нацыянальных меншасцей.

Створана і дасягнула нябачанага росквіта совецкая беларуская і нацменаўская літаратура, створаны беларускі, яўрэйскі, польскі і рускі дзяржаўныя тэатры. Калі ў дарэволюцыйнай Беларусі налічваўся 31 кіно-тэатр, дык зараз мы маем больш 1000 стацыянарных і перасовачных кіно. Параўнальна шырока разгорнута радыёабслугоўванне,—некалькі сваіх радыёвяшчальных станцый, вялікая колькасць радыёвузлоў, звыш 5500 эфірных радыёўстановак і 35 тысяч радыёкропак.

У Беларускай ССР налічваецца больш 1500 сельскіх і раённых дамоў соцкультуры, каля 10 000 чырвоных куткоў і клубаў. Можна смела сказаць, што мы сёння не знойдзем амаль ніводнага прадпрыемства, соўгаса і калгаса, якія не мелі-б свайго чырвонага кутка ці клуба. Разгорнута барацьба за ажыццяўленне ўсенавуча для малапісьменнага працоўнага насельніцтва на базе чатырохгадовай палітэхнічнай школы. Наогул па рэспубліцы з пяці чалавек кожныя двое ахоплены тым ці іншым відам вучобы.

Хіба ўсе гэтыя факты і лічбы не з'яўляюцца бліскучым доказам правільнасці сцвярджэння правадыра **тав. Сталіна**, што „перыяд дыктатуры пралетарыята і будаўніцтва соцыялізма ў СССР ёсць перыяд росквіту нацыянальных культур, соцыялістычных па зместу і нацыянальных па форме“?

Беларусь з самых адсталых акраін былой царскай Расіі ператварылася ў індустрыяльна-аграрную рэспубліку, у адну з перадавых рэспублік Савецкага Союза не толькі па росквіту сваёй эканомікі, але і культуры нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу. Усе гэтыя поспехі не прышлі самацёкам. Гэты росквіт з'яўляецца рэзультатам таго, што КП(б)Б цвёрда праводзіла генеральную лінію партыі, бязлітасна змагаючыся з усялякімі ўхіламі ад яе. Гэтага велізарнейшага роста наша рэспубліка дасягнула на аснове брацкай дапамогі пралетарыята ўсяго Саюза ССР. Нашы поспехі—рэзультат ленінскага кіраўніцтва ЦК ВКП(б) на чале з мудрэйшым правадыром партыі і сусветнага пролетарыята тав. **Сталіным**.

Нашы поспехі ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва даліся ва ўпартай і ўдарнай працы, яны суправаджаліся разгорнутай барацьбой з класавым ворагам. Заядлыя ворагі працоўных Беларусі—беларускія нацдэмы ў саюзе з нацыянал-фашыстамі Луцкевічамі, Ярэмічамі, Астроўскімі і К°—спрабавалі надзець на рабочага і селяніна панскае ярмо. Пад выглядам барацьбы за „незалежнасць“ і „самастойнасць“ Беларусі,—яны імкнулісяператварыць Беларусь у калонію імперыялістычных дзяржаў.

А калі Чырвоная армія нагалаву разграміла інтэрвентаў і іх лёкаяў—беларускіх нацдэмаў, апошнія перамянілі тактыку. Перафарбаваўшыся, яны прабраліся на розныя ўчасткі нашага соцыялістычнага будаўніцтва, каб знутры падрыхтаваць рэстаўрацыю капіталізма ў Беларускай ССР.

Асабліва моцна ў свой час разгарнулі сваю контррэволюцыйную дзейнасць беларускія нацдэмы на ідэалагічным фронце. Аплотам іх дзейнасці былі Наркамасветы і Інстытут беларускай культуры, а потым Акадэміі навук і цэлы рад іншых навукова-даследчых інстытутаў, якія пад кулацкую практыку падводзілі нацыянал-шавіністычную тэорыю. Нацдэмаўшчына працягвалася на розных каналах. У Інбелкульце сядзела група нацдэмаў на чале з былым Наркамасветы Баліцкім, правакатарам-шпіёнам „прафесарам“ Ігнатоўскім, Ластоўскімі, Лёсікамі і інш. Беларускія нацдэмы ў падручніках, у падборы кадраў выходзілі выключна з сваіх контррэволюцыйных мэт. Возьмем да прыкладу гісторыю з падручнікамі. Найлепшым лічыўся той падручнік, у якім зусім не ўпаміналася такіх слоў, як „савецкая ўлада“, „дыктатура пралетарыята“, „комуністычная партыя“. Успомнім прадмову нацдэма Каравайчыка да зборніка твораў Янкі Купалы... Ён проста выступаў супроць пролетарскага герба, які быў на гэтай кніжцы.

„На апошняй старонцы вокладкі,—пісаў Каравайчык,—клеймо фірмы з пролетарскім сімвалам (серп і молат, рука з парванымі

ланцугамі і факелам і надпіс „Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся“). Баюся паказацца неблаганадзейным, але павінен выступіць супроць такога клейма на культурна-асветных кніжках“.

Болей пахабнага выпада супроць міжнароднага сімвала пролетарыята цяжка сабе ўявіць.

Шмат „папрацавалі“ ў свой час беларускія нацдэмы і ў галіне мовазнаўства. Яны выганялі з мовы ўсё тое, што магло парушыць ідэю „самабытнасці“ беларускага народа. Шырокім асветніцкім масам досыць добра знаёмы „практыкаванні“ нацдэмаў, якія, напрыклад, слова „пролетарыят“ перакладалі на „ўбоства“, слова „беднота“ на „голыцьба“ і „лодыр“. У картатэцы інстытута мовазнаўства БАН можна знайсці і такія перлы нацдэмаўскага пяра, як „рабочий“ перакладаецца на „рабочай“, „работніца“—на „рабочайка“, „сын настаўніка“—на „бакаляронак“, а займацца выхаваннем дзяцей у нацдэмаў перакладалася адным словам—„бакаляраваць“ і т. д. і т. п.

Вядомы нацдэм Лёсік прымушан быў прызнаць, што:

„Мову рабочых і бяднейшага сялянства мы свядома ігнаравалі, мы бралі ўстаноўку на кулацкія элементы сялянскага насельніцтва“.

Наколькі моцна прывівалася нацыяналістычная атрута падрастаючаму пакаленню, сведчыць хоць-бы той факт, што на геаграфіі вучням прывівалася ідэя, што граніца Беларусі знаходзіцца пад Масквой. „Самабытнасць“ беларускага народа і беларускай абшчыны прапаведвалася на кожным кроку.

У гістарычных работах узводзіліся ў нацыянальныя героі правадыры польскіх памешчыкаў, як, напрыклад, Кастусь Каліноўскі, ідэалізавалася беларуская соцыялістычная грамада. Ва ўсіх галінах навукі васпеваўся буржуазны нацыяналізм, адкрыта прапаведвалася ідэя арыентацыі на капіталістычны захад.

Працоўныя Совецкай Беларусі добра памятаюць той перыяд, калі беларускія нацдэмы з мэтай аддаліць БССР ад Совецкага Саюза і арыентавацца на капіталістычны захад высоўвалі лацінізацыю беларускага альфабета. Памятаюць працоўныя і факты, калі нацдэмы з пенай у рта выступалі супроць пастаноўкі беларускімі тэатрамі п'ес рускіх пролетарскіх пісьменнікаў. На гэту тэму нават была своеасаблівая дыскусія, якая праводзілася на старонках газеты „Совецкая Беларусь“. Ідэі арыентацыі на Захад прысвячаліся цэлыя мастацкія творы. Так нацдэм паэт Дудар напісаў спецыяльную кніжку пад назвай „Вецер з усхода“ (чытай з Масквы), у якой даводзіць, што гэты вецер прыносіць разлажэнне для беларускай моладзі.

Большэвікі Беларусі пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б разграмілі беларускіх контррэволюцыйных нацдэмаў і забяспечылі бурны росквіт экакомікі і нацыянальнай пролетарскай культуры. Разбіты, але недабіты класавы вораг не раз прабаваў свае шкодніцкія дзеянні, свой контррэволюцыйны, інтэрвенцыянісцкі твар, хаваць пад квяцістай мішурой нацыянальнай фразеалогіі. Дзейнічаючы пад фальшыва нацыяльным флагам, прымяняючы тактыку „ціхай сапы“, ён пускаў корні там, дзе партыйная арганізацыя траціла класавую пільнасць.

Пры дапамозе ЦО партыі „Правда“ ў мінулым годзе былі ўскрыты факты актывізацыі нацдэмаўскага атрэп'я за спіной комуністаў, згубіўшых класавую пільнасць ў Наркамземе, Наркамасветы, Белдзяржвыдавецтве, на літаратурным фронце, на фронце падрыхтоўкі кадраў і будаўніцтва палітэхнічнай школы. Возьмем для прыкладу літаратурны фронт. Сымон Баранавых напісаў паэму „Матчын сын“, у якой у завуаляванай форме прапаведваў нацдэмаўскія ідэі. Нікановіч

у сваім творы „Журав'ны" працягваў ідэйку безысходнага становішча інтэлігенцыі ў совецкай краіне, Сідарэнка-Пеначкін у непрыкрытай форме выступаў супроць установак партыі. Апарат Наркамасветы ў недалёкім мінулым быў засмечан нацдэмаўскімі і іншымі класава-варожымі элементамі, якія працягвалі справу Бэліцкага і Ігнатоўскага. У падручніках і праграмах працягвалася нацдэмаўская кантрабанда.

ЦК ВКП(б) ускрыў скажэнні ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі ў Беларусі. Партыйныя і совецкія арганізацыі БССР не ўлічылі новых абставін новай тактыкі класавага ворага на фронце нацыянальна-культурнага будаўніцтва. Былі ўскрыты факты няправільнага правядзення беларусізацыі без уліку канкрэтных асаблівасцей кожнага раёна, ігнараванне ў радзе гарадоў і раёнаў культурных інтарэсаў і запатрабаванняў значных мас нацыянальных меншасцей. Асабліва антыпартыйным была забарона карыстацца рускай мовай у звароце да дзяржаўных і іншых арганізацый, а таксама і ў прыватным быту. Варта ўспомніць толькі гісторыю ганення і цкавання настаўніка Сцяпуры ў Бобрскай ШКМ. Настаўнік Сцяпура праследваўся толькі за тое, што ён напісаў ў сельсовет запіску на рускай мове і гутарыў з сваёй жонкай на рускай мове. Гэты прыклад шэльмавання і абвінавачвання настаўніка за нібы вялікадзяржаўны шавінізм, на справе быў яскравым праяўленнем мясцовага буржуазна-кулацкага нацыяналізма. У Віцебскай партарганізацыі выключылі з партыі лепшых ударнікаў-рабочых за тое, што яны свой дагавор па соцпаборніцтву пісалі на рускай мове.

У мэтах зблiжэння пралетарыяў і поўпралетарыяў розных нацыянальнасцей для сумеснай рэволюцыйнай барацьбы, наша партыя і совецкая ўлада разгортвалі і разгортваюць гіганцкае будаўніцтва культуры соцыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме. Значэнне гэтага будаўніцтва добра ўлічваюць не толькі рабочыя і калгаснікі, але і нашы ворагі. І недарэмна яны сюды накіроўваюць сваю шкодніцкую дзейнасць,—яны разумеюць, што ў зблiжэнні працоўных розных нацыянальнасцей наша гіганцкая сіла.

**„Мы—праціўнікі нацыянальнай вражды, нацыянальнай абасобленасці,—гаварыў В. І. Ленін,—мы—міжнародныя інтэрнацыяналісты".**

Высока нясучы свае баявыя сцягі з гэтымі ленінскімі лозунгамі, партыяператварыла нашу краіну **„ў замечацельную арганізацыю супрацоўніцтва народаў" (Сталін).**

Буржуазныя нацыяналісты ўсіх колераў, прыкрываючыхся фальшывым нацыянальным сцягам і ратуючы за так званую „культурна-нацыянальную аўтаномію", на самай справе дамагаюцца нацыянальнай абасобленасці і розні, нацыянальнай вражды народаў Саюза ССР. Праз нацыянальную рознь працоўных нацдэмы спадзяваліся і спадзяюцца падрыхтаваць глебу для імперыялістычнай інтэрвенцыі, падарваць дыктатуру пролетарыята, умацаванне якой нам патрэбна для таго, каб „развеяць у прах апошнія астаткі ўміраючых класаў". Класавыя ворагі, сазнаючы сваю немінучую гібель, не грэбуюць нават такімі прыёмамі, як уваход у комуністычную партыю, каб знутры разлагаць яё. Усе гэтыя Метлы, Дварчаніны, Мацюкевічы пад прыкрыццём партыйнага білета, імкнуліся ўсцяж сваю контррэволюцыйную работу. Такая тактыка нашых класавых ворагаў не нова. Гэтыя паны, прадстаўляючы інтарэсы капіталістычных элементаў, у тым ліку і кулацтва, упаўне ўсвоілі прыёмы аджываючых класаў, для якіх абман і двурушніцтва

заўсёды былі важнейшай зброяй у эксплаатацыі працоўных мас. Беларускія нацдэмы, разгромленыя партыяй, але недабітыя, змыкаючыся з імперыялістычнымі інтэрвентамі, вялі і вядуць самую шалёную барацьбу супроць совецкай улады. Прыкрываючыся фальшывым нацыянальным сцягам, дзейнічаючы „ціхай сапой“, яны прыбягаюць да самых markup разнастайных форм сабатажа, шкодніцтва, двурушніцтва і разлажэння знутры. Контррэволюцыйныя нацыяналістычныя элементы асабліва шкодзілі, і зараз пытаюцца шкодзіць у культурных установах, імкнучыся працягваць лінію Ігнатоўскіх, Баліцкіх, Ластоўскіх і Лёсікаў, яны атручваюць шавіністычнай атрутай дзяцей, прабіраючыся ў нашы школы.

З моманта Кастрычніцкай рэволюцыі нацдэмы становяцца платнымі агентамі то польскай дэфензівы, то германскага генеральнага штаба, а то служаць адначасова ім абодвым. Беларускія нацдэмы на ўсіх стадыях контррэволюцыйнай дзейнасці ставілі стаўку на імперыялістычную інтэрвенцыю, на адрыў БССР ад Совецкага Саюза і на ператварэнне нашай рэспублікі ў калонію інастранных капіталістаў. Прыход да ўлады Гітлера акрыліў буржуазных нацыяналістаў. Зараз ужо добра вядома, што яшчэ да прыхода Гітлера да ўлады прадстаўнікі беларускіх нацдэмаў з прыхільнасцю прымаліся ў фашысцкай штабкватэры, дзе яны прыстройвалі „нацыянальнае адраджэнне“ к новаму гаспадару. Цяпер устаноўлена шчыльнейшая сувязь нацдэмаў і з польскім фашызмам і з гітлераўскім фашызмам, іх сістэматычная падрыхтоўка інтэрвенцыі супроць СССР. Да нас пад відам палітэмігрантаў, праследуемых рэволюцыйных барацьбітоў, замежная контр-разведка падкідывала заведамых шпіёнаў. Ускрытая ў мінулым годзе ў Совецкай Беларусі контррэволюцыйная нацыяналістычная шпіёнская арганізацыя мела ў сваім цэнтры асоб, якія карысталіся рэпутацыяй чэсных рэволюцыйных барацьбітоў, шчырых удзельнікаў нацыянальна-рэволюцыйнага руху. Выявілася, што яны прымалі удзел у нацыянальна-рэволюцыйным руху ў якасці правакатараў і здраднікаў і для той-жа мэты правакацыі і шпіянажа былі перакінуты да нас. Некаторым з іх удалося прабрацца на адказную работу ў наш цэнтральны дзяржаўны апарат, у культурныя ўстановы, дзе яны вялі сваю шпіёнска-шкодніцкую работу, адкуль прабавалі пашырыць свае сувязі і ўплыў для падрыхтоўкі інтэрвенцыі. Устаноўлен цяснейшы блок беларускіх нацыяналістаў з украінскімі, іх агульны саюз з рускімі белагвардзейцамі—прыхільнікамі „единой и неделимой“, цяснейшая сувязь з польскім і германскім фашызмам, іх метадычная падрыхтоўка адрыва Беларусі ад СССР, да антысавецкай імперыялістычнай інтэрвенцыі.

Снежаньскі пленум ЦК КП(б)Б указаў, што **„ў даны момант у Беларусі галоўную небяспеку прадстаўляе мясцовы беларускі нацыяналізм, які змыкаецца з імперыялістычнымі інтэрвентамі. Неабходна асабліва мець на ўвазе новую тактыку рускіх вялікадзяржаўных шавіністаў і беларускіх нацыяналістаў, падтрымліваемых усёй контррэволюцыяй, у тым ліку і трацкістамі, якія на сучасным этапе блакіруюцца паміж сабой на агульнай платформе адрыва БССР ад СССР для аслаблення пазіцый СССР і ўмацавання пазіцыі капіталізма“.**

Для працоўных мас Совецкай Беларусі адрыў ад Совецкага Саюза азначае зварот пад ярмо памешчыкаў, фабрыкантаў і капіталістаў, ператварэнне Беларусі ў калонію замежнага капітала. Што рыхтавалі беларускія нацдэмы для рабочых, калгаснікаў і працоўных БССР, лёгка прадставіць, калі мы паглядзім на Заходнюю Беларусь—калонію польскага фашызма. У Заходняй Беларусі мы бачым соцы-

яльнае і нацыянальнае прыгнечанне працоўных. Беспрацоўе рабочых расце з кожным днём, а з ёю голад і выміранне у рабочых сем'ях. Рабочыя Заходняй Беларусі, якія яшчэ маюць работу, падвяргаюцца самай жорсткай эксплаатацыі і за сваю катаржную працу атрымліваюць поўгалоднае існаванне і трывогу за заўтрашні дзень,—фабрыкант выкіне на вуліцу без ніякіх перспектыў на атрыманне работы. Памешчыцкая і кулацкая кабала беларускіх сялянскіх мас Заходняй Беларусі дайшла да вышэйшай мяжы. Выбіваючыся з сіл на сваім невялічкім кавалку зямлі, у большасці выпадкаў арандаваннем у памешчыка, бязлітасна эксплаатуемы і кулаком і памешчыкам,— беларускі селянін Заходняй Беларусі, не можа забяспечыць сабе і сваёй сям'і нават поўгалоднага існавання. Калі да гэтага дадаць велізарнае абясцэненне працы, бясконцыя і выключна цяжкія падаткі, ціск сістэмы капіталістычнай арэнды і катастрафічнае падзенне цэн на сельскагаспадарчыя прадукты,—то карціна кашмарнейшага становішча беларускага сялянства Заходняй Беларусі будзе болей чым яскрава.

Яркім кантрастам гіганцкаму размаху будаўніцтва нацыянальнай пролетарскай культуры ў Совецкай Беларусі з'яўляецца становішча Заходняй Беларусі. Каб не быць галаслоўным, прывядзем факты. У 1919 годзе ў Заходняй Беларусі існавала каля 400 беларускіх пачатковых школ. Гэта лічба з года ў год змяншалася. У 1931 годзе быў выдан прэзідэнцкі дэкрэт, забараняючы на працягу семі год адкрываць беларускія школы. Але польскаму фашызму гэта паказалася мала. У 1932 годзе былі разгромлены апошнія астаткі беларускіх школ, закрыта адзіная беларуская настаўніцкая семінарыя ў Вільне. Процант непісьменнасці ў Заходняй Беларусі вышэй нават, чым у часы царызма. Да прыкладу ў Палескім ваяводстве непісьменных налічваецца больш 71 проц. Асабліва ярка ў свой час ахарактарызаваў адносіны польскага фашызма да беларускай культуры вядомы фашысцкі дзеяч Галуўка:

„Няма ніякага сэнса,—гаварыў ён, — падтрымліваць сепаратыўныя арганізацыі беларусоў, трэба імкнуцца рашучымі мерамі ўключыць беларусоў у польскі народ. Польскі ўрад з гэтай мэтай не дапускае асобнай беларускай культуры, самае большае—ён церпіць пакуль што беларускія народныя школы з тым, каб гэтыя школы... наблізілі беларускія масы да польскай культуры"...

Вось адкрытая і цынічная фармуліроўка таго, як польская буржуазія праводзіць сваю паланізатарскую палітыку. І вось гэту-то сістэму капіталістычнай эксплаатацыі працоўных мас, вось гэту-то „нацыянальную палітыку" беларускія нацдэмы ў блоку з імперыялістычнымі інтэрвентамі імкнуцца перанесці на нашу совецкую беларускую зямлю. Але гэта ім не ўдасца. Не для таго рабочыя і працоўныя сяляне Беларусі разам з рускімі рабочымі і сялянамі скінулі ўладу капіталістаў і памешчыкаў, каб зноў пасадзіць іх сабе на шыю.

Кастрычніцкая рэволюцыя назаўсёды пакончыла з нацыянальным прыгнечаннем і зацвердзіла брацтва працоўных усіх народаў нашай вялікай краіны. Саюз ССР з'явіўся найвялікшым дасягненнем пролетарскай рэволюцыі, велізарнейшай перамогай ідэй пролетарскага інтэрнацыяналізма. Мы паказалі, што толькі рэволюцыйны пролетарыят здолен да канца вырашыць нацыянальнае пытанне.

XVII з'езд ВКП(б), рабочы клас і працоўныя Совецкай Беларусі адзначылі велізарнейшымі дасягненнямі на ўсіх франтах соцыялістычнага будаўніцтва. У Беларускай ССР, як і ва ўсім Саюзе, соцыялізм перамог канчаткова і беспаваротна. Беспрыкладны ў гісторыі чала-

вецтва нашы поспехі ў развіцці нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу культуры. Гэтыя поспехі соцыялістычнага будаўніцтва, рост магутнасці совецкай дзяржавы „будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх астаткаў паміраючых класаў, могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэволюцыйных партый—эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін, могуць ажыць і заварушыцца асколкі контррэволюцыйных, апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў. Гэта канечна не страшна. Але ўсё гэта трэба мець на ўвазе, калі мы хочам пакончыць з гэтымі элементамі быстра і без асаблівых ахвяр. Вось чаму рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам",—гэтыя ўказанні правадыра тав. **Сталіна** на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б) поўнасцю апраўдаліся ў практыцы соцыялістычнага будаўніцтва БССР.

Тав. **Сталін** у сваім гістарычным дакладзе на 17 з'ездзе партыі з выключнай, свойственнай яму праматой і яснасцю ўказаў:

„... У вобласці нацыянальнага пытання, як і ў вобласці іншых пытанняў у адной часткі партыі ёсць блытаніна ў поглядах, ствараючая пэўную небяспеку. Я гаварыў аб жывучасці перажыткаў капіталізма. Трэба адзначыць, што перажыткі капіталізма ў сазнанні людзей куды больш жывучы ў вобласці нацыянальнага пытання, чым у любой іншай вобласці. Яны больш жывучы, бо маюць магчымасць добра маскіравацца ў нацыянальным касцюме. Многія думаюць, што грэхападзенне Скрыпніка ёсць адзіны выпадак, выключэнне з правіла. Гэта не верна. Грэхападзенне Скрыпніка і яго групы на Украіне не ёсць выключэнне. Такія-ж вывіхі назіраюцца ў паасобных таварышоў і ў іншых нацыянальных рэспубліках.

Што значыць ухіл да нацыяналізма,—усяроўна, ці ідзе гутарка аб ухіле да вялікарускага нацыяналізма, ці аб ухіле да мясцовага нацыяналізма? Ухіл да нацыяналізма ёсць прыстасаванне інтэрнацыяналісцкай палітыкі рабочага класа да нацыяналісцкай палітыкі буржуазіі. Ухіл да нацыяналізма адлюстроўвае спробы „сваёй", „нацыянальнай" буржуазіі падарваць совецкі лад і аднавіць капіталізм. Крыніца ў абодвых ухілах, як бачыце,—агульная. Гэта—адыход ад ленінскага інтэрнацыяналізма. Калі хочаце трымаць пад агнём абодва ўхілы, трэба біць, перш за ўсё, па гэтай крыніцы, па тых, якія адыходзяць ад інтэрнацыяналізма—усёроўна ці ідзе гутарка аб ухіле да мясцовага нацыяналізма, ці аб ухіле да вялікарускага нацыяналізма.

Спрачаюцца аб тым, які ўхіл прадстаўляе галоўную небяспеку, ухіл да вялікарускага нацыяналізма, ці ўхіл да мясцовага нацыяналізма? Пры сучасных умовах гэта—фармальная і таму пустая спрэчка. Глупа было-б даваць прыгодны для ўсіх часоў і ўмоў гатовы рэцэпт аб галоўнай і негалоўнай небяспецы. Такіх рэцэптаў няма наогул у прыродзе. Галоўную небяспеку праўстаўляе той ухіл, супроць якога перасталі бароцца і якому далі такім чынам разрасціся да дзяржаўнай небяспекі.

На Украіне яшчэ зусім нядаўна ўхіл да украінскага нацыяналізма не прадстаўляў галоўнай небяспекі, але калі перасталі з ім бароцца і далі яму разрасціся да таго, што ён самкнуўся з інтэрвенцыяністамі, гэты ўхіл стаў галоўнай небяспекай. Пытанне аб галоўнай небяспецы ў вобласці нацыянальнага пытання вырашаецца не пустапарожнымі фармальнымі спрэчкамі, а марксісцкім аналізам становішча спраў у даны момант і вывучэннем тых памылак, якія дапушчаны ў гэтай вобласці".

Рэволюцыйная пільнасць асабліва неабходна не толькі большэвікам, але і ўсім сапраўды совецкім беспартыйным асветнікам, працуючым на культурным фронце. Школа, ВНУ і ўсякая іншая культасветная ўстанова з'яўляецца моцнай зброяй класавай барацьбы і пролетарскай дыктатуры. Гэта зброя павінна цалкам знаходзіцца ў нашых руках, бо пры дапамозе яе мы выхоўваем шырачайшыя масы ў духу пролетарскага інтэрнацыяналізма і ў інтарэсах дыктатуры пролетарыята. Усялякая спроба класавага ворага скарыстаць школу і культасветныя ўстановы супроць совецкай улады павінны сустрэць самы сакрушальны адпор з боку ўсёй масы работнікаў культурнага фронта.

КП(б)Б і кіруемыя ёю рабочы клас і працоўныя масы Совецкай Беларусі з яшчэ большай рашучасцю будуць змагацца за правільнае правядзенне ленінскай нацыянальнай палітыкі супроць беларускага нацыяналізма—галоўнай небяспекі на даным этапе ва ўмовах БССР, супроць вялікадзяржаўнага рускага шавінізма і супроць шавінізмаў іншых масцей за ўсямернае і безагаворачнае ажыццяўленне дырэктыў XVII гістарычнага з'езда партыі, за выкананне планаў пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Калі-ж імперыялістычныя інтэрвенты паспрабуюць ажыццявіць свае імкненні і імкненні беларускіх контррэволюцыйных нацдэмаў—адарваць неад'емную састаўную частку магутнага і вялікага Совецкага Саюза Беларускую ССР ад Саюза ССР, то ўся БССР, як і ўся краіна советаў, рашуча падтрымае заяву свайго правадыра:

„Хто хоча міру і дабіваецца дзелавых сувязей з намі, той заўсёды знойдзе ў нас падтрыманне. А тыя, якія паспрабуюць напасці на нашу краіну,—атрымаюць сакрушальны адпор, каб надалей непавадна было ім саваць сваё свіное рыла ў наш совецкі гарод".

Больш рэволюцыйнай пільнасці па ўсяму разгорнутаму фронту соцыялістычнага будаўніцтва!

Вышэй сцяг пролетарскага інтэрнацыяналізма, вышэй сцяг ленінскай нацыянальнай палітыкі!

Бязлітасная барацьба з усімі ўхіламі ад генеральнай ліні нашай слаўнай комуністычнай партыі, кіруемай большэвіцкім ЦК на чале з лепшым ленінцам—тав. Сталіным!

*Ю. С. Дардак*

# Ленін аб пытаннях народнай асветы*)

## I. Ленінскі план пабудовы совецкай палітэхнічнай школы

Ленін і наша партыя заўсёды падкрэслівалі тое агромнае значэнне, якое адыгрывае народная асвета і, асабліва выхаванне маладога падрастаючага пакалення, у справе соцыялістычнага будаўніцтва, у справе барацьбы за пабудову бескласавага грамадства.

Владзімір Ільіч неаднаразова адзначаў выключную ролю совецкай школы, як важнейшага фактара барацьбы за соцыялізм.

Ён пасля першых дзён Окцябрскай рэволюцыі, радам дэкрэтаў СНК і ЦВК намеціў шляхі развіцця совецкай палітэхнічнай школы.

Ленінскі план індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі з'яўляецца той базай, на аснове якой В. І. разгарнуў свой план будаўніцтва совецкай палітэхнічнай школы. У „Чарговых задачах Совецкай улады", напісаных у красавіку 1918 г., Ленін гаворыць:

„Во всякой социалистической революции, после того как решена задача завоевания власти пролетариатом и по мере того, как решается в главном и основном задача: экспроприировать экспроприаторов, выдвигается необходимо на первый план коренная задача создания высшего, чем капитализм общественного уклада, именно: повышение производительности труда, а в связи с этим (и для этого) его высшей организации" (Ленин, т. XXII, стр. 453).

Ленін у гэтым-жа артыкуле ўказвае на неабходныя прадпасылкі для пад'ёма вытворчасці працы. Гэтымі прадпасылкамі з'яўляюцца:

1...„Обеспечение материальной основы крупной индустрии: развитие производства топлива, железа, машиностроения, химической промышленности".

2...„Во-первых образовательный и культурный пад'ём массы населения, этот под'ём идет теперь с громадной быстротой, чего не видят ослепленные буржуазной рутиной люди, неспособные понять, сколько порыва к свету и инициативности развертывается теперь в народных „низах" благодаря советской организации. Во-вторых, условием экономического под'ёма является и повышение дисциплины трудящихся, умение работать, скорости, интенсивности труда, лучшей его организации". (Ленин, соб. соч. т. XXII, ст. 454).

Гэтыя задачы былі пакладзены Ленінім у аснову яго плана будаўніцтва совецкай палітэхнічнай школы. Школа павінна даць вучням адукацыйны і культурны мінімум, на аснове навейшых дасягненняў тэхнікі і навукі; школа павінна навучыць дзяцей працаваць, быць дысцыплінаванымі, умець інтэнсіўна і акуратна выконваць любое

---

*) Працяг. Пачатак гл. у № 1—2.

заданне, добра яго арганізоўваць; школа павінна падрыхтаваць з вучня—комуніста.

Толькі такая школа нам неабходна, бо як гаварыў Ленін на 1-м з'ездзе па асвеце ў 1918 г.,—„необходимо приложить все силы, энергию и знания, чтобы возможно скорее возвести здание нашей будущей трудовой школы, которая лишь одна сумеет оградить нас в будущем от всяких мировых столкновений и боен, подобных той, что продолжается уже пятый год" (Ленин, собр. соч. 1-ое издание, т. XV, ст. 387).

На запытанне т. Луначарскага, што Ленін хацеў гэтым сказаць, В. І. адказаў, што гэтым самым ён жадаў падкрэсліць тое вялікае значэнне, якое мае совецкая школа ў справе стварэння новага соцыялістычнага грамадства.

Гэтае значэнне школа набывае толькі тады, калі яна ажыццяўляе справу выхавання і адукацыі ў цеснай сувязі з эканамічнымі, палітычнымі і культурнымі задачамі совецкай дзяржавы—дыктатуры пролетарыята. Наша школа, як неразрыўная састаўная частка плана пабудовы соцыялізма, апраўдае сваю годнасць толькі тады, калі ўвесь змест і кірунак яе работы будзе падпарадкаван мэтам і задачам пролетарскай дыктатуры.

## 2. Ленін аб шляхах будаўніцтва совецкай палітэхнічнай школы

Ленін неаднаразова ўказваў на тое, што не можа быць ніякай культурнай работы па-за выкананнем задач пролетарской рэволюцыі, што кожнае звяно культуры,—школа, бібліятэка, настаўнік і г. д.—павінна быць на службе дыктатуры пролетарыята, садзейнічаць паспяховаму выкананню тых асноўных задач і мерапрыемстваў, якія праводзіць партыя і совецкая дзяржава ў той ці іншы перыяд.

У залежнасці ад гэтага Ленін даваў дырэктывы НКА і яго органам аб разгортванні работы школ. Ленін намеціў асноўныя рысы і шляхі пабудовы совецкай школы. Такімі шляхамі паводле Леніна з'яўляюцца:

1. Матэрыяльнае забеспячэнне школы (пабудова, абсталяванне і г. д.);
2. Падбор настаўніцкага персанала, які-бы мог забяспечыць вытрыманае комуністычнае выхаванне;
3. Выданне падручнікаў, якія даюць вучням вытрыманыя, сістэматызаваныя, навукова абгрунтаваныя адукацыйныя і культурныя веды і навыкі;
4. Аўладанне асновамі навук, як базай комвыхавання;
5. Сувязь навучання з вытворчай працай і вытворчай працы з навучаннем;
6. Сувязь навучання з грамадскай работай;
7. Прасякненне ўсяго выкладання комуністычнай ідэалогіяй, накіраванне ўсяго навучання на выхаванне комуністычнай маралі, г. зн. класавага сазнання, пролетарскага інтэрнацыялізма і ваяўнічага атэізма;
8. Палітэхнічная адукацыя, як састаўная частка комуністычнага выхавання, знаёмства ў тэорыі і на практыцы з галоўнымі галінамі вытворчасці;
9. Падпарадкаванне ўсяго навучання, выхавання і адукацыі ў школе справе падрыхтоўкі комуніста, актыўнага ўдзельніка і будаўніка соцыялістычнага гламадства;

10. Школа павінна быць адзінай, свецкай і палітэхнічнай (працоўнай).

Зараз-жа пасля захвата ўлады пролетарыятам, побач са знішчэннем і зломам дзяржаўнага буржуазнага апарата наогул, быў знішчан буржуазны апарат кіраўніцтва асветай і ўстаноўлен пролетарскі дзяржаўны апарат па кіраўніцтву народнай асветай.

Першым дэкрэтам за подпісам В. І. Леніна аб народнай асвеце, ад 12/XI 1917 г. быў дэкрэт аб утварэнні пролетарскай дзяржаўнай камісіі па асвеце з народным камісарам асветы на чале. Функцыі гэтай часовай камісіі заключаліся ў дэмакратызацыі і рэволюцыянізаванні справы народнай асветы. Праз некалькі дзён выдаецца Леніным дэкрэт аб роспуску дзяржаўнага буржуазнага камітэта па народнай асвеце за сабатаж, нежаданне выконваць дырэктывы пролетарскай дзяржаўнай камісіі аб перабудове школы, адсячэнні контррэволюцыйных настаўніцкіх элементаў і адстараненні іх ад работы ў школе. Гэтыя акты пролетарскай дыктатуры з'яўляюцца неабходнымі не толькі для Расіі, але для любой краіны пры соцыялістычнай рэволюцыі. Першым актам соцыялістычнай рэволюцыі па народнай асвеце павінна быць знішчэнне буржуазнага апарата кіраўніцтва і ўтварэнне совецкага пролетарскага апарата.

Калі апарат ужо быў створан, другім актам пролетарскай дыктатуры з'явіўся дэкрэт ад 11/XII 1917 г. аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы. У гэтай справе дыктатуры пролетарыята прышлося мімаходам прарабіць і завяршыць неабходныя мерапрыемствы буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі. Але гэтае давяршэнне ўжо было якасна іншым і насіла соцыялістычны характар. У гэтым дэкрэце канчатткова ўстараняецца царква ад кіраўніцтва школай. Школы перадаюцца ў веданне НКА ў мэтах утварэння адзінай школы.

Гэтым актам забараняецца выкладанне рэлігійных прадметаў у школе і права прадстаўнікоў рэлігійнага культу займаць пасады ў школе. Гэты акт з'яўляецца таксама неабходным у любой соцыялістычнай рэволюцыі, нават для тых краін, дзе фармальна школа аддзелена ад царквы, бо фактычна ў школах выкладаюцца рэлігійныя прадметы. Гэты акт з'яўляецца дапаўненнем і працягам першага акта па лініі злома буржуазнага дзяржаўнага і грамадскага апарата. Гэтыя абодва акты былі неабходнай умовай для развіцця і пабудовы адзінай працоўнай совецкай школы.

Перадача ўсёй школьнай справы ў веданне НКА дала магчымасць пабудовы адзінай школы. НКА, кіруючыся непасрэдным указаннем Леніна, выдае дэкрэты па пабудове совецкай школы: а) дэкрэт аб сумесным навучанні, знішчэнні паасобных школ для хлопчыкаў і дзяўчат і 2) аб школах для нацменшасцей.

У гэтых дэкрэтах чотка і яскрава паказаны нашы асноўныя прынцыпы выхавання падрастаючага пакалення. Прынцып сумеснага навучання з'яўляецца вельмі важным у справе сапраўднага высоўвання жанчын як роўнага члена грамадства, знішчэння ў тэорыі і на практыцы буржуазнага тэзіса аб тым, што жанчына менш здольна чым мужчына і не можа быць поўнапраўным членам грамадства. Гэты дэкрэт раз назаўсёды пакончыў з гэтай буржуазнай тэорыяй і практыкай. Дзяўчына ў Совецкім Саюзе павінна вучыцца сумесна з хлопчыкам у школе, праходзіць нароўні з ім, у аднолькавым аб'ёме на ўсіх ступенях, усе тыя асновы навук, якія неабходны кожнаму члену соцыялістычнага грамадства ў яго далейшай грамадскай дзейнасці.

Другі дэкрэт з'яўляецца паказчыкам таго, як у школьнай справе пры дыктатуры пралетарыята мы ажыццяўляем прынцып навучання на роднай мове. Гэты дэкрэт сваім вастрыём накіраван супроць буржуазнай тэорыі нацыянальна-культурнай аўтаноміі і нацыяналізацыі школы. У гэтым дэкрэце ўказваецца, што „ўсе нацыянальнасці, насяляючыя РСФСР, карыстаюцца правам арганізацыі навучання на сваёй роднай мове ва ўсіх ступенях школы“ і далей гаворыцца: „школы нацмен з'яўляюцца дзяржаўнымі і павінны працаваць па тых-жа праграмах як і ўсе школы РСФСР“. Гэты пункт важны з пункту гледжання барацьбы з астаткамі нацыяналістычна-буржуазных тэорый у галіне школы. Як тэорыя нацыянальна-культурнай аўтаноміі, так і тэорыя падзела школ па нацыянальнасцях (нацыяналізацыя школы) накіраваны на прывіццё дзецям антыпралетарскай ідэалогіі, на насычэнне праграм нацменшкол нацыянальна-шавіністычным зместам. Наша-ж установка на развіццё нацменшколы на роднай мове накіравана на прывіццё дзецям пралетарскай ідэалогіі, на выхаванне дзяцей у духу пралетарскага інтэрнацыяналізма, на насычэнне праграм соцыялістычным зместам.

Вось чаму Ленін яшчэ да Окцябрскай рэволюцыі выступаў супроць адчынення ў капіталістычных краінах і ў царскай Расіі ў прыватнасці самастойных нацменшкол, якія пры дыктатуры буржуазіі з'яўляюцца рассаднікамі нацыянал-шавінізма, накіраваны на распальванне варожасці паміж працоўнымі розных нацыянальнасцей. Такія нацменшколы пры дыктатуры капітала з'яўляюцца сродкам у руках буржуазіі для нацыянал-шавіністычнага выхавання. Пры дыктатуры пралетарыята Ленін стаіць за адчыненне самастойных нацменшкол на роднай мове, бо, працуючы па праграмах, насычаных соцыялістычным зместам, пры выкладанні на роднай мове, яны з'яўляюцца магутным сродкам у руках пралетарскай дзяржавы для зблізкэння працоўных розных нацыянальнасцяй у мэтах барацьбы за соцыялізм, у мэтах падаўлення эксплаатататараў розных нацыянальнасцяй.

Пры дыктатуры пралетарыята школа з выкладаннем на роднай мове дапамагае справе больш лёгкага аўладання вучняў асновамі навук і іх агульнага развіцця; толькі такая школа пры яе комуністычнай накіраванасці можа забяспечыць сапраўднае інтэрнацыянальнае выхаванне, выхаванне актыўных удзельнікаў соцыялістычнага будаўніцтва. Гэтыя дэкрэты плюс першыя дэкрэты Соўнаркома паказваюць тыя шляхі, па якіх ішло будаўніцтва нашай совецкай школы. Гэтыя дэкрэты маюць буйнейшае значэнне для палітыкі компартый, пры захопе ўлады ва ўсіх капіталістычных краінах.

Але гэтымі дэкрэтамі не абмяжоўваецца дзейнасць пралетарскай дзяржавы ў галіне развіцця совецкай школы. Ужо 16-га кастрычніка 1918 года, ЦВК Советаў Рабочых, Сялянскіх і Чырвонаармейскіх Дэпутатаў за подпісам т. Свердлова выдае палажэнне аб адзінай працоўнай школе РСФСР. У гэтым палажэнні даюцца канкрэтныя ўказанні аб шляхах пабудовы ўсіх існуючых школ у адзіную працоўную школу. Гэтым палажэннем заканчваецца першы этап ператварэння школы ў адзіную совецкую працоўную школу. З гэтага часу і пачынаецца развіццё совецкай школы, у аснову якой палажаны наступныя прынцыпы:

1. Свецкасць школы ў яе соцыялістычным разуменні, г. зн., што школа з'яўляецца праваднікам антырэлігійнага выхавання. Гэты прынцып накіраван як супроць буржуазнай тэорыі рэлігійнага выхавання, так і супроць дробна-буржуазнай тэорыі безрэлігійнага выхавання;

2. Сувязь навучання з вытворчай працай і вытворчай працы з навучаннем. Гэты прынцып накіраван супроць усіх буржуазных і дробнабуржуазных тэарэтыкаў, якія разрываюць агульную і працоўную адукацыю, зводзяць працоўнае навучанне да рамесніцтва або голага тэхніцызма;

3. Выкладанне ў школах на роднай мове і арганізацыя нацменшкол на дзяржаўны кошт. Гэты прынцып накіраван супроць розных буржуазных і дробна-буржуазных тэорый аб нацыяналізацыі школы і нацыянальна-культурнай аўтаноміі;

4. Сумеснае навучанне і знішчэнне паасобных школ для дзяўчат і хлопчыкаў;

5. Адзінства школы. Усе школы звязаны паміж сабой у сэнсе пераходу ад адной ступені да другой і з'яўляюцца адзінай для ўсіх дзяцей. Гэты прынцып накіраван супроць буржуазнай тэорыі ўтварэння тупікоў у сістэме народнай асветы для недапушчэння дзяцей працоўных да сярэдняй і вышэйшай ступені адукацыі;

6. Класавасць школы. Усё выкладанне накіравана на разуменне сутнасці класавай барацьбы пролетарыята супроць буржуазіі і пранікнута пролетарскай ідэалогіяй. Гэты прынцып накіраван супроць буржуазнай і дробна-буржуазнай тэорыі надкласавасці і апалітычнасці школы. Гэтыя прынцыпы былі сфармуляваны палажэннем аб школе, выданым ЦВК. Усе гэтыя прынцыпы павінны быць пакладзены ў аснову палітыкі кампартыі, пасля захопу ўлады ў капіталістычных краінах у галіне народнай асветы на першым этапе злому і знішчэння дзяржаўнага буржуазнага апарата.

Мы не паспелі яшчэ канчаткова аформіць перабудову школы, калі пачалася грамадзянская вайна, міжнародная буржуазія і ўнутраная контррэволюцыя пашлі паходам супроць Совецкага саюза. Уся ўвага партыі і дзяржавы была накіравана на мабілізацыю сіл і сродкаў для барацьбы з міжнароднай і ўнутранай контррэволюцыяй. Не гледзячы на гэта, Ленін увесь гэты перыяд (1918—20 гг.) удзяляў значную ўвагу справе пабудовы палітэхнічнай школы. У гэты-ж перыяд Леніным распрацоўваецца рад новых мыслей у галіне арганізацыі работы школы, як важнейшага звяна культурнай рэволюцыі; Ленін распрацоўвае і дае геніяльныя ўказанні аб ператварэнні школы ў аруддзе знішчэння падзелу грамадства на класы.

## 3. Ленін аб ролі і задачах школы ў пераходны перыяд ад капіталізма да социялізма

Аб ролі школы ў пераходны перыяд Ленін указаў у сваім праекце праграмы ВКП(б), напісанай ім у 1918 г. У гэтым праекце, як намі ўжо было ўказана (гл. „Комвыхаванне" №—2 за г. г.), Ленін патрабуе ад школы, каб яна была не толькі праваднікам прынцыпаў комунізма наогул, але і праваднікам **арганізацыйнага ідэёвага і выхаваўчага ўплыву** пролетарыята на поўпролетарскія і непролетарскія працоўныя слаі насельніцтва ў мэтах падаўлення эксплаатататараў і будаўніцтва комуністычнага грамадства. Ужо ў гэтым указанні пакладзены асноўныя прынцыпы комуністычнага выхавання. Ленін тут гаворыць аб трох відах уплыву пролетарыята, якія неабходны ў справе падаўлення эксплаатататараў і пабудовы социялістычнага грамадства. Першым відам уплыву з'яўляецца **арганізацыйны**. Арганізацыйны ўплыў пролетарыята азначае паводле Леніна павышэнне вытворчасці працы,

паляпшэнне арганізацыі працы, разгортванне соцыялістычнага спаборніцтва, павышэнне свядомай дысцыпліны працоўных, барацьбу з разгільдзяйствам, лодырніцтвам і дробна-буржуазнай псіхалогіяй.

У адносінах школы арганізацыйны ўплыў пролетарыята прадпалагае: а) акуратнае, чоткае выкананне вучнямі ўсіх заданняў школы; б) уменне калектыўна працаваць, падпарадкаваць свае інтарэсы інтарэсам соцыялістычнага будаўніцтва; в) дысцыплінаванасць ва ўсякай рабоце; г) разгортванні паміж вучнямі соцспаборніцтва ў мэтах найлепшай больш эфектыўнай работы; д) барацьбу з лодырніцтвам, хуліганствам, разгільдзяйствам у рабоце і паводзінах вучняў; е) уменне арганізоўваць дзяцей для любой работы, падпарадкаванай навучальна-выхаваўчым мэтам і правільную расстаноўку сіл; ж) сістэматычны кантроль і вучот усякай работы.

Трэба помніць аднак, што арганізацыйны ўплыў уне сувязі і падпарадкавання ідэёваму і выхаваўчаму ўплывам не можа забяспечыць комуністычнага выхавання.

А што такое ідэёвы ўплыў пролетарыята?—Ідэёвы ўплыў пролетарыята заключаецца ў тым, што пролетарыят і яго саюзнікі павінны аўладаць багаццямі, накопленымі чалавецтвам, крытычна іх пераапрацаваць, умець прымяняць здабытыя веды да практыкі соцыялістычнага будаўніцтва, рухаць практыку наперад і тым самым абагачаць тэорыю. Трэба, каб арганізацыя і павышэнне прадукцыйнасці працы, удзел у соцыялістычным будаўніцтве,—былі асветлены пражэктарам марксісцка-ленінскай тэорыі, каб кожны ўдзельнік соцбудаўніцтва зразумеў дыялектыка-матэрыялістычныя законы развіцця грамадства і прыроды, у мэтах падняцця сазнання людзей да комуністычнага сазнання.

У прымяненні да школы гэты ўплыў прадпалагае аўладанне асновамі навук, сувязь паміж навучальнай і вытворчай працай, партыйнасць выкладання (палітычная завостранасць пры праходжанні паасобных навучульных прадметаў), правільную пастаноўку працоўнага навучання для таго, каб дзеці ў школе атрымалі навыкі і веды па аўладанню інструментамі, машынамі, механізмамі, ведалі агульную і прыватную тэхналогію матэрыялаў, умелі арыентавацца ў галоўных галінах вытворчасці, каб зразумець асноўныя законы і прынцыпы арганізацыі вытворчасці, арганізацыі працы і павышэння яе прадукцыйнасці.

Але гэтыя два віды ўплываў без выхаваўчага не могуць вырашыць асноўную задачу школы падрыхтоўкі актыўнага ўсебакова развітага ўдзельніка соцыялістычнага будаўніцтва, барацьбіта супроць перажыткаў капіталізма ў сазнанні людзей.

Сутнасць выхаваўчага ўплыву заключаецца ў выхаванні комуністычнай маралі, якая звязана з класавай барацьбой пролетарыята і падпарадкавана ёй. Выхаваўчы ўплыў пролетарыята прадпалагае ўнядрэнне пролетарскага інтэрнацыяналізма, заяўнічага атэізма, комуністычнай псіхалогіі, сазнання свяшчэннасці і недатыкальнасці дзяржаўнай і грамадскай маёмасці, выхаванне адданасці справе соцыялістычнага будаўніцтва і нянавісці да класавага ворага.

Але нельга думаць, што ўказаныя намі тры асноўныя састаўныя моманты ўплыву пролетарыята ізаляваны паміж сабой. Гэтыя моманты ўзаемапранікаюць, арганічна звязаны паміж сабой, пераходзяць з аднаго ў другі і існуюць у дыялектычным адзінстве.

Усе гэтыя віды пролетарскага ўплыву ў іх адзінстве забяспечваюць магчымасць школе выхаваць пакаленне, здольнае ўстанавіць комунізм. Гэтая ленінская ўстаноўка накіравана супроць розных буржуазных

і дробна-буржуазных тэорый, класава-варожых вылазак, якія імкнуцца падарваць уплыў пролетарыята на поўпролетарскія і непролетарскія слаі працоўнага насельніцтва, падарваць наша соцыялістычнае будаўніцтва. Дыктатура пролетарыята ставіць перад школай як асноўную задачу: падпарадкаваць усё навучанне, выхаванне і адукацыю задачам соцыялістычнага будаўніцтва і класавай барацьбы пролетарыята на розных этапах.

Так, у перыяд абвяшчэння нэпа, увага партыі і дзяржавы была сканцэнтравана на пытаннях эканамічнага будаўніцтва совецкай рэспублікі. Неадкладнай задачай было аднаўленне індустрыі і сельскай гаспадаркі. У гэты перыяд Ленін высоўвае свой геніяльны план электрыфікацыі краіны, як асновы соцыялістычнага будаўніцтва. У сувязі з гэтым, Ленін ва ўсіх сваіх выступленнях падкрэслівае неабходнасць больш шчыльнай сувязі паміж школьнай работай і задачамі электрыфікацыі. Гэтую сувязь Ленін асабліва падрабязна развіў у сваёй прамове на III Усерасійскай нарадзе загадчыкаў пададдзеламі пазашкольнай адукацыі 25 лютага 1920 г. („Правда“ за 1930 г. № 114).

Там Ленін гаворыць: „чтобы школьное образованне поставить более солидно, для этого нужен целый ряд материальных изменений: постройка школ, подбор учителей, внутренние реформы по организации и подбору преподовательского персонала... „Одним из коренных недостатков постановки образования и просвещения в капиталистическом обществе было то, что оно было оторвано, по основной задаче, от организации труда, поскольку капиталисту нужно было натаскать и надрессировать покорных и дрессированых рабочих. Связи между действительными задачами организации народного труда и между преподаванием в капиталистическом обществе не было. Получался мертвенный „схоластический, загаженный поповскими влияниями, характер преподавания, который везде, в самых демократических республиках, делал то, что все свежее, здоровое должно было устраняться. Непосредственная живая работы была затруднена, потому что без апарата государственной власти, без материальной и финансовой помощи широко поставить образование нельзя“.

Далей Ленін гаворыць аб задачах і характары адукацыі, выкладання, выхавання і навучання ў адпаведнасці з задачамі, стаячымі перад совецкай рэспублікай у сувязі з аднаўленнем народнай гаспадаркі. У сувязі з гэтым Леніным быў уключан у рэзалюцыі VIII з'езда Советаў па дакладу аб электрыфікацыі, спецыяльны пункт аб абавязковым вывучэнні ва ўсіх навучальных установах плана электрыфікацыі. У гэты-ж перыяд Ленін дае дырэктыву НКА: усе друкаваныя матэрыялы па вытворчай прапагандзе (газеты, брашуры, лістоўкі, часопісы, падручнікі, агляды тэхнікі і г. д.) абавязкова скарыстаць для распаўсюджання прафесыйна-тэхнічнай і палітэхнічнай адукацыі.

Ленін неаднаразова ўказваў, што наша школа адрозніваецца ад буржуазнай тым, што яна павінна ўсё выкладанне і навучанне, выхаванне і адукацыю звязаць з арганізацыяй народнай працы.

Пытанню сувязі школы з задачамі соцбудаўніцтва, у мэтах ажыццяўлення ўплыва пролетарыята на паўпролетарскія і непролетарскія працоўныя слаі Ленін надаваў агромнейшае значэнне. У сваіх наказах па пытаннях гаспадарчай работы, прынятых IX з'ездам Советаў у 1920 г. Ленін прапануе: „Еще более усилить связь со злободневными хозяй-

ственными задачами как всей рэспублики, так и данной области и даннай местности“ (Ленин, т. XXVII, ст. 144).

Асабліва чотка і ясна Ленін расшыфраваў роль і задачу школы ў аднаўленчы перыяд у сваіх двух геніальных і гістарычных дакумантах, прамове на III з'ездзе РКСМ і заметках на тэзісы Н. К. Крупскай. Гэтыя дакументы з'яўляюцца неперавзойдзенымі тэарэтычнымі распрацоўкамі ў галіне развіцця марксісцка-ленінскай педагогікі і пабудовы совецкай палітэхнічнай школы.

У гэтых дакументах Ленін дае адказ на пытанні аб формах і метадах падрыхтоўкі комуніста, выходзячы з задач нашага соцыялістычнага будаўніцтва, ускрывае змест комуністычнага выхавання, формы і метады яго ажыццяўлення.

Першая задача, якую Ленін ставіць у сваім выступленні перад камсамолам, аб яго асноўнай задачы ў сувязі з аднаўленнем народнай гаспадаркі,—гэта вучыцца. Адсюль з поўнай яскравасцю выцякае і асноўная функцыя школы, якая заключаецца ў вучобе падрастаючага пакалення. Гэтае Ленінскае палажэнне накіравана супроць трацкісцкіх, контррэвалюцыйных тэорый аб адміранні школы і г. д. Галоўнай праблемай навучання з'яўляецца пытанне, чаму вучыцца, г. зн. змест навучання і як вучыцца—формы і метады навучання.

Ленін цесна звязвае змест навучання з задачамі комуністычнага будаўніцтва. Ён піша:

„Мы можам строить коммунизм толькі из той суммы знаний, организаций, учреждений, при том запасе человеческих сил и средств, которые остались нам от старого общества. Только преобразуя коренным образом дело учения организацию и воспитание молодежи, мы сможем достигнуць того, чтобы рэзультатом усилий молодого поколения было создание общества, непохожего на старое, т. е. коммунистического общества“ (Ленін, т. XXX, ст. 403—404).

Ужо ў гэтай вытрымцы Леніна даецца ўказанне, як мы павінны адносіцца да спадчыны мінулага. Не агульнае адмаўленне старога, але і не механічнае голае прыняцце яго. Неабходна ўзяць усё **каштоўнае** са старога з навуковага абагуленага вопыта чалавецтва, **крытычна** яго перапрацаваць і толькі **ауладаўшы гэтымі ведамі і навыкамі можна будаваць комунізм.**

У адносінах да старой школы, Ленін прадаўжае гэтую думку і гаворыць: „Старая школа была школай учебы, она заставляла людзей усваивать массу ненужных, лишних, мертвых знаний, которыми забивали голову и превращали молодое поколение в подогнаных под общий ранжир чиновников. Но вы сделали бы огромную ошибку, если бы попробовали сделать тот вывод, что можно стать коммунистом, не усвоив того, что накоплено человеческими знаниями. Было бы ошибочно думать так, что достаточно усвоить коммунистические лозунги, выводы коммунистической науки, неусвоив себе той суммы знаний, последствием которых является сам коммунизм“ (Ленін, т. XXX, ст. 405—406).

Тут Ленін з усёй яскравасцю паказвае, што наша совецкая палітэхнічная школа павінна даць вучням сістэматычныя веды, якія стаяць на ўзроўні сучасных дасягненняў навукі і тэхнікі. Але наша сістэма ведаў, якая даецца вучням, павінна базавацца на прынцыпова іншай аснове, чым тая сістэма ведаў, якая давалася старой школай. Раскрываючы прынцыпы нашай сістэмы, Ленін піша: „Мы не должны брать из старой школы того, когда память молодого человека обременяли безмерным количеством знаний, на $^9/_{10}$ ненужных і на $^1/_{10}$ искаженных, но это не значит, что мы можем ограничиться комунистиче-

скими выводами и заучить только коммунистические лозунги. Этим коммунизма не создашь. Коммунистом стать можно лишь тогда, когда обогатишь свою память знанием всех тех богатств, которое выработало человечество.

Нам не нужно зубрежки, но нам нужно развить и усовершенствовать память каждого обучающегося знанием основных фактов, ибо коммунизм превратится в пустоту, превратится в пустую вывеску, коммунист будет только простым хвастуном, если не будут проработаны в его сознании все полученные знания. Вы должны не только усвоить их, но усвоить так, чтобы отнестись к ним критически, чтобы не загромождать своего ума тем хламом, который не нужен, а обогатить его знанием всех фактов, без которых не может быть современного образованного человека“ (Ленин, т. XXX, ст. 407).

Тут Леніным даюцца асноўныя прынцыпы пабудовы сістэмы ведаў у нашай школе. Сістэмы ведаў павінны базавацца на аснове аўладання асноўнымі фактамі ўсіх навук. Кожны навучальны прадмет у нашай совецкай школе павінен быць пабудаван так, каб сістэма асноўных фактаў данай навукі была цвёрда засвоена вучнем і дапамагла развіццю і абагачэнню яго памяці, каб наш вучань быў высока адукаваным чалавекам. Гэтая ленінская ўстаноўка б'е па буржуазнай тэорыі аб тым, што нібыта нельга развіць памяць падрастаючага пакалення, што ў школе неабходна даць толькі факты ўстарэўшыя, факты, якія з'яўляюцца ўжо мінулай ступенню ў навуцы. Яна б'е па тэй тэорыі, што наогул дзецям нельга даваць сістэму асноўных фактаў кожнай паасобна навукі, што веды вучняў павінны набывацца толькі ў працэсе эмпірычнага вопыта.

Ленін гаворыць аб сістэме асноўных фактаў кожнай навукі, якія павінны быць засвоены вучнем, абагачаюць памяць і знаёмяць дзяцей з абагуленым навуковым вопытам чалавецтва. Ленін указвае, што завучванне ў школе павінна быць не механічнай зуброжкай, а звязана са свядомым асваеннем матэрыяла. Вось чаму, веды, якія даюцца вучням, павінны быць звязаны з практыкай соцбудаўніцтва, павінны дапамагчы вучню асвядоміць працэсы нашага будаўніцтва, якое адбываецца ва ўмовах жорсткай класавай барацьбы. Атрыманыя веды вучань павінен умець прымяняць да практыкі. Ленін у гэтай прамове прыводзіць прыклад пабудовы такой сістэмы асноў навукі. Ён гаворыць:

„Мы знаем, что коммунистического общества нельзя построить, если не возродить промышленности и земледелия, при чем надо возродить их не по старому. Надо возрадить их, на современной, по последнему слову науки построенной, основе. Вы знаете, что этой основой является элетричество, что только, когда произойдет электрификация всей страны, всех отраслей промышленности и земледелия, тогда вы эту задачу освоите, только тогда вы для себя сможете построить то коммунистическое общество, которого не сможет построить старое поколение. Перад вами стоит задача хозяйственного возрождения всей страны, реорганизация, восстановление и земледелия, и промышленности на современной тэхнической основе, которая покоится на современной науке, тэхнике, на электричестве“ (Ленин, т. XXX, ст. 408).

Для гэтага неабходна, каб сістэма навук, аўладанне яе асновамі было звязана з гэтай асноўнай задачай будаўніцтва. Тут мала і недастаткова тая сума агульнай адукацыі, якую мы мелі нават у самых лепшых буржуазных школах. Нашы веды павінны базавацца на сучаснай навуцы, на аснове марксісцка-ленінскай метадалогіі, на аўла-

данні сучаснымі дасягненнямі тэхнікай і электрычнасці. Такая сістэма навучання патрабуе не толькі агульна-адукацыйных ведаў, але і палітэхнічнай адукацыі, той адукацыі, якая знаёміць дзяцей з законамі вытворчасці, з навуковымі прынцыпамі вытворчых працэсаў, дасягненнямі тэхнікі, тэхналогіі і арганізацыяй вытворчасці ў галоўных галінах прамысловасці.

Ленінскія заметкі на тэзісы Крупскай з'яўляюцца геніяльнейшым тэарэтычным і практычным укладам у скарбніцу марксісцкай педагогікі. У гэтых заметках Ленін паказвае, якой павінна быць сістэма адукацыі ў нашых школах, ускрывае сутнасць галоўных галін вытворчасці, вядзе барацьбу на два фронты ў пытаннях арганізацыі нашага савецкага навучання і адукацыі. Ленін у сваіх заметках паказвае сувязь усяго навучання з нашым сацыялістычным будаўніцтвам, але ўлічваючы патрэбы гаспадарчага будаўніцтва данага канкрэтнага перыяда ён не ўпускае з поля зроку і **перспектыву** пабудовы комуністычнага грамадства, якой павінна быць падпарадкавана ўся наша дзейнасць.

Але бачыць перспектыву,—не значыць, што трэба пераскокваць праз даны этап і канкрэтны перыяд. Такі пераскок вядзе да страты перспектывы, але, побач з гэтым не бачыць перспектыў,—значыць скаціцца на голы эмпірызм, не кіраваць з'явамі і гістарычным працэсам, а быць апалагетам фактаў. Гэта мае непасрэднае дачыненне і да сістэмы адукацыі падрастаючага пакалення. Маючы на ўвазе перспектыву неабходнасці падрыхтоўкі людзей, здольных канчаткова ўстанавіць комунізм, В. І. адначасова ўлічвае і канкрэтныя гаспадарчыя патрэбы данага перыяда, звязвае патрэбы данага перыяда з агульнай перспектывай. Прыкладам спалучэння перспектывы з патрэбамі данага гістарычнага перыяда і з'яўляюцца яго заметкі. У першым-жа пункце сваіх заметках Ленін указвае на той метадалагічны недахоп тэзісаў, што яны абстрактны і не ўлічваюць сучасную рэчаіснасць.

Улічваючы гэтую рэчаіснасць, Ленін указвае і на тое, што нельга траціць перспектыву і ўказвае на неабходнасць дабаўлення к тэзісам 1—2 тэзіса аб палітэхнічнай адукацыі паводле Маркса і праграмы ВКП(б). Ленін дае дырэктыву аб неабходнасці зараз-жа (у 1920 г.) прыступіць да развіцця палітэхнічнай адукацыі. Ён указвае, што на даным этапе (у 1920 г.) нам неабходны прафесіяналы—такава патрэбнасць гаспадарчага становішча, але гэты професіянал—„рамеснік" павінен мець: „шырокую агульную адукацыю (ведаў мінімум асновы такіх-та і такіх навук; точна паказаць якіх) быў комуністам (точна паказаць што павінен ведаць); меў палітэхнічны кругавід асновы (пачаткі) палітэхнічнай адукацыі, а імення:

а) асноўныя паняцці аб электрычнасці (точна вызначыць якія).
б) Аб прымяненні электрычнасці да механічнай прамысловасці.
в) „ „ „ таксама да хімічнай.
г) Таксама аб плане электрыфікацыі РСФСР.
д) Наведаў не менш 1—3 раз электрычную станцыю, завод, соўгас.
е) Ведаў такія-та асновы агранаміі. Распрацаваць дэтальна мінімум ведаў. Гэта архіважна" (Ленін т. XXX, ст. 419).

Тут Ленін расшыфроўвае сутнасць нашай сістэмы адукацыі, якая складаецца з агульнай і палітэхнічнай. Па лініі агульнай—наш вучань павінен ведаць асновы навук, якія ўскрываюць законы развіцця грамадства і прыроды; па лініі палітэхнічнай—аўладаць ведамі і навыкамі на аснове сучаснай прамысловасці, па электрычнасці, ведаць законы і законамернасці прымянення электрычнасці да важнейшых галін

вытворчасці,—механічнай, хімічнай і сельскагаспадарчай. Вучань павінен набываць канкрэтныя навыкі і веды па электрычнасці, быць знаём з работай электрастанцыі і завода, соўгаса.

Ленін са ўсёй чоткасцю падкрэслівае, што асновай палітэхнічнай адукацыі можа быць толькі буйная соцыялістычная прамысловасць і соцыялістычная сельская гаспадарка. Ужо ў 1920 г. Ленін патрабуе палітэхнічнага навучання ў школе, арганізацыі экскурсій на соцыялістычныя прадпрыемства, у мэтах таго, каб вучні ўмелі прымяняць свае веды да канкрэтнай практыкі. Толькі звязваючы агульную і палітэхнічную адукацыю можна выхоўваць адукаванага ўсебакова развітага чалавека. Гэтыя веды нам неабходны, для таго, каб кожны крок выхавання, адукацыі і навучання быў неразрыўна звязан з праблемай барацьбы працоўных супроць эксплаататараў. Ленін у сваей прамове на III з'ездзе РКСМ гаворыць: „Должно все задачы своего учения ставить так, чтобы каждый день, в любой деревне, в любом городе молодежь решала практически ту или иную задачу общего труда, пускай самую маленькую, пускай самую простую“.

Гэтая ленінская пастаноўка арганізацыі навучання і адукацыі з'яўляецца ўзорам барацьбы як супроць правых тэарэтыкаў, якія жадалі аднавіць старое схаластычнае, дагматычнае навучанне, разарваць агульную і палітэхнічную адукацыю, зводзілі палітэхнізацыю да рамесніцтва (Пінкевіч, Пістрак і інш.), так і супроць левакоў, якія адмаўлялі агульную адукацыю, зводзілі палітэхнізм да тэхніцызма, высоўвалі тэорыю падпарадкавання навучання вытворчай працы і адмірання школы (Шульгін, Крупеніна і інш.).

Распрацаваная Леніным праблема выкладання сістэмы навук у школе, сувязі паміж палітэхнічнай і агульнай адукацыяй, паміж навучаннем і вытворчай працай, неабходнага ўдзелу вучняў у грамадскім жыцці, з'яўляюцца прыкладам расшыфроўкі сутнасці ідэёвага ўплыва пролетарыята на паўпролетарыят і непролетарскія слаі працоўнага насельніцтва.

У сваёй прамове на III з'ездзе РКСМ, Ленін распрацаваў і сутнасць арганізацыйнага ўплыву пролетарыята. Ён піша: „Быть коммунистом—это значит организовывать и об'единять все подрастающее поколение, давать пример воспитания и дисциплины в этой борьбе“ (Ленін, т. XXX, ст. 414).

Вось чаму Ленін высоўвае, як важнейшую задачу нашай совецкай школы, праблему выхавання свядомай дысцыпліны. Без свядомай дысцыпліны не можа быць ажыццёўлен арганізацыйны ўплыў пролетарыята. У совецкай школе дысцыпліна прынцыпова адрозніваецца ад старой, дзе яна з'яўлялась муштрай, душыла ўсё жывое і ініцыятыўнае сярод вучняў. Наша дысцыпліна—дысцыпліна свядомая, якая прадпалагае і выклікае ініцыятыву, выяўляе творчыя сілы кожнага на карысць працоўных. Наша дысцыпліна,—дысцыпліна свядомай, згуртаванай, салідарнай працы, дысцыпліна энтузіязма працоўных мас.

Гэты ленінскі прынцып выхавання свядомай дысцыпліны накіраван як супроць правых, якія жадаюць аднавіць старую муштру, палачную дысцыпліну, так і супроць левых, якія проціпастаўляюць дысцыпліну—свядомасці. Толькі ў спалучэнні і адзінстве свядомасці і працоўнай дысцыпліны, мы зможам ажыццявіць арганізацыйны ўплыў пролетарыята.

У тэй-жа прамове Ленін ускрывае сутнасць выхаваўчага ўплыву пролетарыята. Ленін гаворыць, што старая школа прывіла вучням перакананне ў святасці прыватнай уласнасці і псіхалогію „класавага

міра“, выхоўвала пачуццё страха божага, рабскія адносіны да працы, буржуазны індывідуалізм і нацыянал-шавінізм. Наша-ж школа павінна выхоўваць у духу комуністычнай маралі. Ленін гаворыць:

„Для нас нравственность, взятая вне человеческого общества, не существует; это обман. Для нас нравственность подчинена интересам классовой борьбы пролетариата... Классовая борьба продолжается; она только изменила свои формы. Это—классовая борьба пролетариата за то, чтобы не могли вернуться старые эксплоататоры, чтобы раздробленная масса темного крестьянства соединилась в один союз. Классовая борьба продолжается и наша задача—подчинить все интересы этой борьбе.

И мы свою нравственность коммунистическую этой задаче подчиняем. Мы говорим: нравственность—это то, что служит разрушению старого эксплоататарского общества и об'единение всех трудящихся вокруг пролетариата, создающего новое общество коммунистов. Коммунистическая нравственность, это та нравственность, которая служит этой борьбе, которая об'единяет всех трудящихся против всякой эксплоатацыи, против всякой мелкой собственности“ (Ленин, т. XXX, ст. 411—412).

Такім чынам, паводле Леніна, выхаванне комуністычнай маралі заключаецца ў падпарадкаванні „нравственности“ задачам класавай барацьбы. Усё выхаванне павінна быць прасякнута інтарэсамі класавай барацьбы пролетарыята, задачай знішчэння дробна-буржуазнай псіхалогіі, унядрэння комуністычнай псіхалогіі і большэвіцкай волі да перамогі, да пабудовы комуністычнага грамадства.

Комуністычная мараль уключае ў сябе выхаванне пролетарскага інтэрнацыяналізма ваяўнічага атэізма. Вось у чым сутнасць выхаваўчага ўплыва пролетарыята. Задача школы ў пераходны перыяд заключаецца іменна ў тым, каб праводзіць гэты арганізацыйны, ідэёвы і выхаваўчы ўплыў пролетарыята на поўпролетарскія і іншыя працоўныя масы ва ўсёй яго сутнасці, у мэтах выхавання пакалення, здольнага канчаткова ўстанавіць комунізм.

Гэтая задача,—ёсць шлях для ажыццяўлення адной з асноўных палітычных задач другой пяцігодкі,—ліквідацыі капіталістычных элементаў у сазнанні і эканоміцы.

Аб тым, як Ленін распрацаваў пытанне аб ролі настаўніка ў школе і прынцыпы складання падручнікаў і як т. Сталін развіў вучэнне Леніна па пытаннях народнай асветы,—скажам у наступным артыкуле

*(Канец будзе)*

*Б. Іоффе*

# За сапраўднае інтэрнацыянальнае выхаванне піонераў і вучняў

У сваім дакладзе на 17-м партыйным з'ездзе т. Сталін сказаў: „Адна з асноўных палітычных задач пры ажыццяўленні другой пяцігодкі састаіць у пераадаленні перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей". Крыху ніжэй у гэтым-жа дакладзе адзначана наступнае:

„Трэба адзначыць, што перажыткі капіталізма ў сазнанні людзей куды больш жывучы ў галіне нацыянальнага пытання чым ў любой іншай галіне, бо маюць магчымасць добра маскіравацца ў нацыянальным касцюме".

Гэтыя указанні т. Сталіна яшчэ раз падкрэсліваюць на неабходнасць больш глыбока займацца пытаннем комуністычнага выхавання, пытаннямі інтэрнацыянальна-выхаваўчай работы сярод нашай дзетвары. Каб выкарчаваць перажыткі капіталізма ў сазнанні людзей у галіне нацпытання, мы павінны ў нашых школах і асабліва ў піонерарганізацыі выхоўваць нашу дзетвару ў духу пролетарскага інтэрнацыяналізма, а гэта азначае:

1. Выхаванне у рэбят спачування таго, што яны з'яўляюцца адзінай часткай піонерыі сусвету і рэволюцыйнага пролетарыята

2. Выхаванне ненавісці да класавага ворага і гатоўнасць весці рашучую непрымірымую барацьбу з ім дзе і як ён-бы сябе не праяўляў.

Для выхавання усяго гэтага неабходна: а) каб нашы рэбята добра разабраліся і разумелі нацпалітыку совецкай улады і комуністычнай партыі; б) вывучалі пастановы партыі і ўлады; в) вывучалі соц. будаўніцтва сваей рэспублікі і знаёміліся з соц. будаўніцтвам нашых брацкіх нацыянальных рэспублік; г) неабходна каб рэбята знаёміліся з рэволюцыйным рухам рабочых і іх дзяцей у капіталістычных краінах; д) актыўна ўдзельнічалі ў соц. будаўніцтве і вялі рашучую непрымірымую барацьбу з класавым ворагам, дзе і як ён бы сябе не праяўляў.

Але вопыт працы за мінулы год паказвае, што асноўны вучастак комуністычнага выхавання—інтэрнацыянальнае выхаванне, як у школах, так і ў піонератрадах знаходзяцца далёка не на належнай вышыні.

Што гэта сапраўды так, яскрава сведчаць самі факты. Вось факты: Клімавіцкага раёна, дзе група вучняў беларускай 1 і 2-ой сямігодак сістэматычна збівала вучняў яўрейскай сямігодкі. Вучні гэтых-жа сямігодак на агульнагаспадарскім інтэрнацыянальным вечары заявілі, што яны не жадаюць глядзець інсцэніроўкі, таму, што яна на яўрэйскай мове.

Вучні яўрэйскай сямігодкі з свайго боку праявілі шавінізм, абзываючы рэбят беларусоў клічкай „гой" (Чырвоная змена" №11—33 г.).

Усім вядомы выпадак у Талочынскім раёне, дзе вучні беларускай сямігодкі ўварваліся у яўрэйскую школу і парвалі там кнігі, партрэты, пабілі вокны і г. д.

Такія-ж факты у тым або іншым выглядзе, як гэта было выяўлена на нарадзе старшынь Р.Б.Ю.П. (10/XII—15/XII-33 г.) маюць месца і ў іншых раёнах не толькі ў школах, але і ў піонер. атрадах.

Былі факты калі піонерскія звенні розных нацыянальнасцей не жадалі сумесна працаваць.

Чаму гэта так атрымалася, што класавы вораг узяў дзетвару нашых школ, нашых піонер-атрадаў пад свой уплыў, што ён аказаўся мацнейшым у гэтых выпадках за піонер. атрад? Гэта здараецца, таму, што у нас інтэрнацыянальнае выхаванне рэбят або зусім не праводзіцца, або праводзіцца у сувязі з якім-небудзь выпадкам (антысемітызм, шавінізм і г. д.); інтэрнацыянальная работа праводзіцца кампаніямі, у сувязі з якім-небудзь рэволюц. святам. І тая інтэрнацыянальная праца, якая праводзіцца у сувязі з гэтымі выпадкамі, кампаніямі, святамі, носіць выпадковы, несістэматычны, павярхоўны характар—і зводзіцца звычайна к шэрагу гутарак, інтэрнацыянальных вечароў, іншы раз арганізацыі інтэрнацыянальных кангрэсаў і г. д.

Уся гэта работа не была звязана з штодзённай работай нашага піонер. атрада і хутка забывалася рэбятамі. (Гэта яскрава паказвае матэрыл, сабраны навукова-дaслед. інстытутам ком. выхавання.)

Інтэрнацыянальна-класавае выхаванне не павінна адрывацца ад усей палітыка-выхаваўчай работы піонер. атрада, яно павінна пранізаць усю работу рэбят і праводзіцца сістэматычна. Задача важатага разам з звенавым, разам з педагогамі арганізаваць інтэрнацыянальную работу сярод рэбят у жывых, цікавых формах для рэбят. За апошні час наша піонер. арганізацыя дала шмат цікавых форм інтэрнацыянальнай работы, але не ўсе іх яшчэ ведаюць, не ўсе імі карыстаюцца.

Для прыклада некаторыя з іх высвятляюцца у гэтым артыкуле, але нятрэба думаць, што гэтымі прыкладамі вычэрпваецца ўся інтэрнацыянальная работа піонерскага атрада.

Адной з такіх форм інтэрнацыянальнай работы, якая за апошні час праводзіцца некаторымі піонер. атрадамі і выклікае цікавасць у рэбят, з'яўляецца „інтэрнацыянальны кангрэс".

Інтэрнацыянальны кангрэс ад іншых форм інтэрнацыянальна-выхаваўчай работы адрозніваецца тым, што ён злучае ў сябе шмат метадычных прыёмаў: работа над кнігай, над картай, гутаркі, экскурсіі, гульня, наведванне музея, кіно-тэатра, дзіцячае вынаходства, самадзейная дзіцячая творчасць.

Асноўныя задачы інтэрнацыянальнага кангрэса ў тым, каб павысіць ідэйна палітычны ўзровень рэбят і замацаваць тыя формы інтэрнацыянальнай работы, якія у піянератрадзе ўжо праводзяцца. Падняць свядомасць кожнага піонера, як сябра міжнароднай дзіцячай, комуністычнай арганізацыі. На прыкладах кантраста паміж краінамі капітала і СССР паказаць рэбятам правільнасць Ленінскай нац. палітыкі. Правядзенне кангрэса патрабуе вялікай падрыхтоўчай работы, як з боку важатага, педагога, так і з боку рэбят.

Важаты, педагог перш чым прыступіць да распрацоўкі плана кангрэса з рэбятамі, павінны: 1) Грунтоўна азнаёміцца з школьнымі праграмамі, асабліва па гісторыі, грамадазнаўству, геаграфіі, літаратуры. Гэта дасць мажлівасць уявіць веды ў рэбят аб жыцці асобных капіталістычных дзяржаў і даведацца аб тым, што рэбята вывучаюць зараз. 2) Прыкладна намеціць капіталістычныя краіны для вывучэння кангрэса. Лік дзяржаў не павінен перавышаць 3—4-х. Гэта робіцца

для таго, каб стварыць мажлівасць больш хутка іх вывучыць і лепш аформіць. 3) Азнаёміцца з літаратурай, якая маецца па гэтых капіталіст. дзяржавах і адабраць больш падыходзячую для рэбят. 4) Прадумаць і скласці план падрыхтоўкі рэбят к кангрэсу, з тым каб улічыць, што канкрэтна можна даць, апрача кніг, газет, якія трэба кіно-фільмы праглядзець, якую правесці экскурсію, куды, каго запрасіць для правядзення гутаркі, каму напісаць ліст, як аформіць яго, скарыстаўшы дзіцячую самадзейнасць і творчасць.

Калі ўсё гэта важатым і педагогам прадумана і складзен чоткі план, пасля гэтага можна пераходзіць да падрыхтоўкі саміх рэбят к кангрэсу.

Як падрыхтаваць рэбят?

Пытанне аб правядзенні кангрэса абгаварваецца раней на совеце атрада, дзе рэбята даведаюцца аб мэтах і задачах кангрэса, аб яго арганізацыі. Пасля гэтага праз насцэнгазету або праз спецыяльную лістоўку пішацца зварот да ўсіх піонераў школы прыняць удзел у кангрэсе. Тут-жа у гэтым звароце коратка адзначаюцца мэты і задачы кангрэса і указваецца, што для таго, каб прыняць удзел у кангрэсе, неабходна каб кожны піонер. атрад і звенні вывучалі капіталістычныя дзяржавы, іх гаспадарку, палітыку, дзіцячую працу, школу, эканамічнае становішча рабочых, буржуазныя дзіцячыя арганізацыі ў капіталістычных краінах.

Пасля гэтага размяркоўваюцца дзяржавы паміж атрадамі, звеннямі. Дзяржавы выбіраюцца добравольна па жаданню рэбят.

На першых парах рэбята размяркоўваюць паміж сабой працу для вывучэння прыкладна такім чынам, адно звяно вывучае эканоміку, другое культурнае становішча дзяржавы, трэцяе становішча дзяцей і г. д. Апрача гэтага на зборы праводзіцца гутарка з рэбятамі, якая павінна коратка адбіць становішча гаспадаркі, культузровень народа, класавую барацьбу той дзяржавы, якую яны вывучаюць. Было-б добра каб гэтая гутарка ілюстравалася праглядам адпаведнага кіно-фільма, або невялікім мастацкім расказам і г. д.

Правядзенне гэтай гутаркі ў пачатку падрыхтоўчай работы к кангрэсу неабходна таму, што павінна даць фон далейшай работы рэбят, пэўную накірованасць.

Тут-жа на гэтым зборы звенні атрымліваюць канкрэтныя ўказанні, як ім далей рыхтавацца к кангрэсу: чытка газет, часопісаў, мастацкай літаратуры, падбор малюнкаў, правядзенне экскурсій, складанне альбомаў, інтэрнацыянальная перапіска, мантажы і г. д.

Даюцца указанні з кім трэба звязацца, каб сабраць лепшы і больш глыбокі матэрыял (з ячэйкай МОПР, з палітэмігрантамі, з іншаземнымі рабочымі, спецыялістамі, працуючымі на тых прадпрыемствах з іх дзецьмі).

Атрымаўшы раздзел работы па сваей дзяржаве і канкрэтныя указанні дзе і як працаваць, рэбята адпраўляюцца у бібліатэкі, ідуць у музей на экскурсію, вывучаюць карту сваёй дзяржавы, ідуць у т-ва старых большэвікоў, састаўляюць альбомы, рыхтуюць інсцэніроўкі, даклады, газеты, ходзяць у кіно, тэатр і г. д.

Толькі ў тым выпадку рэбята добра падрыхтуюцца, калі на гэту справу будзе адведзена не менш як паўтара—два месяцы.

Перш чым выступаць на міжнародным кангрэсе, рэбята правяраюць усе падрыхтаваныя матэрыялы для гэтай справы на заключным зборы атрада.

На заключны збор атрада кожнае звяно прыходзіць з падрыхтаванымі лозунгамі, плакатамі, фотоздымкамі, альбомамі, калектыўна

падрыхтаванымі дакладамі, выпушчанай насценгазетай; да гэтага-ж збору рыхтуюцца звяном інсцэніроўкі жывой газеты па вывучаемай дзяржаве.

На заключным зборы атрада канчаткова афармляецца ўвесь матэрыял да міжатраднага кангрэса. Міжнародны кангрэс піонераў праводзіцца у мастацка-аформленай урачыстай абстаноўцы, на які запрашаюцца, апрача піонераў, школьнікаў і педагогаў, рабочыя шэфскай вытворчасці, парт-комсамольскі калектыў, палітэмігранты, старыя большэвікі, замежныя рабочыя і іх дзеці. Памяшканне, дзе будзе праводзіцца кангрэс, павінна быць прыбрана і ўвешана лозунгамі, плакатамі, дыяграмамі, спецыяльна падрыхтаванымі картамі, плакатамі. К кангрэсу павінен быць падрыхтован інтэрнацыянальны куток, які-б адбіваў усю праведзеную, інтэрнацыянальную работу кожнага атрада і звяна, як штодзённую, так спецыяльна прароблены к кангрэсу, тут-жа павінны быць лозунгі, плакаты, напісаныя на замежных мовах.

Кангрэс прадстаўляе сабой з'езд дэлегацый ад розных капіталістычных дзяржаў.

Дэлегацыі на кангрэсе павінны па магчымасці быць аформлены так, каб яны давалі малюнак таго, якую дзяржаву яны прадстаўляюць. Сам кангрэс можа пачацца парадам дэлегацый, якія зал сустракае баявымі лозунгамі на розных мовах і адпаведнымі адказамі, напр. дэлегацыю Германіі сустрэць лозунгам: „Піонеры, Германіі, к барацьбе за рабочую справу будзьце гатовы!", дэлегацыя гучна адказвае: „Іммер герайт" салютам „рот фронт" і г. д.

Пасля гэтага пачынаюцца выступленні дэлегацый асобных капіталістычных краін. Выступленне дэлегацый можа праводзіцца ў розных формах: адны даюць сваё выступленне у форме інсцэніроўкі, другія ў выглядзе жывой газеты, трэція даюць грунтоўны даклад на нямецкай мове (Бабруйск), а чацвертыя ў выніку вывучэння даюць свой уласны складаны твор.—Адным словам, формы канчатковага афармлення кангрэсу павінны быць разнастайнымі і ў гэтым напрамку неабходна скарыстаць ініцыятыву рэбят. І таму тут устанаўліваць рамак для гэтай справы няма патрэбы. Тут трэба даць мажлівасць цалкам праявіцца дзіцячай самадзейнасці і іх творчай ініцыятыве.

Арганізацыйнае кіраўніцтва кангрэсам, калі у ім прымаюць удзел некалькі піонер-атрадаў, ускладаецца на спецыяльна выбраны для гэтай справы штаб, у склад якога-б увайшлі важатыя, лепшыя старшыні советаў атрадаў, педагог, бібліатэкар. Колькасны склад, штат не павінен перавышаць 5—7 чалавек. У абавязкі штаба ўваходзіць: кіраўніцтва і дапамога піанер-атрадам і звенням у працэсе падрыхтоўкі да кангрэса, шляхам арганізацыі кансультацыі па ўсіх капіталістычных дзяржавах, вывешванне рэкамендацыйных спісаў літаратуры, раіць, якія трэба паглядзець кіно-фільмы, пастаноўкі ў тэатры, з кім звязацца і г. д.

Штаб сістэматычна правярае работу рэбят і дае патрэбныя ўказанні, асвятляе падрыхтоўку ў насцен. друку.

Не менш цікавай і важнай формай інтэрнацыянальнага выхавання з'яўляецца такая форма работы, як „з'езд народаў СССР". Гэта форма работы ад кангрэса адрозніваецца тым, што зменены аб'екты вывучэння. Замест капіталістычных краін нашы рэбята адпраўляюцца вывучаць нацыянальна акраінныя рэспублікі. Гэта форма работы, праводзячыся побач з інтэрнацыянальным кангрэсам, дае яскравае разуменне ленінскай нац. палітыкі, паказваючы глыбокую розніцу паміж— „у нас і ў іх".

Шляхі арганізацыі „з'езда народаў СССР" тыя-ж што і кангрэса і таксама не менш часу павінна адводзіцца на іх падрыхтоўку. Як „кангрэс", так і „з'езд народаў СССР" маюць, безумоўна, вялікае значэнне не толькі выхаваўчае, але і адукацыйнае, таму—што рэбятам для падрыхтоўкі як „кангрэсу", „так і з'езду народаў СССР" неабходна парыцца ў бібліятэках, энцыклапедыях, у навукова-папулярных, тэхнічных кнігах; рэбята рэгулярна сочаць за газетай, журналам, складаюць альбомы выразак, фотоздымкаў, наведваюць кіно, тэатры, музеі, выстаўкі, бываюць на дзіцячай тэхнічнай станцыі—усюды шукаюць яны новых ведаў, пашыраючых іх гарызонт.

Не менш важнай формай работы ў арганізацыі інтэрнацыянальнага выхавання ў атрадзе займае палітінфармацыя, мэтай якой з'яўляецца: даць сістэматычныя веды па асноўных пытаннях бягучай палітыкі, асоба выдзяляючы тыя з іх, у якіх могуць практычны ўдзел прыняць самі рэбята. Яна дае і тлумачыць рэбятам асноўныя з праходзячых у гэты час факты хода соц. будаўніцтва і барацьбы, рабочага класа ў нас і за мяжой. Паліт. інфармацыя дае мажлівасць хутка адзначыць і рэагаваць на факты, якія мы маем у галіне соцбудаўніцтва і міжнароднай палітыкі, а разам з гэтым хутка рэагаваць на розныя праявы класавага ворага і яго жаданні ўплываць на дзіцячае асяроддзе, хутка мабілізаваць на барацьбу з гэтым піонерарганізацыю і ўсіх вучняў.

Разам з гэтымі формамі інтэрнацыянальнай работы трэба ўмела скарыстаць і рад іншых форм, прыёмаў, маючыхся ў некаторых нашых піонератрадах, з тым, каб дабіцца агульнага пад'ёма інтэрнацыянальнага выхавання сярод рэбят. Не трэба думаць, што гэтыя формы з'яўляюцца сталым рэцэптам. Тут трэба самому важатаму педагогам праявіць сваю ініцыятыву і праявіць больш гібкасці да ініцыятывы рэбят.

# АЎЛАДАЕМ ТЭХнікай
## ПЕДАГАГІЧНАГА ПРАЦЭСА

*А. Нусенбаум і М. Снапкін*

## Настаўнік павінен рыхтавацца да ўрока

### 1. Добры план—прадпасылка добрага ўрока

Поспех усякай работы у значнай ступені залежыць ад таго, наколькі прадумана яна была раней. Чым работа больш складаная, тым больш старанна яе трэба спланаваць. Здольнасць—загадзя прадбачыць намечаны рэзультат работы і ў адпаведнасці з тэтым падабраць неабходныя сродкі для дасягнення намечанай мэты,—прадстаўляе адну з асаблівасцей чалавека, адрозніваючую яго ад жывёл.

„Павук робіць аперацыі, нагадваючыя аперацыі ткача, і пчала пабудовай сваіх васковых ячэек сароміць некаторых людзей архітэктараў. Але і самы дрэнны архітэктар ад найлепшай пчалы з самага пачатку адрозніваецца тым, што перш чым будаваць ячэйку з воску, ён пабудаваў ужо яе ў сваёй галаве. У канцы працэса працы атрымліваецца рэзультат, які ўжо перад пачаткам гэтага працэса меўся ідэальна, г. зн. у прадстаўленні работніка" (Маркс, „Капітал" т. I гл. 5).

Асабліва вялікае значэнне мае планаванне ў нас ў СССР, дзе ў рэзультаце перамогі пролетарыята над капіталістычнымі элементамі, створаны неабмежаваныя магчымасці планавання ўсёй народнай гаспадаркі і іншых галін жыцця краіны.

Асабліва значна роль планавання ў педагагічнай рабоце, пры якой настаўнік мае справу з дзецьмі, дзе, значыцца, неабходна ўлічыць наяўнасць вялікай рознастайнасці канкрэтных умоў і магчымасці непрадбачаных выпадкаў. Старанная падрыхтоўка і планаванне кожнага ўрока неабходны таму не толькі маладому і невопытнаму настаўніку, але і педагогу з вялікім стажам.

Кожны педагог ведае па свайму асабістаму вопыту, што тыя моманты ў яго рабоце, якія пакідаюць найбольш глыбокі след у вучняў, з'яўляецца перш за ўсё рэзультатам працяглай і прадуманай падрыхтоўкі. З другога боку, большая частка правалаў і памылак на ўроку, якія зніжаюць аўтарытэт настаўніка перад вучнямі, абумоўлена недастатковай падрыхтоўкай да ўрока.

Аднэй з найбольш распаўсюджаных памылак, якія тлумачацца дрэннай падрыхтоўкай да ўрока, з'яўляецца паведамленне неверных вестак, або блытаніна ў тлумачэнні і ізлажэнні матэрыяла. Адзін малады настаўнік пры тлумачэнні дзялення атрымаў у дзелі лік большы, чым у дзеліве, і так і не мог знайсці выхад.

Другая настаўніца на ўроку прыродазнаўства сказала, што матылькапуснік зімуе ў зямлі пад карнямі капусты. На запытанне метадыста,—адкуль яна ўзяла гэты „факт", яна растлумачыла, што аб

гэтым даведалася з падручніка „Крепи учебу". На самай справе ў падручніку было напісана, што некаторыя школьнікі зімуюць у зямлі. Няправільнае абагульненне, дапушчанае настаўніцай, відавочна тлумачыцца павярхоўнай і неахайнай падрыхтоўкай.

У другіх выпадках слабая падрыхтоўка прыводзіць да непрадуманай і няўдалай методыцы правядзення ўрока: к адсутнасці яркіх і вобразных ілюстрацый, дрэннаму абсталяванню урока, манатоннасці, пастаноўцы няўдалых пытанняў. Усё гэта выклікае стамленне вучняў, слабое замацаванне матэрыяла, непрадукцыйную трату часу і парушэнне дысцыпліны.

Вельмі часта, асабліва ў практыцы маладых настаўнікаў бываюць выпадкі, калі ўрок аказваецца не запоўненым. Матэрыяла падрыхтавана значна менш, чым можна прапрацаваць на ўроку. Астатні час настаўнік „малоціць салому", не ведае, чым заняць дзяцей, не можа дачакацца званка.

## 2. Як настаўнікі рыхтуюцца да ўрока

Для таго, каб выясніць арганізацыю падрыхтоўкі да ўрокаў, намі была праведзена невялікая анкета сярод настаўнікаў, якой было ахоплена 90 педагогаў (у тым ліку 27 чал. педмаладняка). Хаця лік ахопленых настаўнікаў невялікі, усё-ж анкета дала важны фактычны матэрыял, правільнасць якога потым пацвярдзілася пры абгаварэнні яго на неаднакратных нарадах настаўнікаў-метадыстаў.

**Час, які траціцца на падрыхтоўку: індывідуальная і калектыўная падрыхтоўка.** Перш за ўсё нас цікавіла пытанне аб колькасці часу, якая ў сярэднім траціцца на падрыхтоўку. Аказалася, што ў сярэднім педагогі стажысты затрачваюць на падрыхтоўку каля 19 гадзін у дэкаду, а маладняк каля 17. Такім чынам, маладняк, які, здавалася-б, патрабуе больш працяглай і сыстэматычнай работы над павышэннем сваёй кваліфікацыі, на справе, рыхтуецца менш, чым больш вопытныя настаўнікі. Такое становішча ніяк нельга лічыць нармальным.

Як правіла, падрыхтоўка да ўрокаў адбываецца вечарам. Настаўнікі са стажам рыхтуюцца таксама ў выходны дзень. Пры гэтым, апроч індывідуальнай падрыхтоўкі, значная частка настаўнікаў рыхтуецца яшчэ і калектыўна, аб чым сведчыць наступная табліца:

| | Агульны лік | З іх рыхтуецца калектыўна |
|---|---|---|
| Сельскія стажысты . . . . . | 25 | 12 |
| Сельскі маладняк . . . . . | 19 | 6 |
| Гарадскія стажысты . . . . . | 38 | 34 |
| Гарадскі маладняк . . . . . | 8 | 5 |

Калектыўная падрыхтоўка часцей мае месца ў горадзе, чым ў вёсцы. Гэта відавочна тлумачыцца тым, што вясковым настаўнікам з-за далёкай адлегласці трудней сустракацца з таварышамі. Як у горадзе, так і ў вёсцы маладыя настаўнікі радзей прымаюць удзел у калектыўнай рабоце, чым настаўнікі са стажам. Гэта зноў такі сведчыць аб недаацэнцы педмаладняком важнасці падрыхтоўкі да ўрока.

Амаль ва ўсіх выпадках пры калектыўнай падрыхтоўцы мае месца падзел працы, пры якім кожны з настаўнікаў бярэ на сябе падрых-

тоўку па аднэй якой-небудзь дысцыпліне. Гэта садзейнічае больш паглыбленай падрыхтоўцы да заняткаў.

**Якімі дапаможнікамі карыстаецца настаўнік пры падрыхтоўцы**

| Від дапаможніка | Лік настаўнікаў, скарыстоўваючых даны дапаможнік |
|---|---|
| 1. Падручнік | 81 чал. |
| 2. Дэкадны план | 70 „ |
| 3. Методраспрацоўкі | 55 „ |
| 4. Журнальныя артыкулы | 54 „ |
| 5. Дзіцячая літаратура | 52 „ |
| 6. Прыватныя методыкі | 42 „ |
| 7. Навукова-папулярная літаратура | 30 „ |
| 8. Матэрыялы ўласнага мінулага вопыта | 27 „ |
| 9. Дзіцячыя сшыткі | 20 „ |
| 10. Газеты і інш. | 18 „ |
| 11. Даведнікі | 14 „ |
| 12. Матэрыялы іншых настаўнікаў | 8 „ |

Асабліва мала дапаможнікаў скарыстоўваецца педмаладняком. У апошняга, як правіла, справа абмяжоўваецца толькі праглядам падручніка і дэкаднага плана.

На аснове гэтых даных можна зрабіць наступныя вывады:

Самы распаўсюджаны спосаб падрыхтоўкі гэта падбор матэрыяла з падручніка.

Большая частка настаўнікаў скарыстоўвае апроч падручніка дэкадныя планы, методраспрацоўкі, журнальныя артыкулы і дзіцячую літаратуру.

Зусім недастаткова скарыстоўваюцца матэрыялы свайго ўласнага вопыта. Гэта значыць, што настаўнік кожны год зусім занава прарабляе адну і тую-ж работу па падрыхтоўцы к заняткам, нават калі ён паўторна прапрацоўвае курс таго-ж году навучання. Амаль адсутнічае скарыстанне вопыта таварышоў (8 выпадкаў з 90). Гэта лішні раз паказвае недастатковую работу па абмену вопытам у паўсядзённай настаўніцкай практыцы.

Трэба звярнуць асаблівую ўвагу на неабходнасць дапамогі педмаладняку, які ва многіх выпадках не ўмее рыхтавацца да ўрока і часам недаацэньвае значэнне падрыхтоўкі асабліва калектыўнай.

**Як настаўнікі папаўняюць свае ўласныя веды ў сувязі з падрыхтоўкай да ўрока.** Мы ўжо гаварылі аб тым, што як правіла настаўнік рыхтуецца сам па таму падручніку, які прызначан для вучняў яго групы. Адзін настаўнік так шчыра і адказаў на гэтае пытанне анкеты: „Бяру веды для кожнага ўрока з падручніка“. Тут мы бачым яўнае прызнанне таго зусім недапушчальнага факта, што многія настаўнікі прыходзяць на ўрок ведаючы толькі тое, што павінны ведаць вучні.

Аднак іншыя настаўнікі ўказваюць цэлы рад больш-менш удалых спосабаў павышэння сваёй кваліфікацыі (прагляд навукова-папулярнай літаратуры, скарыстанне Малой Совецкай Энцыклопедыі, старых падручнікаў і падручнікаў для старэйшых груп, дзіцячых журналаў, наведванне гурткоў, гутарка з больш вопытным настаўнікам і інш.).

**Устанаўленне методыкі ўрока: вучот індывідуальных асаблівас-**

цей вучняў. Апроч папаўнення ўласных ведаў настаўнік прарабляе яшчэ работу па ўстанаўленню методыкі ўрока. Часцей за ўсё гэта робіцца на аснове раней атрыманай метадычнай падрыхтоўкі і неаформленага асабістага вопыта. Аднак, некаторыя настаўнікі ўказваюць і іншыя прыёмы, напрыклад,—вучот і аналіз недахопаў, дапушчаных у аналагічных выпадках, вывучэнне прыватных методык, азнаямленне з артыкуламі ў журналах і газеце „ЗКП". Варта адзначыць указанне аднаго настаўніка аб тым, што перад праходжаннем трубнай тэмы аб'яднанне запрашае метадыста, які тлумачыць як лепш правесці ўрок.

**Адкуль настаўнік бярэ матэрыял для самастойнай работы вучняў.** Часцей за ўсё гэты матэрыял бярэцца з падручніка. Побач з гэтым указваюцца і іншыя крыніцы: кнігі з дзіцячай бібліатэкі, дзіцячыя журналы, метадычныя дапаможнікі, а таксама старыя падручнікі. Але з прычыны крайняй абмежаванасці гатовых заданняў у метадычнай літаратуры і падручнікаў, настаўнік часта вымушан падбіраць заданні „сам ад сябе".

Большасць настаўнікаў пры планаванні ўрока не ўлічваюць індывідуальных асаблівасцей дзяцей, арыентуючыся на так званага „сярэдняга вучня". Толькі асобныя настаўнікі маюць на ўвазе гэтыя індывідуальныя асаблівасці. Адны з іх загадзя намячаюць фаміліі вучняў, якіх трэба апытаць, іншыя складаюць асобныя заданні, або спецыяльныя пытанні для слабых. Адзін настаўнік практыкуе такі прыём: намячае для сільных самастойную работу, а для слабых у той-жа час—калектыўныя заняткі.

**Дзе настаўнік бярэ дапаможнікі і дыдактычны матэрыял неабходны для ўрока.** Тут трэба адзначыць значную вынаходлівасць настаўнікаў у адшуканні патрэбных дапаможнікаў і матэрыялаў. Вось што гавораць адказы:

— У школьнай бібліатэцы.
— У габінеце другой ступені.
— У Педтэхнікуме.
— Самі прыгатаўляем.
— Бяру ў таварышоў.
— Збіраю матэрыял ад вучняў (напрыклад журналы).
— Скарыстоўваю стары матэрыял групы.
— Збіраем на экскурсіях.
— Дапаможнікі вырабляюцца на ўроках працы.

Што датычыцца арганізацыі абстаноўкі ў класе, то яна звычайна абмяжоўваецца падрыхтоўкай падручнікаў і сшыткаў, раздачай дзяжурнымі матэрыялаў для работы, развешваннем карт, табліц, выціраннем дошкі, прыгатаўленнем крэйды, анучкі і чарніл.

**Розныя формы запіса планаў урока.**

Рэзультаты падрыхтоўкі да ўрока настаўнік фіксуе ў сваім рабочым сшытку—дзённіку. Разбярэм некалькі тыповых узораў з ліку прысланых нам разам з анкетамі.

## Першы ўзор

Першы ўрок. Пісьмо—спісванне з лемантара на стар. 78. Чытанне і разбор спісанага.

Другі ўрок. Матэматыка. Складанне і адніманне ў межах 20-ці (павелічэнне і змяншэнне на некалькі адзінак, вуснае развязванне задачак).

Трэці ўрок. Прыродазнаўства. Гутарка аб дзікіх жывёлах. Чытанне па кніжцы „Октябрята за учобой“ ст. 101 і гутарка аб пройдзеным.

Чацверты ўрок. Рысаванне жывёл з лемантара: мядзведзя, воўка і ліса.

Асноўны недахоп гэтага запіса—адсутнасць указання на методыку. Не паказана структура кожнага ўрока (з якіх частак састаіць урок, у якой паслядоўнасці разгортваецца яго змест, змена відаў работы). Запіс носіць занадта агульны характар. Такі план не можа служыць практычным кіраўніцтвам для настаўніка на ўроку.

**Вось другі ўзор плана:**

| Лік гадз. | Што намечана па тэме | Від работы | Матэрыял |
|---|---|---|---|
| 1 г. | Правапіс | Пісьмо адказаў на пытанні. | Кніга: „Читай, пиши, рассказывай“ ст. 56, раб. 97. |
| 2 г. | Развязаць прыклады на множанне і дзяленне (на 6 і 8). | Самастойна развязаць у сваіх сшытках. | Кніга. „Математика в школе“ ст. 25, раб. 12. |
| 3 г. | Кастрычніцкая рэвалюцыя аб'яднала ўсе нацыянальнасці, усіх працоўных. | Гутарка, пытанні, чытанне вытрымак | „За политехническую школу“ ст. 49. |
| 4 г. | Чытанне | Чытанне | „Ясное утро“ ст. 52 Апав. „Маленькая Нелли“ |

Якія недахопы гэтага плана?—Адсутнічае назва дысцыпліны; зусім не відаць, чаго хоча дабіцца настаўнік (не паказаны мэтавая ўстаноўка); не паказвае паслядоўнасць у развіцці зместа ўрока і змена відаў работы, уся ўвага сканцэнтравана на матэрыяле. Такі план таксама дрэнна ўзбройвае настаўніка для правядзення ўрока.

### Трэці ўзор

| Лік | Парадак дысцыплін | Змест урока і як будзе прапрацоўвацца матэрыял | Што трэба падрыхтаваць да ўрока |
|---|---|---|---|
| | Грамадазнаўства | 1. Паўтарэнне старога матэрыяла. Развіццё сельскай гаспадаркі пры царскай уладзе—5 м. | Падручнік па грамадзнаўству ст. 27 |
| | „ | 2. Гутарка і чытанне аб развіцці с/г. цяпер (калгасы і соўгасы), хто можа быць членам калгаса—15 м. | |
| | „ | 3. Пытанні і адказы—7 м. | |
| | „ | 4. Індывідуальны твор на тэму гутаркі—18 м. | |

Тут дана ўдобная схема да запіса плана. Паказана паслядоўнасць разгортвання ўрока. Указаны віды работы і арыентовачна колькасць часу на кожны з іх.

З недахопаў трэба ўказаць адсутнасць тэмы ўрока і канечнага вывада, к якому трэба падвесці дзяцей у гутарцы, адсутнасць графы для заданняў на дом.

## План правядзення ўрока геаграфіі

### Тэма „Кітай“

Матэрыял

Літаратура: газеты „Правда“, кнігі: Дубровский—„Китай“. Японские интервенты в Манчжурии. СССР и капиталистический мир. Организация власти советов в Китае.

Дапаможнікі: карты паўшар'яў і Кітая. Каляровыя флажкі (прыгатоўленыя самой). Кніга з малюнкамі ў кітайскім выданні. Плакаты—віды тыпы Кітая, грамадскае жыццё, рэволюцыйная барацьба.

### Паслядоўны ход урока

Перад званком на ўрок дзяжурны вучэбна-вытворчага звяна прыносіць у клас карты і іншыя матэрыялы

Настаўнік: трэба гаварыць цішэй, урок пачаўся.

**Уступ** Тлумачу тэму ўрока. Звяртаюся да пройдзенай тэмы „Японія“, увязваю з тэмай „Кітай“

**Карта** Паказваю месцапалажэнне, граніцы, галоўныя гарады.

**Гутарка** Бліжэйшая суседка Кітая Японія, яе захватніцкія мэты. Чым яе прыцягвае Кітай (прыродныя багацці, геаграфічнае палажэнне, усходнія граніцы з СССР), адносіны СССР к Кітаю.

**Плакат** Прымацоўваю плакат да дошкі, прадаўжаю гутарку далей. Праношу плакат па партах.

**Кніга ў кітайскім выданні.** Культура кітайцаў. Дэманструю кнігу, праношу па радах, паказваю малюнкі, тлумачу іх.

**Плакат** Праца кітайцаў. Прадаўжаю расказ і ўводжу плакат.

**Карта Кітая** Рэволюцыйная барацьба. Чытаю вытрымкі з газет. Раёны Совецкай улады ў Кітаі. Указваю раёны ўлады советаў,

**Флажкі** прымацоўваю каляровыя флажкі.

**Кніга** Чытаю вытрымкі з кнігі „Совецкая ўлада ў Кітаі“. Пасля чытання вяду гутарку з вучнямі, задаю пытанні класу, выклікаю для адказаў вучняў па фаміліях.

У гэтым плане добра паказаны змест і методыка ўрока, яго паслядоўны ход. Да кожнай часткі ўрока ўказан матэрыял. Асноўны недахоп плана,—грамоздкасць, якая затрудняе карыстанне ім у час урока і адымае шмат часу пры падрыхтоўцы. Гэты-ж самы план можна выкласці карацей без ушчэрба для паўнаты: зусім магчыма, напрыклад, апусціць спіс літаратуры і дапаможнікаў у пачатку, паколькі гэтыя дапаможнікі ўказаны ў самым ходзе ўроку.

Няма патрэбы ўпамінаць у плане, што дзяжурны прыносіць карты і іншыя дапаможнікі. Не трэба запісваць і такіх падрабязнасцей, як зварот настаўніка да дзяцей у пачатку урока: „Цішэй, урок пачаўся“. Усё далейшае апісанне можна было выкласці значна больш сціслай, кароткай мовай, што зрабіла-б план больш кампактным, зручным для карыстання. Увогуле-ж план упаўне прыемлем.

Некаторыя настаўнікі складаюць яшчэ больш падрабязны канспект урока, у якім прадугледжваюцца не толькі ўсе пытанні настаўніка, але і прадпалагаемыя адказы дзяцей. Такі падрабязны канспект метазгодна складаць для ўзорных і адкрытых урокаў. Для штодзённай фіксацыі такая форма непрыгодна з прычыны сваёй грамоздкасці.

А вось план, які можа рэкамендаваць, як **цалкам прыемлемы для паўсядзённай работы.**

1-га лютага. 2-гі урок. Граматыка рускай мовы. Задача урока— выясніць дзецям, як змяняюцца назоўнікі жаночага рода, якія канчаюцца на „а“, „я“ і „ь“.

**Ход ўрока:**

1. Дзеці прыдумваюць прыклады назоўнікаў жаночага рода з канчаткамі на „а“, „я“, „ь“ (спытаць Федзю К., Маю С. і Колю В.)— 3 мін.

2. Змена гэтых слоў па склонах (на ўсякі выпадак словы „книга“ „Каця“, „Ель“). Адказваюць вусна Міша Б., Паша С., Ліда В.—5 мін.

3. Вылучэнне склонавых канчаткаў. Вусна адказваюць Шура Б., Каця С., Ваня П.—5 мін.

4. Складанне на ўроку таблічкі склонавых канчаткаў. Табліцу рысую і запаўняю сама пад дыктоўку вызваных дзяцей. Запытаць Шуру С., Ваню П., Федзю М.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Именит. | а | я | ь |
| Родит. | ы-и | и | и |
| Дат. | е | е | и |
| Творит. | ой | ей | ью |
| Предложн. | е | е | и |

5. Перапісванне запоўненай табліцы ў сшытак—15 мін.

Заданне на дом: прадумаць і праскланяць тры назоўнікі жаночага рода на а, я, ь—2 мін.

У гэтым плане ўказана назва дысцыпліны, задача ўрока наглядна відаць увесь ход урока „методыка“ і матэрыял. Арыентыровачна ўказан час на кожную частку ўрока. Намечаны фаміліі вучняў, якія будуць выкліканы. Запіс не грамоздкі.

Такі запіс арганізуе работу настаўніка і можа служыць кіраўніцтвам да дзеяння. Для большай поўнаты належыла-б у канцы пакінуць месца для адзнакі аб выкананні плана і заўваг настаўніка па поваду данага ўрока.

**Што перашкаджае падрыхтоўцы да ўрока, і як настаўнікі прапануюць устараніць гэтыя перашкоды.** Сярод прычын, перашкаджаючых падрыхтоўцы да ўрокаў, часцей за ўсё адзначаюцца аб'ектыўныя труднасці: адсутнасць метадычнай літаратуры, дапаможнікаў, адсутнасць адпаведнай абстаноўкі для работы, недахоп часу і інш. Толькі нямногія настаўнікі адзначаюць недастатковасць сваёй уласнай метадычнай падрыхтоўкі і ведаў, асабліва палітэхнічных.

Справядлівы скаргі настаўнікаў на недахоп дзіцячай літаратуры, на залішнюю перагрузку настаўніка пабочнай работай. Заслугоўваюць увагі прапановы настаўнікаў, накіраваныя да стварэння больш спрыяючых умоў да нармальнай падрыхтоўкі. Вось некаторыя з іх:

— Узмацніць метадычную старонку „ЗКП“.

— Выдаць асобныя брашуры для настаўнікаў і дзяцей прыстасоўна к праграмам.

— Папоўніць дзіцячыя бібліятэкі.

— Узмацніць дапамогу маладняку з боку метадыстаў.

— Разгрузіць настаўнікаў ад лішніх сходаў.

Хаця некаторыя труднасці, указаныя настаўнікамі, з'яўляюцца сапраўднымі труднасцямі (адсутнасць дзіцячай і метадычнай літаратуры, дапаможнікаў і інш.) было-б памылкай занадта пераацэньваць іх зна-

чэнне. Ёсць шмат прыкладаў, калі настаўнікі нават у самых цяжкіх умовах дабіваюцца добрых рэзультатаў шляхам стараннай падрыхтоўкі да заняткаў і поўнага скарыстання тых магчымасцей, якія ёсць у іх распараджэнні. З другога боку ёсць і такія настаўнікі, якія нават ва ўмовах г. Масквы (пры наяўнасці рада музеяў, бібліатэк і інш. установаў) вядуць работу так, нібы яны знаходзяцца ў самай адсталай вёсцы. Спасылкі на аб'ектыўныя ўмовы часта з'яўляюцца прыкрыццём для безініцыятыўнасці і неўмення або нежадання працаваць.

### 3. Як трэба рыхтавацца да ўрока

**Арганізацыя калектыўнай падрыхтоўкі.** У практыцы работы настаўніцтва заваявала трывалае месца, побач з індывідуальнай, калектыўная падрыхтоўка. Калі яна не падмяняе сабой індывідуальную падрыхтоўку настаўніка да кожнага ўрока, калектыўная падрыхтоўка зусім мэтазгодна, бо дае магчымасць скарыстаць перавагі падзела працы. Асабліва належыць рэкамендаваць калектыўную падрыхтоўку (побач з індывідуальнай) педмаладняку, які здолее, такім чынам, вучыцца на вопытах старэйшых таварышоў. Як-жа рацыянальна арганізаваць калектыўную падрыхтоўку?

Калектыўная падрыхтоўка можа адбывацца ў брыгадах ў розных формах: метадаб'яднаннях, або невялікіх групах (3—4 чалавекі). Пачынаць работу трэба з вучота таго, як скарыстан матэрыял, намечаны за мінулы перыяд часу. Пры гэтым трэба адзначыць адступленні ад плана, найбольш удалыя і няўдалыя ўрокі, прааналізаваць выяўленыя труднасці і памылкі. Рэзультаты абмена думкамі пажадана коратка запісаць у асобным сшытку. Гэта дапаможа настаўнікам, якім прыдзецца прапрацоўваць аналагічны матэрыял на будучы год.

Пасля гэтага можна прыступіць к абгаварэнню дэкаднага плана па асобных дысцыплінах. Папярэдні прагляд вучэбнага матэрыяла, указанага ў праграме і методраспрацоўках, і складанне дэкаднага плана па розным дысцыплінам загадзя даручаецца асобным таварышам.

Вельмі важна яшчэ супольна папоўніць уласныя веды па зместу таго матэрыяла, які намечан да прапрацоўкі ў даную дэкаду, бо недастаткова той работы, якую ў гэтых адносінах можа прарабіць кожны настаўнік паасобку. Формы калектыўнага папаўнення ведаў могуць быць самыя рознастайныя.

У адных выпадках мэтазгодна паставіць даклад спецыяліста па данаму прадмету (настаўнік старшага канцэнтра, аграном, урач і т. д.), у другіх выпадках належыць арганізаваць невялікі практыкум у лабараторыі або ў габінэце, разлічанай на некалькі заняткаў (напрыклад, заняткі па электрычнасці, па працы, па хіміі і інш.). Пры гэтым не трэба абмяжоўвацца вузкімі рамкамі праграмы даннага году навучання, а наадварот трэба скарыстаць гэтыя заняткі для павышэння узроўня ведаў настаўніка і расшырэння навуковага кругавіда. Можна арганізаваць калектыўнае наведванне музея. Калектыўныя заняткі могуць таксама аказаць вялікую дапамогу пры распрацоўцы методыкі таго ці іншага труднага ўрока. З гэтай мэтай праводзяцца калектыўныя доследы, развязваюцца цяжкія задачы, выраблящца самаробныя прыборы і інш.

**Індывідуальная падрыхтоўка кожнага настаўніка.** Як-бы добра не была арганізавана калектыўная падрыхтоўка, яна не можа і не павінна замяніць сабой індывідуальную падрыхтоўку настаўніка да кожнага ўрока.

Толькі пры сістэматычнай рабоце над сабой, пры пастаянным павышэнні ўзроўня уласных ведаў і пры самастойным складанні плана работы, выходзячы з асаблівасцей сваёй групы, настаўнік даб'ецца больш высокай якасці ўрока.

Гэтая індывідуальная падрыхтоўка павінна выявіцца ў **самастойнай рабоце настаўніка па самаадукацыі**. Не толькі вучні, але і настаўнік павінен працаваць над набыццём дакладна акрэсленага круга сістэматызаваных ведаў. Інакай у яго заўсёды будуць прабелы, якія зробяць больш цяжкой штодзённую падрыхтоўку і немінуча будуць адбівацца на паўнаце, дакладнасці і сістэматычнасці ведаў вучняў.

Гэта не значыць, што трэба адразу ўзяцца за навучэнне ўсіх навук. Правільна паступіць той настаўнік, які, разлічыўшы час, што маецца ў яго распараджэнні, выбярэ сабе на даны перыяд адзін або два прадметы і будзе са дня ў дзень вывучаць гэты прадмет па вызначанай праграме. Па выкананні намечанага плана можна прыступіць да вывучэння іншых прадметаў. Гэтыя заняткі можна звязаць з праходжаннем якога-небудзь завочнага курса або скарыстаць праграму педтэхнікума ці педвуза у залежнасці ад кваліфікацыі настаўніка.

**Тэхніка самаадукацыйнай работы.** Пачынаючаму настаўніку, прыступаючы да кожнага задання, трэба спачатку азнаёміцца ў агульных рысах з характарам дапаможніка, затым бегла прачытаць матэрыял задання ў цэлым, выдзеліўшы асноўныя мыслі і вывады. Пасля гэтага трэба прыступіць да другога, больш дакладнага чытання. Пры гэтым трэба мець на ўвазе асноўную мысль кожнага ўрыўка і ўстанаўляць сувязь паміж фактычным матэрыялам і гэтымі асноўнымі мыслямі.

Трэба таксама мысленна прыцягваць прыклады з асабістага вопыта або раней прачытаных кніг, якія адносяцца да вывучаемага матэрыяла і памагаюць крытычна яго прапрацаваць. Для лепшага засваення і наступнага скарыстання матэрыяла можна рэкамендаваць складанне пісьмовага канспекта, а ва ўласных кнігах,—розныя адзнакі і падкрэсліванні.

Побач з такімі сістэматычнымі заняткамі неабходна таксама сачыць за навейшымі дасягненнямі навукі, скарыстоўваючы для гэтага навукова-папулярныя часопісы, брашуры, газетныя артыкулы, даклады. Трэба рэкамендаваць сістэматычны збор і хаванне газетных выразак па розных пытаннях навукі і тэхнікі. З гэтых выразак можна пазней скласці цікавыя альбомы па самых розных пытаннях.

**З чаго пачынаць штодзённую падрыхтоўку да ўрокаў.** Гаворачы аб калектыўнай падрыхтоўцы, мы ўжо казалі, што пачаць трэба з прагляду таго, што пройдзена па данай дысцыпліне. Тое самае адносіцца і да індывідуальнай падрыхтоўкі. Найбольш мэтазгодна гэта можна зрабіць шляхам праверкі выканання рабочага плана і старраннага прагляду дзіцячых работ. Далей трэба уважліва азнаёміцца з адпаведным раздзелам праграмы. Само сабой зразумела, што яшчэ ў пачатку года кожны настаўнік павінен вывучыць праграму ў цэлым. На аснове праграмы, рабочага плана і метадраспрацоўкі ўстанаўляецца мэта і змест урока.

Асабліва важна правільна намеціць і сфармуляваць мэту ўрока. Вельмі часта настаўнікі абмяжоўваюцца ўказаннем матэрыяла, які будзе скарыстан на ўроку, напрыклад,—„прачытаць апавяданне „Ванька Жукаў“ (Чэхава)“. Аднак тут не відаць, чаго хоча дабіцца настаўнік на ўроку. Чытанне можа мець розныя мэты: напрыклад, выпрацаваць навык беглага чытання, навучыць вывучаць галоўныя

часткі і даваць ім назвы, аналізаваць мастацкі твор з боку яго зместу і формы і г. д. Адпаведна з рэтым настаўнік і павінен аддаць сабе адчот у мэце прадстаячага ўрока.

**Папаўненне ведаў настаўніка ў сувязі з падрыхтоўкай да ўрока.** Вышэй мы ўжо адзначылі рознастайныя крыніцы, якія могуць служыць дапаможнікамі для папаўнення і асвяжэння ведаў па зместу ўрока. Спынімся на тэхніцы і арганізацыі гэтай работы. Перш за ўсё трэба паклапаціцца, каб у настольнай бібліятэцы настаўніка былі важнейшыя кні і і брашуры, у якіх ён мог бы знайсці матэрыял, пашыраючы яго ўласны кругавід па выкладаемым дысцыплінам. Тут настаўніку павінна дапамагчы школьная бібліятэка, бібліятэка пры педтэхнікуме, раённым педгабінеце і г. д. Трэба па магчымасці скарыстоўваць розныя крыніцы па аднаму і таму ж пытанню,—даведнікі, слоўнікі, энцыклапедыі і інш.

Падабраўшы патрэбны матэрыял, настаўнік бегла праглядае яго і адзначае тое, што бліжэй за ўсё падыходзіць да тэмы ўрока. Потым ён уважліва прачытвае адзначаныя месцы і ў выпадку патрэбы робіць на асобных картачках выпіскі (лічбы, даты, вывады, імёны), якія могуць быць скарыстаны на ўроках.

**Устанаўленне методыкі ўрока.** Аўладаўшы матэрыялам, настаўнік прыступае да ўстанаўлення методыкі яго прапрацоўкі ў класе. Тут прыходзіцца ўлічваць цэлы рад умоў: характар самога матэрыяла, узрост дзяцей, іх састаў, наяўнае абсталяванне і г. д.

У кожным асобным выпадку трэба азнаёміцца з ужо накопленым вопытам прапрацоўкі данага матэрыяла, як мага шырэй скарыстаць яго. Далей неабходна сярод настольных кніг мець метадычныя дапаможнікі па важнейшых дысцыплінах. Скарыстанне навейшых артыкулаў па методыцы розных дысцыплін (з журналаў, газет) можна значна аблягчыць, шляхам с стэматычнага занясення іх на картачку з кароткім указаннем зместа.

Такім чынам, узнікае пытанне аб тым, каб своечасова сачыць за ўсёй масай выходзячай метадычнай літаратуры. Настаўніца Вароніна паведамляе, што ў невялікім калектыве Валагодскай чыгуначнай школы, дзе яна працавала раней, было 5—7 журналаў, за якімі трэба было сачыць. Настаўнікі размеркавалі работу паміж сабой. Кожны сачыў толькі за адным з журналаў і ў канцы месяца інфармаваў аб тым, што ёсць цікавага ў такім-та нумары.

Пры выбары таго ці іншага метадычнага прыёма і ўстанаўлення агульнай структуры ўрока неабходна прадумаць, ці адпавядаюць яны асноўным патрабаванням совецкай педагогікі. Прымяняючы розныя новыя метады навучання, якія могуць выхаваць ініцыятыўных і дзейных удзельнікаў соцыялістычнага будаўніцтва, трэба ў той-жа час пазбягаць лёгкадумнага метадычнага пражэкцёрства.

**Падбор дапаможнікаў і дыдактычных матэрыялаў.** У адпаведнасці са зместам і методыкай урока падбіраюцца матэрыялы з падручніка, прылады для доследаў, табліцы, карты, карціны для дэманстрацыі, раздатачны матэрыял для самастойнай работы. Пры гэтым трэба ўлічыць лік вучняў і ў залежнасці ад гэтага ўстанавіць спосаб скарыстання дапаможніка (дэманстрацыя настаўніка, работа індывідуальная або ў брыгадзе). Вызначаны для скарыстання матэрыял трэба загадзя падрыхтаваць і праверыць (перарашыць задачу, прарабіць доследы, праверыць дзеянне прыбораў і інш.).

**Фіксацыя рэзультатаў падрыхтоўкі** (запіс у рабочым плане). Вышэй прыведзены розныя ўзоры запісаў з адпаведнай іх ацэнкай. З іх відаць, што у добрым запісу павінны быць прадугледжаны:

а) наяўнасць правільна сфармуляванай мэты ўрока, б) паслядоўнае разгортванне зместу і методыкі ўрока, в) прыкладная намётка часу кожнага этапа, г) указанне дапаможнікаў, д) прыкладная фармуліроўка вывада, да якога павінны прысці вучні, е) змест хатняга задання.

Запіс павінен быць па магчымасці кароткі.

Самая форма і аб'ём могуць быць розныя ў розных настаўнікаў: калі настаўнік недастаткова цвёрда ўладае фактычным матэрыялам або дрэнна яго запамінае,—гэты матэрыял павінен знайсці адлюстраванне ў запісу. Калі настаўніку цяжка запоўніць лагічную паслядоўнасць ўрока, ён галоўную ўвагу і запісы звяртае на распалажэнне матэрыяла і звязваючыя мыслі (пераходы ад аднэй часткі ўрока да другой).

Таксама аб'ём і характар запіса могуць быць розныя і ў аднаго настаўніка ў залежнасці ад таго,—мае на ўвазе ён даць новыя веды, або замацаваць пройдзенае шляхам паўтарэння і г. д.

**Падрыхтоўка класа к уроку.** Для паспяховага правядзення ўрока неабходна яшчэ адпаведным чынам падрыхтаваць абстаноўку ў класе. Трэба прыцягнуць на дапамогу дзяжурных, кожны з якіх адказвае за хаванне, раздачу і падрыхтоўку пэўнага віда матэрыяла (падручнікі, дапаможнікі і інш.) Заўсёды павінны быць загатоўлены запасныя алоўкі, ручкі, чарнільніцы, сшыткі, крэйда і г. д.

Нарэшце, належную ўвагу трэба звярнуць на фізічныя ўмовы (тэмпература, чыстата, расстаноўка мэблі, парадак ў рэчах настаўнікаў і вучняў, праветрыванне памяшкання).

**Удумлівая і старанная падрыхтоўка настаўніка да кожнага ўрока з'яўляецца абавязковай ўмовай для дасягнення высокіх паказчыкаў паспяховасці.**

**Ад рэдакцыі.**

Артыкул тт. Нусенбаума і Сноткіна „Настаўнік павінен рыхтавацца да ўрока“ грунтуецца на прыкладах і фактах з вопыта школ г. Масквы і Маскоўскай вобласці. Рэдакцыя чакае ад настаўнікаў, загадчыкаў школ і інструктароў-метадыстаў—водгукаў і заўваг па зместу артыкула, матэрыялаў, аб тым, як праводзіцца падрыхтоўка настаўніка да ўрока ў школах БССР.

*А. Кавлоў*

# Некаторыя заўвагі аб педалагічным абгрунтаванні ўрока

Наш масавы настаўнік у сваёй штодзеннай рабоце чакае ад педалогіі ўказанняў аб тым, як арганізаваць урок так, каб вучэбная дзейнасць вучняў на гэтым уроку праходзіла найбольш эфектыўна ў напрамку засваення імі асноў навук.

У агульнай форме совецкая педалогія развязвае гэтае пытанне наступным чынам: 1) вучэбная дзейнасць вучня павінна быць накіравана на ажыццяўленне яскрава вызначанай мэты урока; 2) змест матэрыялу ўрока, яго дазіроўка і метады выкладання павінны адпавядаць узросным асаблівасцям псіха-фізічнага развіцця вучня; 3) матэрыял урока і прыёмы арганізацыі яго ўспрымання павінны быць цікавы для вучня; 4) усебаковая і грунтоўная падрыхтоўка настаўніка і вучня да урока; 5) чоткае і выразнае мэтадычнае кіраўніцтва ўсім ходам урока і арганізацыя адпаведнай дысцыпліны вучняў на ўроку.

Такавы ў асноўным затрабаванні педалогіі да арганізацыі ўрока. Зараз мы больш дэтальна разбярэм некаторыя з вышэй паданых пунктаў.

Яскрава вызначаная мэта ў пачатку работы з'яўляецца асноўным арганізуючым фактарам у дзейнасці вучня. Наяўнасць яскрава асазнанай мэты ў пачатку работы дапамагае лепш усвядоміць увесь працэс работы ва ўсіх яго дэталях. Асознаная мэтанакіраванасць дапамагае вучню асвоіць змест вучэбнай дзейнасці, мабілізуе для гэтага засваення актыўную ўвагу, творчае мышленне і лагічную памяць, стымулюе энергію вучня ў напрамку дасягнення пастаўленай мэты.

Вызначэнне мэты урока на розных узросных ступенях развіцця вучня, у кожным асобным выпадку, будзе рознае, выходзячы з якасных асаблівасцей узроста. Так, напрыклад, для вучняў нулявой групы яшчэ недаступна глыбокае і дасканалае разуменне законамернасцей ўнутраных прычынных сувязей, якія ляжаць у аснове назіраемых ім з'яў. Адгэтуль навучанне на гэтай узроснай ступені мае сваёй мэтай набыццё не толькі спецыяльных ведаў, колькі аналіз асобных канкрэтных фактаў, з тым каб узбагаціць вопыт і круг прадстаўленняў дзіцяці новымі ведамі, насыціць адпаведнымі эмоцыямі яго адносіны да гэтых фактаў. Вось чаму вызначэнне мэтавай ўстаноўкі вучэбнай дзейнасці на данай узроснай ступені павінна ўскрываць тое новае, аб чым даведаецца вучань на ўроку, аднаўляючы разам з гэтым папярэдні матэрыял па данаму пытанню і гэтым самым мабілізуючы ўвагу да прадстаячых новых момантаў ў рабоце.

Прыблізна такім-жа чынам павінен быць арганізаван пачатак урока і ў першай групе, дзе магчымасці да лагічных абагульненняў павялічваюцца нязначна. Але ў паводзінах вучня 1 групы-васьмігодкі мы маем і некаторыя новыя моманты.

Дзіця-сямігодка, як і наогул дашкольнік, у значнай ступені захоўвае нахіл да гульняў. З гэтай прычыны яго цікавяць не толькі вынікі дзейнасці, але ў значнай ступені і самы працэс гэтай дзейнасці.

У паводзінах васьмігодкі, гульня пачынае займаць меншае месца, у сувязі з чым на першы план высоўваецца рэзультацыйны бок дзейнасці. Выходзячы з гэтага, пры пастаноўцы мэты ў пачатку ўрока перад першагрупнікам, мы павінны яскрава акрэсліць змест рэзультацыйнасці дадзенага ўрока.

Вучань старэйшых груп 1-га канцэнтра мае ўжо новыя, якасна больш высокія элементы ў развіцці свайго мышлення (мышленне яго ўжо з'яўляецца абагульняючым, хаця пакуль што яшчэ толькі ў межах больш канкрэтных уяўленняў). Факты, якія ўспрымае вучань данага ўзроста, маюць для яго ўжо тое ці іншае прычыннае тлумачэнне, дзякуючы чаму і ўспрымаюцца ім у пэўнай сістэме. Адсюль мэта і матэрыял урока ў гэтых групах павінны мець больш шырокія сувязі з папярэднім і паследуючым.

Яшчэ больш высокія патрабаванні прад'яўляюцца да вызначэння мэты ўрока ў II канцэнтры. Для таго каб вучні маглі зацікавіцца і асвоіць мэту вучэбнай работы, перад імі павінна быць разгорнута ўнутраная лагічная сутнасць вывучаемага матэрыяла, месца яго ў агульным праграмным матэрыяле, яго ўдзельная вага ў вучэбнай дзейнасці вучня, сувязь з матэрыялам іншых вучэбных дысцыплін і інш.

Далейшы працяг урока павінен будавацца ў строгай суадпаведнасці з пастаўленай мэтай. Адхіленні ад асноўнай тэмы ўрока адцягваюць увагу вучня ад устаноўкі атрыманай у пачатку ўрока, у выніку чаго мэтанакіраванасць дзіцячай дзейнасці можа аказацца парушанай.

Выходзячы з вышэй пададзенага аб узросных запатрабаваннях да пастаноўкі мэты ў вучэбнай дзейнасці вучня, мы бачым, што настаўнік не толькі можа, але і павінен знаёміць вучня са зместам праграм, хаця самы мэтад азнаямлення ў розных групах будзе розны. Так, напрыклад, калі ў першай групе гэтае азнаямленне будзе ў асноўным праводзіцца ў межах рабочага дня, шасцідзёнкі, разгортваючы разумеецца схэматычна, у даступных формах перспектывы і гадавой работы, то ўжо ў 7-ай групе гэтае азнаямленне з праграмай можа праводзіцца больш дэталева ў межах паўгоддзя і ўсяго вучэбнага года.

Другім асноўным педалагічным патрабаваннем з'яўляецца падбор і арганізацыя вучэбнага матэрыяла ўрока так, каб ён адпавядаў узросным магчымасцям вучня. Пры рэалізацыі данага патрабавання настаўнік можа дапусціць дваякага рода памылкі. З аднаго боку можа мець месца, так званы „ўзросны хвасцізм“, калі пры арганізацыі работы не ўлічваюцца і не выкарыстоўваюцца поўнасцю ўзросныя магчымасці вучня, якому прыпадносяць занадта лёгкі матэрыял. Лёгкая работа, якая стаіць ніжэй узросных запатрабаванняў, шкодна адбіваецца на далейшым развіцці вучня. Так, напрыклад, калі вучня 6, 7 класа, маючага ўжо ўсе ўзросныя даныя для работы абстрактнага мышлення, настойліва трымаць на наглядным прадметным матэрыяле,—у яго будзе культывавацца аднабаковае, прадметна-вобразнае (параўнаўча элементарнае) мышленне, за кошт развіцця больш высокіх форм абстрактнага мышлення. Разам з гэтым, вучань на лёгкім матэрыяле не атрымлівае поўнай нагрузкі для сваіх творчых магчымасцей, застаецца безудзельным да выконваемай работы і траціць цікавасць да яе.

З другога боку можа мець месца і такая арганізацыя работы, пры якой зусім ігнаруюцца межы ўзросных магчымасцей і падаецца занадта цяжкі матэрыял. І ў тым і ў другім выпадку вучэбная работа прыводзіць да адмоўных вынікаў.

Калі вучань атрымлівае занадта цяжкія заданні, яго мысліцельныя працэсы набываюць больш павярхоўны, прымітыўны характар, становяцца менш даследчымі, з прычыны немагчымасці больш глыбокага аналіза сутнасці зместу, мова яго робіцца больш беднай. Такім чынам работа, якая перавышае ўзросныя мажлівасці вучня, затрымлівае яго разумовае развіццё.

Акрамя гэтага, непасільная работа прыводзіць вучня да асазнання сваёй нездольнасці перамагчы цяжкасці, а гэта ў сваю чаргу вядзе да страты зацікаўленасці ў рабоце. Але гэта зусім не значыць, што вучню трэба падаваць толькі элементарны матэрыял. Наяўнасць пасільных да вучня цяжкасцей арганізоўвае і выхоўвае волю і настойлівасць вучня, актывізуе яго да далейшай барацьбы за поўнае аўладанне матэрыялам.

Настаўніку трэба арганізаваць падачу матэрыяла так, каб забяспечыць разумовы рост вучня і яго прасоўванне ўперад.

Успрыйманне новага матэрыяла перш за ўсё павінна разгортвацца на падставе папярэдняга вопыта вучня. Выходзячы з гэтага настаўнік пры выдачы новага матэрыяла павінен з вучнямі прыпомніць ужо вядомае раней ім па данаму пытанню.

Характар гэтага прыпамінання будзе таксама розны на розных узросных ступенях развіцця вучня. Так, напрыклад, вопыт вучня першай групы, у двух напрамках адрозніваецца ад вопыта вучня старэйшых груп; па 1-е, вопыт першагрупніка больш бедны па свайму зместу; па 2-е (і гэта асноўнае), вопыт вучня, які ўпершыню паступае ў школу, мае не вучэбнае, а ў значнай ступені, бытавое паходжанне. Крыніцай гэтага вопыту з'яўляецца ўсё тое, што дзіця ўспрыймае ад навакольнага асяроддзя, а таксама і яго ўласныя выпадковыя і неарганізаваныя назіранні над прадметамі і з'явамі.

У старэйшых групах першай ступенні вопыт дзяцей носіць ужо некалькі іншы характар. Гэты вопыт ужо значна павялічыўся ў аб'ёме і якасна змяніўся. Галоўнай крыніцай яго абагачэння з'яўляюцца зараз ужо вучэбныя заняткі, якія не толькі садзейнічаюць сістэматычнаму (а не выпадковаму) засваенню ведаў, але і забяспечваюць атрыманне пэўных навукова-праверанных ведаў.

Арганізуючы матэрыял урока ў тых ці іншых групах, трэба ўлічваць і развіццё ўзросных асаблівасцей мышлення дзіцяці данага ўзроста. Так, напрыклад, улічваючы канкрэтнасць і вобразнасць мышлення вучня нулявой групы, настаўнік павінен вучэбны матэрыял па грамадазнаўству, прыродазнаўству, мове і арыфметыцы арганізоўваць у канкрэтных вобразных формах, пры шырокім выкарыстанні адпаведных дыдактычных прыёмаў і ілюстрацыйных дапаможнікаў выкарыстоўваючы матэрыял мясцовы, найбольш блізкі ўяўленню вучня. Апроч гэтага, пры арганізацыі вучэбнага матэрыяла трэба ўлічваць павышаную маторыку і эмацыянальнасць вучня нулявой групы, адсюль неабходнасць насычэння вучэбнай дзейнасці вучня гэтай групы рухавымі і эмацыянальнымі элементамі. У асаблівасці вучэбным заняткам павінны дапамагаць рознага рода гульні, зразумела, не парушаючы асноўнай мэтанакіраванасці ўрока.

Мышленне 8-мігодкі таксама яшчэ канкрэтнае і з гэтай прычыны ён не можа разгорнута аперааваць матэрыялам абстрактных пытанняў.

Вучань альбо не зразумее гэтых паняццяў альбо свае канкрэтныя вобразы няправільна ўкладзе ў абстрактныя формы. Але разам з гэтым 8-мігодка пачынае ўжо разбірацца ў суадносінах паміж назіраемымі прадметамі і з'явамі, таму перад ім трэба больш яскрава выявіць прычынную залежнасць паміж з'явамі.

Вучні старэйшых груп могуць ужо сапастаўляць паміж сабой вывучаемыя з'явы і даследчым шляхам абагачаючы свае назіранні, даваць вывады. Матэрыял для іх трэба арганізоўваць так, каб ён даваў прастор для патрэбных абагульненняў і вывадаў. Для палепшання мысліцельнай дзейнасці і тут вельмі важна, каб вывучаемы прадмет альбо з'ява праходзілі ў сазнанні вучня праз нагладанне і канкрэтнае уяўленне аб іх.

Вучань II канцэнтра ўжо можа аўладаць больш складаным матэрыялам, карыстаючыся сваёй здольнасцю да абстрактных форм мышлення. І гэты вучэбны матэрыял павінен быць арганізован так, каб ён стымуляваў да развіцця абстрактных форм мышлення, падводзячы, разумеецца, да гэтых форм, праз адпаведныя канкрэтныя і вобразныя уяўленні.

Арганізоўваючы матэрыял урока і выходзячы з узросных асаблівасцей развіцця мышлення вучня, настаўнік павінен мець на ўвазе, што адным з важных момантаў актывізацыі мысліцельных працэсаў вучня і лепшага ўспрыймання матэрыялу, з'яўляецца сувязь зместу гэтага матэрыялу з сучаснасцю, з канкрэтнымі малюнкамі барацьбы рабочага класа і калгаснага сялянства за соцыялістычнае будаўніцтва, паказ гераічных перамог на фронце гаспадарчага і нацыянальна-культурнага будаўніцтва, малюнкі развіцця навукі і тэхнікі ў СССР. Трэба вывучаць сучасную рэволюцыйную барацьбу рабочага класа ў капіталістычных краінах, развіццё эканамічнага крызіса, барацьбу двух сістэм—соцыялістычнай і капіталістычнай, пры чым падаць гэты матэрыял у такім выглядзе, каб выклікаць эмацыянальнае захапленне соц. будаўніцтвам, творчы энтузіязм, і з другога боку, выхаваць ненавісць і гатоўнасць да рашучай барацьбы з класавым ворагам.

Усё вышэй сказанае ў напрамку сувязі зместу ўспрыймаемага матэрыялу з сучаснасцю, павінна падавацца вучню не толькі ў непасрэдным вучэбным матэрыяле ўрока, але і праз грамадска-карысную працу, якую праводзіць школа.

Пастанова ЦК аб школе абавязвае падпарадкаваць гэтую грамадска-карысную працу вучня вучэбна-выхаваўчым задачам школы і праводзіць яе так, каб яна садзейнічала росту разумовага развіцця вучня, актывізавала яго вучэбную дзейнасць і садзейнічала выхаванню комуністычнага светапогляду.

У сувязі з арганізацыяй вучэбнага матэрыяла з пункту гледжання ўзросных асаблівасцей, павінна быць разгледжана і пытанне аб прыёмах, якімі карыстаецца настаўнік для падачы вучэбнага матэрыялу вучням.

Пастанова ЦК аб школе ад 25/VIII 1932 г. наступным чынам гаворыць аб гэтым: „Выкладчык абавязан сістэматычна і паслядоўна излагаць выкладаемую дысцыпліну, усямерна прывучаючы дзяцей да работы над падручнікам і кнігай, да рознага рода самастойных пісьмовых работ, да работы ў габінеце, у лабараторыі, вучэбнай майстэрні і шырока ўжываючы побач з гэтымі асноўнымі мэтадамі рознага роду дэманстрацыі вопыту і прыбораў экскурсіі (на завод, у музей, у поле, у лес і г. д.). Пры гэтым выкладчык павінен усямерна дапамагаць дзецям пры затрудненнях у іх вучэбных занятках. Трэба сістэматычна прывучаць дзяцей да самастойнай работы, шырока практыкуючы розныя заданні ў меру аўладання вызначаным курсам ведаў (развязанне задач і практыкаванняў, згатаўленне мадэлей, работа ў лабараторыях, збіранне гербарыяў, выкарыстоўванне прышкольных участкаў у вучэбных мэтах і г. д)".

Тыя шляхі арганізацыі ўспрыймання вучэбнага матэрыялу, якія вызначаны ў пастанове ЦК аб школе, павінны ўжывацца, выходзячы з асаблівасцей псіха-фізічнага развіцця таго ці іншага ўзросту. Так, напрыклад, ва ўзросце да 10—11 год вучань умее прычынна звязваць розныя з'явы, але ён яшчэ можа адпаведным чынам абагульняць гэтыя прычынныя сувязі.

У гэтым узросце ў яго пераважае работа зрокавых аналізатараў, нават сваю мову ён пераводзіць на зрокавыя вобразы. Выходзячы з гэтага, роля вобразнага, нагляднага навучання на матэрыяле, насычаным эмацыянальнымі момантамі, асабліва каштоўна на дадзенай узроснай ступені. Просты, вобразны расказ невялікая, але эмацыянальная і жывая гутарка з ужываннем ілюстрацыйнага матэрыялу, мадэліраванне, розныя віды дзіцячай працы, драматызацыя, экскурсія з мэтай жывой ілюстрацыі вывучаемага прадмету і з'явы,—вось што павінна пераважаць сярод прыёмаў арганізацыі ўспрыймання вучэбнага матэрыялу вучняў малодшых груп 1-га канцэнтру. У вучня-падлетка ўжо ёсць наяўнасць абстрактных форм мышлення, магчымасць рабіць шырокія прычынныя абагульненні. Вышэй вызначаныя прыемы ў больш складанай форме могуць ужывацца і ў старэйшых групах, але ў гэтых групах мае вялікае значэнне і даследчая, самастойная работа вучня ў лабараторыі, на экскурсіі, у габінеце, на прышкольным участку, у майстэрні і г. д.

У школьным навучанні магутным стымулам да разумовай дзейнасці вучня з'яўляецца інтарэс. Гэта можна заўважыць ужо шляхам простага назірання за паводзінамі вучня на цікавых і не цікавых уроках. Інтарэс,—ёсць сродак прыцягнення актыўнай увагі вучня да работы, які мабілізуе больш інтэнсіўную работу сазнання, а ўсё гэта садзейнічала падняццю эфектыўнасці работы вучня.

Выкарыстанне зацікаўленасці вучня ў мэтах падвышэння эфектыўнасці зусім не азначае толькі простага палягчэння ў рабоце. Цяжкасці могуць быць таксама цікавымі, прычым гэтыя цяжкасці і пры наяўнасці інтарэсаў вучняў патрабуюць адпаведнай напружанасці энергіі вучня. Але інтарэс робіць гэтую напружанасць менш інтэнсіўнай. Пад уплывам інтарэса вучань зможа працаваць доўга і ўпарта, перамагаючы цяжкасці, а дзякуючы гэтаму і засваенне матэрыяла робіць больш грунтоўным і моцным.

З пункту гледжання ўзбуджэння ў вучняў інтарэсу да вучэбнай дзейнасці на ўроку, мы можам вызначыць некаторыя моманты, наяўнасць якіх дапамагае выклікаць зацікаўленасць вучня, і моманты, якія прытупляюць яе. Для арганізацыі цікавага ўрока патрэбны:

а) яскрава вызначаная мэта ў пачатку работы і планавасць урока;

б) наяўнасць цеснай сувязі паміж настаўнікамі і вучнямі (уцягненне ў работу ўсіх вучняў, уважлівыя і чулыя адносіны да іх);

в) правядзенне простых доследаў самімі вучнямі;

г) правільнае кіраўніцтва з боку настаўніка ўсім ходам урока; канцэнтрацыя ўвагі вучняў вакол асноўнай тэмы заняткаў;

д) сувязь зместу матэрыялу ўрока з сучаснасцю, выяўленне дасягненняў гераічнай барацьбы рабочага класа СССР за соц. будаўніцтва, барацьбы рабочага класа за мяжой супроць капіталізма;

е) шырокае скарыстанне ілюстрацыйнага матэрыялу ў сістэме жывога і эмоцыянальнага расказа і гутаркі (малюнкі, плакаты, схемы, табліцы, фото, кіно, мадэляванне) і розныя віды дзіцячай працы;

ж) актыўнае дзеянне саміх вучняў (труд, драматызацыя і г. д.);

з) ужыванне рознастайных метадаў, частая змена відаў работы (па магчымасці поўнае ўцягненне ў работу розных успрымальных органаў);

і) прыцягненне новага матэрыяла і ўключэнне яго ў сістэму папярэдніх ведаў вучняў па данаму пытанню.

Прытупленне інтарэсаў вучняў на ўроку выклікаецца наступнымі момантамі:

а) вельмі лёгкія заданні, якія не выклікаюць паглыблення творчых мысліцельных працэсаў;

б) аднастайныя прыёмы выкладання настаўніка;

в) адсутнасць яскрава вызначанай мэты і плана правядзення ўрока;

г) не цікавасць самога месца матэрыяла ўрока;

д) пры арганізацыі ўспрыймання матэрыялу апеліраванне доўгі час да аднаго і таго-ж успрыймаючага органа арганізма;

е) няўдалыя і не прадуманыя фармуліроўкі настаўніка, якія прыводзяць да „самапаправак" і вынікаючыя з непадрыхтаванасці настаўніка да ўрока;

ж) разгаворы з адным вучнем пры бяздзейнасці ўсяго класа;

з) адхіленне як настаўніка, так і вучня ад мэты ўрока іншымі староннімі раздражальнікамі.

У заключэнне мы павінны адзначыць, што арганізацыя ўрока ў сваім змесце павінна здавальняць наступным запатрабаванням:

1) Урок павінен быць палітычна вытрыманым: матэрыял урока павінен садзейнічаць фармаванню і развіццю комуністычнага светапогляду вучня; 2) матэрыял урока павінен грунтавацца на даных марксісцка-ленінскай метадалогіі, быць навукова добраякасным; 3) урок павінен быць педагагічна вытрыманым (задавальняць дыдактычным запатрабаванням, якія ў кожным асобым выпадку выплываюць з асаблівасцей зместу таго ці іншага прадмету); 4) урок павінен задавальняць асноўным педалагічным запатрабаванням (змест матэрыялу ўрока, арганізацыя гэтага матэрыялу і мэтады выкладання павінны адпавядаць якасным асаблівасцям узроснага развіцця вучня); 5) матэрыял урока ў сваім змесце павінен быць мэтанакіраваным, цікавым і эмацыянальна насычаным.

*М. Кунда*

## Аб арганізацыі прышкольнага зямельнага ўчастка

Прышкольны зямельны ўчастак павінен з'явіцца першай ступенню для аўладаня вучняў асноўнымі ведамі па агротэхніцы соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

У адпаведнасці з дырэктывамі ЦК ВКП(б) (пастанова аб школе ад 25/VIII-32 года.), праграмы па сельскай гаспадарцы і прыродазнаўству прадугледжваюць летнія работы дзяцей. Асабліва багатым па зместу вучэбнай работы па сельскай гаспадарцы ў школе з'яўляецца веснавы перыяд. Веснавыя работы на прышкольным участку павінны пакласці пачатак для прыцягнення вучняў да вопытных і грамадскакарысных работ па сельскай гаспадарцы на працягу ўсяго лета, бо вынікі сельскагаспадарчых прац падлягаюць канчатковаму ўліку ўжо ўвосень, у пачатку новага вучэбнага года.

Гэта акалічнасць вымагае адпаведнага прыстасавання заданняў на вопытных участках, дзялянках і інш. да мажлівасцей вучняў у залежнасці ад узросных груп, занятасці падросткаў у калгасе і г. д. Самае галоўнае для поспеху работы,—гэта стварыць зацікаўленасць і адказнасць з боку вучняў за пачатую ўвесну работу, шляхам чоткага вызначэння заданняў і забеспячэння педагагічнага кіраўніцтва ў летніх занятках вучняў на прышкольным ўчастку. Для гэтага патрэбна арганізаваць прышкольны ўчастак так, каб кожны вучань меў пэўнае, замацаванае за ім, вучэбнае месца для выканання вучэбных заданняў і правядзення самастойных вопытаў, за якія ён адчуваў-бы адказнасць да канца работы. Работа на прышкольным участку цесна звязана з вывучэннем соцыялістычнай с/гаспадарчай вытворчасці (калгас, соўгас і МТС). Удзел вучняў у веснавой сяўбе і іншых сельскагаспадарчых работах павінен быць падпарадкаван вучэбна-выхаваўчым мэтам школы.

Першае прызначэнне прышкольных участкаў,—гэта служыць базай для правядзення сельскагаспадарчых работ у вучэбна-выхаваўчых мэтах,—для азнаямлення з асновамі с.-г. вытворчага працэса, развіцця навыкаў калектыўнай работы і комуністычных адносін да працы, развіцця творчых здольнасцей вучняў і культуры працы. Для гэтага патрэбен не проста гарод, сад ці поле пры школе для правядзення с.-г. працы дзяцей. Неабходна такая арганізацыя зямельнага ўчастка, каб ён прадстаўляў сабой цікавую і гігіенічную лабараторыю на свежым паветры для дзіцячых доследаў, назіранняў і работ па с/гаспадарцы, біалогіі і іншых школьных дысцыплінах, а таксама служыў месцам для фізкультурнай і аздараўленчай работы.

Другая задача,—гаспадарчае вядзенне, рацыянальнае скарыстанне прышкольных участкаў.

Нельга чакаць ні педагагічнай, ні гаспадарчай карысці ад **запушчанага** зямельнага ўчастка. Неабходна праводзіць цэлы рад агракультурных мерапрыемстваў на прышкольным участку для таго, каб падтрымліваць яго ў стане, падыходзячым для вучэбных работ вучняў. Тады прышкольны ўчастак будзе даваць падвойную карысць: а) ён становіцца прыгодным для вучэбна-выхаваўчых мэт, культурна паказальным у павышэнні ўраджайнасці і правядзенні агракультурных мерапрыемстваў; б) дае пэўную карысць школе прадуктамі ўраджая. Трэба аднак ясна ўстанавіць розніцу паміж гаспадарчай і вучэбнай работай на прышкольным участку, бо змешванне гэтых рэчаў прыводзіць на практыцы да простага прымянення ручной працы вучняў у школьнай гаспадарцы, да таго, што вучэбныя работы выконваюцца толькі побач з чарговымі гаспадарчымі работамі. Для работы вучняў на прышкольным участку неабходна ў першую чаргу вызначыць і арганізаваць аб'екты і рабочыя месцы, якія патрабуюцца вучэбнымі праграмамі, каштоўныя па свайму вучэбнаму зместу і пасільны для вучняў. Асноўныя гаспадарчыя работы павінны быць выкананы з дапамогай калгаса, соўгаса, камсода і гаспадарчымі сродкамі самой школы ў мэтах лепшага скарыстання прышкольнага ўчастка ў вучэбных мэтах.

Для прышкольных участкаў звычайна адводзіцца 2—6 *га* прыгоднай для сельскагаспадарчага скарыстання зямлі. Участкі такіх памераў (2 *га* для пачатковых школ і 5—6 *га* для ШКМ) не могуць быць цяпер-жа цалкам ператвораны ў вучэбна-даследчыя. Дзеля гэтага мэтазгодна выдзеліць з агульнай плошчы зямлі вучэбна-вопытны участак (на школьнай сядзібе), а рэшту зямлі адвесці пад гародны, ці палявы гаспадарчы ўчастак. Такі падзел на вучэбна-вопытны і гаспадарчы участак ва многіх адносінах носіць умоўны характар, бо і на гаспадарчых участках (палявым, гародным, лугавым і г. д.) школа можа і павінна праводзіць рад вучэбна-вопытных работ. Аднак устройства, догляд гаспадарчых участкаў і прымяненне на іх працы вучняў вельмі адрознівае іх ад вучэбна-вопытных участкаў, спецыяльна прыстасаваных да вучэбнай работы дзяцей (дзялянкі індывідуальныя і групавыя маленькіх памераў для вопытаў, жывых калекцый і г. д.).

Для арганізацыі вучэбна-вопытных участкаў найбольш падыходзячым з'яўляецца сядзібны ўчастак ад 0,5 да 1 *га*. Гэты ўчастак можа быць прыстасаван і абсталяван для ўчэбных патрэб розных школьных дысцыплін (працоўнага навучання, фізкультуры, фізікі, геаграфіі, матэматыкі і інш.) і такім чынам ператваран у важны дапаможны сродак вучэбна-выхаваўчай работы. Вось чаму пры планаванні сядзібнага ўчастка трэба: а) правільна размясціць яго часткі ў адносінах вучэбных, гаспадарчых і санітарных памяшканняў школы, б) выдзеліць пляцоўкі для заняткаў па працоўнаму навучанню, сельскай гаспадарцы, біалогіі, фізічнаму выхаванню і інш., в) забяспечыць культурны выгляд школьнай сядзібы і нармальную працу вучняў па паасобных пляцоўках пры дапамозе правільнага ўстройства ахоўных і дэкарацыйных пасадак, дарожак, праездаў і інш.

На школьнай сядзібе ў першую чаргу можна рабіць наступныя вучасткі: 1) агра-і біадзялянкі; 2) парнічок, 3) вопытны сад і гадавальнік; 4) пляцоўку для фізкультуры і гульняў.

Астатак школьнай зямлі можа быць скарыстан як гарод, поле і г. д. у залежнасці ад мясцовых умоў пры абавязковым упарадкаванні гэтых участкаў (севазварот, гаспадарчы план і інш.). Пры ўстройстве агра- і біадзялянак патрэбна выходзіць з наступных умоў работы вучняў на іх. Для правядзення вопытаў на аснове праграм па сельскай гас-

падарцы і біалогіі і звязанага з гэтым абслугоўванне самімі вучнямі вопытных дзялянак, можна лічыць дастатковай нормаю ў сярэднім 5—6 *кв. м* плошчы на аднаго вучня, ад 150 до 250 *кв. м* на школьную групу. Пры гэтым для адной работы (вопыта) адводзіцца на аднаго вучня 1 *кв. м* плошчы на градках, альбо на асобных дзялянках. Для малодшых груп (I-IV) можна выдзеліць участкі па 150—200 *кв. м* на групу і правесці на кожным участку 3—5 вопытных работы, замацаваўшы за кожным вучнем адпаведнае месца у кожным вопыце (плошчу, лік раслін). Апрача таго, вучні III—IV г. навучання могуць разбіць і даглядаць участак каля 150 *кв. м* палявога севазварота для нагляднага прадстаўлення аб схеме чаргавання раслін у палях севазварота.



Мал. 1. Схема вопытных участкаў груп I канцэнтра.

Для старэйшых груп патрэбна выдзяленне вопытных агродзялянак і біадзялянак для прапрацоўкі праграм па двух дысцыплінах—па сельскай гаспадарцы і па прыродазнаўстве. У кожнай групе агродзялянкі на вопытным участку, які выдзелен для групы, разбіваюцца ў залежнасці ад умоў правядзення вопыта: а) на індывідуальныя дзялянкі па ліку вучняў у групе; б) на звенныя—для калектыўнай работы 3—4 вучняў, в) на агульныя для ўсей групы вопытныя дзялянкі. На групавым агравучастку памерамі каля 200 *кв. м* можна паставіць 4—5 вопытных работ; на аднаго вучня пры гэтым прыпадае не больш 4—5 *кв. м* плошчы. Ва ўсіх работах пры такой арганізацыі група займаецца па форме агульнага для ўсіх урока па с.-г. працы, пры чым за кожным вучнем забяспечваецца вучэбнае месца і даследчы аб'ект на ўвесь час правядзення вопыта. Схема разбіўкі аграўчастка групы паводле апісанага будзе напр. наступная (на 40 вучняў, агульная плошча—150—200 *кв. м*).—Малюнак I.

Біадзялянкі прызначаюцца для вырошчвання раслінных калекцый і для вопытаў па біалогіі раслін пры праходжанні прыродазнаўства. Біаўчастак для калекцыі можа мець памеры ад 100 да 400 *кв. м*, у залежнасці ад колькасці прадстаўленых на ім вучэбна-дэманстрацыйных матэрыялаў. Тэмамі для калекцыйнага біаўчастка прыкладна могуць быць наступныя:

1) Дарвінаўская дзялянка.
2) Аднародныя і змешаныя пасевы траў.
3) Расліны з рознымі ахоўнымі прыстасаваннямі, засухаўстойлівыя і інш.
4) Расліны з рознымі спосабамі размнажэння.
5) Расліны з рознымі спосабамі апылкавання, распаўсюджання насення.
6) Расліны азотазбіральнікі, насякомаядныя, паразіты і інш.
7) Калекцыя лугавых і пасеўных траў.
8) Зменлівасць у раслін (сарты, афарбоўка кветак, форма лісця і г. д.).

Пералічанымі тэмамі, вядома, не вычэрпваецца біялагічны матэрыял, які можна наглядна прапрацаваць на аснове праграм па прыродазнаўству ў масавай школе. Для правядзення вопытаў па біялогіі раслін (напр., па штучнаму апылкаванню, прышчэпкам, хваробам і інш.) можна ўстроіць невялікія групавыя ўчасткі па тыпу аградзялянак.

На прыкладзе невялікага сада на школьнай сядзібе, спецыяльна прыстасаванага для вучэбных мэт, можна добра пасгавіць прапрацоўку біялагічных і агранамічных пачатковых ведаў, для чаго патрэбна, каб у садзе былі прадстаўлены расліны (дрэвы, кусты) у розныя перыяды іх росту—ад сеянцаў да пладаносных раслін. Гэтага можна дасягнуць устройствам у садзе наступных участкаў: а) участак пладовых дрэў, б) ягадных кустоў, в) пітомнік дрэў і кустоў.




Мал. 2. Схема вопытнага аграўчастка групы II канцэнтра.

Для таго, каб забяспечыць кожнаму вучню групы вучэбнае месца для правядзення работы па дагляду за дрэвамі, у садзе патрэбна не больш 35—40 дрэў.

Пры ўстройстве ягадніка і пітомнічка таксама трэба пакласці ў аснову арганізацыю вучэбных месц для цэлай групы ў мэтах правядзення працоўных працэсаў па форме ўрока. Даволі значная плошча сада (каля 4000 *кв. м* на 40 дрэў) павінна апрацоўвацца машынамі, засявацца гароднінай, раслінамі на ўгнаенне, якія будуць толькі перашкаджаць культурнай апрацоўцы глебы машынамі. Пад ягаднік трэба адвесці асобную плошчу 200—500 *кв. м*, пры пасадцы намеціць парадак аднаўлення ягадных кустоў, напр. разбіўкай участка на малады, сярэдні і стары ягаднік, каб паказаць вучням увесь працэс догляду. У пітомнічку трэба паказаць працэс вырошчвання дрэўца і куста з семя і чаранка, а побач з гэтым выгадаваць пасадачны матэрыял для сада, жывой агарожы, дэкарацыйных пасадак. Каб наглядна прадставіць увесь працэс вырошчвання да пасадкі на сталае месца, пітомнічак патрэбна ўстроіць у выглядзе пяці—шасціпольнага ўчастка, напр. па схеме на мал. 3 (памеры кожнага „поля" 25 *кв. м.*).

З такога пітомнічка (агульная плошча 150 *кв. м*) можна атрымліваць штогод каля 50 дрэўцаў і столькі-ж кустоў.

Побач з пітомнічкам багаты вучэбны матэрыял дае парнічок, бо на парніковых работах вучні знаёмяцца з самымі інтэнсіўнымі спосабамі вырошчвання раслін у штучна складзеных умовах. Прымяненне метада расады для развядзення розных гародных і кветкавых рас-

лн вельмі ажыўляе работу на вопытных участках і гародзе ў веснавы перыяд, бо дае пасадачны матэрыял. Апроч парнічка, вучні малодшых груп могуць праводзіць работу на расадных градках групавых участкаў.

Парнічок можа быць пабудаваны вельмі проста ў выглядзе скрынкі без дна, якая пакрываецца рамамі. У пачатку красавіка такі парнічок можа быць скарыстан пры адным сонечным награванні для вырошчвання раслін гародніны. Больш патрабуецца затрат на парнічок з падагрэвам знізу ад пласта свежага конскага гною, паложанага проста на роўную паверхню глебы, альбо ў выкапаную яму паводле памеру скрынкі. Для награвання парнічка можа ісці і хатняе смецце, якое можа даць сталую і высокую тэмпературу пры належным разагрэве. Зямля для набіўкі парнічка можа быць падрыхтавана ў кампостных кучах. Рамы могуць быць лёгка зроблены ў школьнай майстэрні, пры чым памеры іх трэба прыстасаваць да узросту вучняў. Пачынаючы з прасцейшага ўстройства парніковых і расадных градак, трэба імкнуцца пабудаваць добра абсталяваны школьны парнічок на некалькі рам.




Мал. 3. Схема пітомнічка.

Жывая агарожа, ахоўныя і дэкарацыйныя пасадкі на школьным участку маюць вельмі важнае культурна-выхаваўчае і гаспадарчае значэнне. Выбар раслін для гэтых пасадак можа быць цікавы з розных бакоў: расліны—меданосы, прыдатныя для гнездавання птушак, для жывой агарожы, для вучэбных мэт (тутавае дрэва для выкармкі шоўкапрада), дрэвы з пладамі для зімуючых птушак (рабіна) і г. д.

Кожная сельская школа павінна мець на сядзібным участку ўпарадкаваную і хаця-б мінімальна абсталяваную для дзіцячых гульняў і фізкультуры пляцоўку з разліку 6—10 *кв. м* на вучня (не менш 1000 *кв. м* у пачатковай школе). Гэта павінна быць роўная, прадаўгаватай формы пляцоўка, абсаджаная дрэвамі і кустамі ад вятроў і заносаў. Яна не павінна прымыкаць непасрэдна да сцен школы, да дарогі і быць дастаткова адмежаванай ад вопытных участачкаў, культурных пасадак.

Выхад на пляцоўку са школы патрэбна мець удобны, кароткі. Належная планіроўка ўчасткаў, дарожак і праездаў па школьнай сядзібе павінна не толькі забяспечыць ахову пасеваў і пасадак ад затаптвання, але і надаць школе адпаведны культурны выгляд.

Гаспадарчы ўчастак школы часцей за усё складаецца з гарода альбо невялікага поля. Галоўнымі чарговымі задачамі гароднай і палявой школьнай гаспадаркі з'яўляюцца ўстанаўленне севазваротаў, прымяненне палепшанай апрацоўкі глебы і ўгнаення, правільны догляд за пасевамі, увядзенне новых культур. Нельга думаць, што ўсе гаспадарчыя работы на школьным гародзе і полі могуць быць выкананы вучнямі ў парадку вучэбнай і грамадска карыснай працы. Вядзенне гаспадаркі павінна апірацца на дапамогу калгаса, соўгаса, МТС і на працоўны ўдзел калектыва школьных работнікаў. Неабходна ўмацоўваць у ШКМ таксама гаспадарчы штат і вытворчыя сродкі.

Пры ўстанаўленні севазварота па палявым і гародным участках патрэбна выходзіць з вучэбна-выхаваўчых задач, патрэбнасці ў прадуктах для гарачых снеданняў і кармах для школьнай жывёлагадоўлі з агульнага напрамку сельскай гаспадаркі раёна, не капіруючы механічна севазвароты свайго калгаса, соўгаса.

Важным педагагічным пытаннем з'яўляецца скарыстанне палявога ўчастка школы для пастаноўкі вопытаў па паляводству. Тэмамі для вучэбных вопытаў могуць быць наступныя: а) розныя спосабы апрацоўкі глебы, б) розныя спосабы пасеву палявых культур, в) розныя спосабы скарыстання папарнага кліна, г) вопыты з угнаеннем, д) сорта-спрабаванне, е) увядзенне новых палявых культур (тапінамбур, белая гарчыца, доннік і інш.). Для таго, каб вопыты, апрача вучэбнага характару, мелі масавае значэнне па агропрапагандзе, патрэбна тэматыку вопытаў абмеркаваць з аграномамі РайЗА, МТС, соўгасаў. Аднак самае важнае— гэта прыцягнуць вучняў да нагляданняў за закладзеным вопытам і да самага дакладнага ўліку вынікаў.




Мал. 4.
Схема сядзібн. участка пач. школы.

Асаблівую ўвагу патрэбна звярнуць на практычны паказ на палявым участку асноўных агратэхнічных прыёмаў (апрацоўка глебы, пасеў і інш.) у мэтах лепшага засваення с.-г. ведаў і ўразумення вучнямі тэхнічных патрабаванняў у вытворчым працэсе соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Бягучая веснавая с.-г. кампанія павінна быць праведзена на прышкольных участках так, каб разам з арганізацыйна-гаспадарчым умацаваннем іх стварыць на іх вучэбна-выхаваўчую базу палітэхнічнай школы, як цэнтральную задачу прышкольных зямельных участкаў.

## Літаратура для настаўніка:

1. О подготовке пришкольных земельных участков к весеннему севу 1934 г. НКА РСФСР, 1934 г.
2. Методич. письма о пришк. зем. участках НКА РСФСР 1933 года.
3. „Детский с-х труд“ (ред Исаева и Карманова) Гиз 1930 г.
4. Егалин „Работа детей на огороде“ Сх. Гиз 1930 г.
5. Эдельштэйн. „Плодоводство и огородничество“ (сбор. „В помощь агрономизации школы“ № 2, Рабпрос 1930 г.).
6. Балдин. „Ягодный сад“ ДВБ.
7. Ушаков. „Значение опыта в с.-х., его постановка и проведение“ (Жур Естествозн. в труд. школе № 2—1930 г.).
8. Шибанов. „Опытная работа на пришкольном участке“ (сбор. „В помощь агрономии школы“ № 3, Рабпр. 1930 г.).
9. Копылова. „Живые изгороди“ (Жур. Ест. в тр. шк. № 6—1929 г.).
10. Кивотов. „Тематика опытов по биологии для опытн. участка ШКМ“ (Жур. Естеств. в сов. шк. № 6—1932 г.).
11. Под'япольский. „Древесный питомник в колхозе“.
12. Кунда. „Метадычная распрацоўка па сел. гасп. на веснавы перыяд“ (журн. Ком. выхв. № 3—4—1933 г.).

*Г. С.*

# Як трэба знаёміць дзяцей з процантамі ў пачатковай школе

Процантныя вылічэнні праходзяцца ў школе два разы: у пачатковай школе—у 4-ай групе і ўсярэдняй школе—у 5-й групе. Згодна праграм для I канцэнтра,—з курсу дробаў звычайных і дзесятковых, дзеці вывучаюць складанне і адыманне дробаў, множанне і дзяленне дробаў на цэлы лік. Вось з гэтым мы павінны лічыцца пры навучанні дзяцей пачатковай школы процантным вылічэнням.

Заўважваецца, што малавопытны настаўнік спрабуе развязанне задач на процантныя вылічэнні звесці да задач на звычайныя або дзесятковыя дробы. Напрыклад:

У калгасе налічваецца 1200 *га* зямлі, з якой пад ворнай занята 84%. Колькі ворнай зямлі ў калгасе?

Развязанне гэтай задачы пры дапамозе множання $1200 \times 0{,}84$ зусім не па сілах і не зразумела дзецям гэтага ўзросту—таму, што яны не ведаюць сутнасці множання на дроб. І таму мы раім настаўніку,—задачы на проценты развязваць у 2 акты двума дзеяннямі, а іменна:

1) Колькі *га* складае 1% ад усёй зямлі?

$$1200 : 100 = 12 \text{ га}.$$

2) Колькі *га* складаюць 84% ад усёй зямлі?

$$12 \times 84 = 1008 \text{ га}.$$

Такі ход развязвання больш даступны дзецям пачатковай школы.

Зусім іншая справа—другі канцэнтр школы; там безумоўна мы павінны ўжываць пры вылічэнні процантаў дзеянні з дробамі.

Калі ўлічыць усё вышэйсказанае, то не цяжка разабраць з вучнямі два асноўных тыпы задач на проценты, згодна нашым праграмам.

**Тып I.** Знаходжанне ад цэлага ліку,—аднаго або некалькіх цэлых процантаў.

**Задача.** У кааператыў прывезлі 840 пар абутку, з якіх 75% мужчынскіх. Колькі пар мужчынскага абутку прывезлі?

*Развязанне.*

1. Колькі пар абутку складае 1% ад усёй партыі абутку?

$$840 : 100 = 8{,}4 \text{ пар}.$$

2. Колькі пар абутку складаюць 75% ад усёй партыі абутку?

$$8{,}4 \times 75 = 630 \text{ пар}.$$

**Тып II**. Знаходжанне ліку па аднаму, або некалькім цэлым процантам ад яго.

**Задача.** На злёце ўдарнікаў вучобы было 36 дзяўчат, што складае 72% ад усёй колькасці ўдарнікаў. Колькі было ўдарнікаў?

*Развязанне.*

1. Колькі складае 1% ад усёй колькасці ўдарнікаў?

$$36:72=0{,}5$$

2. Колькі было ўсіх ударнікаў вучняў у школе?

$$0{,}5\times100=50.$$

Згодна нашым праграмам дастаткова разгледзець з вучнямі два асноўных тыпы задач на процантныя вылічэнні. Праўда, на практыцы, іншы раз прыходзіцца настаўніку, у звязку з работай дзяцей над газетай, журналам, закрануць і III тып задач на процантныя вылічэнні, а іменна задачы на знаходжанне процантнага аднашэння двух лікаў.

Па нашай думцы, гэтае пытанне павінна быць разабрана ў 5-й групе, згодна нашым стабільным праграмам, бо яно не па сілах вучням IV гр. (у IV гр. дзеці не знаёмяцца з дзяленнем на дроб).

Некаторыя прыватныя выпадкі можна тут разабраць.

**Задача:**

Фабрыка павінна была за месяц даць па плану 350000 пар абутку, а дала яна 400000 пар. На колькі процантаў фабрыка перавыканала намечаны план?

*Развязанне.*

1. На колькі пар фабрыка перавыканала план?

$$420000-35000=70000$$

2. Колькі пар складае 1% плана?

$$350000:100=3500$$

3. На колькі %% фабрыка перавыканала план?

$$70000:3500=20.$$

Як відаць з гэтага прыкладу,—задача падобрана так, што дае магчымасць вытлумачыць яе вучням і без асаблівых цяжкасцей выканаць. Пры гэтым падборы лікаў, пытанне звялося-б к дзяленню на дроб і яно было-б неўмесным ў IV групе.

*Л. Гельфанд*

# Аб парадку дзеянняў у арыфметыцы

Парадак дзеянняў складання, адымання, множання і дзялення ў арыфметыцы належыць да ліку пытанняў элементарнай матэматыкі, найбольш слаба распрацаваных метадычна. Гэтая акалічнасць, а таксама недастатковая канцэнтрацыя ўвагі настаўніцтва на гэтым пытанні прыводзіць да таго, што мы назіраем у практыцы шматлікія выпадкі, калі студэнты тэхнікумаў і нават ВНУ блытаюцца ў пытаннях парадка дзеяння, праяўляючы часам поўнае неразуменне закладзеных у ім законамернасцей. Між тым нам здаецца, што пры правільным метадычным падыходзе да гэтага пытання, часткова ў найбольш простых выпадках падрыхтаваўшы вучняў яшчэ ў 4-й групе, мы ўпаўне зможам на 5-м годзе навучання, як гэта і прадугледжана праграмай, вычарпаць гэтае важнае пытанне курса арыфметыкі.

Пры вывучэнні пытання аб парадку дзеяння ў арыфметыцы ўсяго для нас прадстаўляюць інтарэс наступныя тыпы выразаў:

1. $a+b-c$ 2. $a-bc$ 3. $(a-b)\cdot c$ 4. $a:bc$

5. $ab:c$ 6. $(a:b)c$ 7. $a+b:cd$

Вызначым падыход да вывучэння кожнага з гэтых выразаў.

1 тып $a+b-c$. Развяжам задачу: Нехта меў 45 рублёў, потым атрымаў яшчэ 30 руб. звярнуў долгу 10 руб. Вучань першага канцэнтра лёгка развяжа задачу. Перайначым яе такім чынам: Нехта меў 45 руб., звярнуў доўгу 10 р., потым атрымаў яшчэ 30 р. Колькі грошай у яго? Развязаўшы, атрымаем, што $a+b-c=a-c+b$. Адсюль правіла, што замена парадка дзеянняў складання і адымання не змяняе рэзультаты дзеянняў.

II тып $= a-bc$. Развяжам задачу: На атрыманыя 90 руб. служачы купіў 7 метраў мануфактуры па 3 р. за метр. Колькі грошай засталося? Вучань ужо ведае, што гэта задача рашаецца двума дзеяннямі, прычым спачатку робіцца множанне 3 на 7, а потым ад 90 р. адымаецца здабытак $3\times7$. Вынікае, што для рашэння задачы трэба ад 90 адняць $3\times7$; гэтае рашэнне матэматычна запісваюць: $90-3\times7$. Гэтым і падобнага рода прыкладамі лёгка паказаць, што ў выразах $a\pm bc$ * спачатку робіцца множанне, а потым складанне або адыманне, інакш, што множанне ідзе наогул кажучы ў першую чаргу ў параўнанні са складаннем або адыманнем. Да гэтага-ж тыпу належаць выразы $a\pm b:c$, з якіх атрымліваем аналагічнае правіла аб першачарговасці дзялення ў параўнанні са складаннем або адыманнем.

* Можна звярнуць увагу слухача, калі ён знаём з алгебраічнай сімволікай, на тое, што факт дапусцімасці запіса здабытка $b\times c$ у відзе $bc$ сімвалічна паказвае, што ў выразе $a\pm bc$ трэба да $a$ дадаць або адняць загадзя вылічаны здабытак.

III тып. $= (a-b)c$. Брус даўжыней у 15 метраў укарацілі, адрэзаўшы частку даўжынёй у 7 метраў. Трэба знайсці даўжыню 3-х укарочаных такім спосабам брусоў. Для развязання гэтай задачы мы павінны спачатку ад 15 адняць 7, а розніцу памножыць на 3. Відавочна, што выраз $15-7\times3$ не дасць нам развязання нашай задачы, бо для гэтага выраза згодна правіла, выведзенага ў тыпе № 2, прыдзецца спачатку 7 памножыць на 3, а затым ад 15 адняць гэты здабытак.

Для таго, каб падкрэсліць, што ў выразе $15-7\times3$ спачатку трэба зрабіць адыманне (15—7), а затым множанне розніцы на 3, інакш, каб падкрэсліць неабходнасць змены ўстаноўленага ў тыпе № 2 чарговасці дзеяння, мы вышэй прыведзены выраз запішам: $(15-7)\cdot3$. Адсюль выцякае, што дужкі зміняюць „искони“ устаноўлены парадак дзеянняў у матэматыцы.

IV тып. $a:b\times c$. Развяжам задачу. Нехта кожны дзень траціць на трамвайныя праезды 50 кап. На колькі шасцідзёнак пры такіх роўнамерных затратах у дзень у яго хопіць 9 рублёў. Для развязання гэтай задачы прыдзецца вызначыць затраты на працягу аднэй шасцідзенкі $(50\times6)$, а затым $9:3$, гэта пакажа, што грошай хопіць на тры шасцідзёнкі. Такім чынам развязанне задачы атрымліваецца пры дзяленні 900 на здабытак $(50\times6)$. Гэтае развязанне можна напісаць у выглядзе наступнага выраза: $900:50\cdot6$ (тып $a:bc$)*, з якога выцякае, што пры наліччы ў выразе двух дзеянняў множання і дзялення, наогул кажучы, трэба ў першую чаргу прарабіць дзеянне множання, а дзеянне дзялення прарабіць у другую.

Тып V. $ab:c$. Мы падкрэслілі ў тыпе № 4 выраз наогул кажучы таму, што ва ўсіх выпадках, калі здабытак двух множнікаў дзеліцца на які-небудзь лік, напрыклад $3\times10:5$, можна падзяліць на гэты лік адзін сумножнік, памножыўшы дзель на другі, гэта значыць, што ў першую чаргу можна рабіць дзеянне дзялення, а дзеянне множання ў другую. Калі мы для гэтага і падобнага рода прыкладаў зробім спачатку множанне, а здабытак падзелім на даны лік, то ў гэтым выпадку атрымаем ранейшы вынік. Вышэй паказанае можна прадэманстраваць (у школе з гэтага прыдзецца і пачаць) на наступнай задачы:

Нехта, зарабляючы ў дзень па 10 руб., купіў на 3-х дзённы заробак сукна па 5 руб. за метр. Колькі метраў сукна ён купіў? Гэту задачу, акрамя звычайнага спосаба рашэння, можна рашыць, даведаўшыся спачатку колькі метраў сукна нехта купіў на аднадзённы заробак $(10:5)$, а потым даведацца, колькі метраў сукна ён купіў на трохдзённы заробак. Такім чынам у выразе тыпа $ab:c$ можна спачатку $b:c$ (ці $a:c$) і дзель памножыць потым на $a$ (у другім выпадку на $b$). Можна, вядома, рашыць гэты выраз па правілу, выведзенаму ў тыпе № 4, што дасць той-жа вынік. Мы бачым, такім чынам, што правіла, выведзенае для выраза тыпа 4, дае нам магчымасць развязваць выразы тыпа № 5; гэтае правіла значыцца, ахапляе абое гэтыя тыпы, аднак другі з гэтых тыпаў з'яўляецца больш „эластычным“, дапускаючы таксама рашэнне па дадзенаму тут спосабу.

Матэматычна магчымасць рашэння выраза тыпа № 5 абоімі спосабамі робіцца відавочнай, калі запісаць выраз $a\times b:c$ у выглядзе $\frac{ab}{c}$

Тып VI. $(a:b)\cdot c$. Рабочы за 4 дні атрымлівае 28 р. зарплаты. Якая яго зарплата за 3 дні? У гэтай задачы трэба спачатку даведацца аб

* глядзі зробленую раней зноску.

аднадзеннай зарплаце (28:4), а потым аб трохдзеннай зарплаце (7×3). Выраз 28:4×3 не дасць адабражэння рашэння задач, згодна паказанаму ў тыпе № 4. Для таго, каб адзначыць, што ў даным выпадку спачатку трэба рабіць дзяленне, а затым множанне зноў на арэну выходзяць дужкі, мяняючыя „искони" парадак матэматычных дзеянняў. Развязаннем задачы з'яўляецца выраз (28:4)·3.

Тып VII. $a:b:cd$. Нам здаецца, што пасля ўсяго вышэй сказанага не будзе патрэбы прыводзіць задачу, развязанне якой даецца гэтым выразам, бо гэта цяпер пасля прыведзеных вышэй задач не патрэбна. Уласна кажучы выраз тыпа № 7 прадстаўляе абагульненне выразаў тыпа № 2 і № 4. З паказанага ў тыпах № 2 і 4 вынякае, што спачатку прыдзецца зрабіць множанне, затым дзяленне, а складанне і адыманне ў апошнюю чаргу.

Вось тыя заўвагі, якія мы лічылі неабходным зрабіць па пытанню аб парадку дзеянняў у арыфметыцы. Цяпер лёгка будзе прывесці слухача да пытання аб парадку дзеяння ў алгебры, да разбіўкі ўсіх дзеянняў на рангі, якімі пры адсутнасці дужак адзначаецца факт выпаўнення дзеянняў першага ранга раней дзеянняў другога і г. д.

Выкладчыкам сямігадовай школы неабходна на гэта пытанне звярнуць сур'ёзную ўвагу, каб не прышлося, як я ўжо казаў, навучаць або перанавучаць слухачоў тэхнікумаў і нават ВНУ гэтым далёка не складаным аперацыям.

*Г. Сагаловіч*

# Як праводзіць іспыты па матэматыцы

Іспыты, праводзімыя ў школе, з'яўляюцца адным з асноўных момантаў у барацьбе за павышэнне якасці работы школы. Іспыты павінны даць магчымасць вучню прывесці ў парадак і сістэму атрыманыя ім веды за год; настаўніку—высветліць канчаткова веды і развіццё вучняў, а адміністрацыі праверыць якасць работы і дасягненні настаўніка ў справе аўладання вучняў асновамі навук, навукова-педагагічнае і метадычнае майстэрства выкладчыка. Іспыты па матэматыцы згодна распараджэння НКА адбываюцца пачынаючы з 3 года навучання ў пісьмовай і вуснай форме.

Пісьмовая работа ў школе мае сваей мэтай высветліць, наколькі вучні той ці іншай групы засвоілі тэхніку матэматычных аперацый і наколькі гэтыя аперацыі свядома прымяняюцца к развязанню канкрэтных задач.

Пісьмовая работа для вучняў 3-га і 4-га гадоў навучання павінна прадстаўляць сабой задачу на розныя арыфметычныя дзеянні ў рамках праграмнага матэрыяла. Можна лічыць дастатковай для вучняў 3-га года навучання задачу ў тры пытанні, для вучняў 4-га года навучання ў 4—5 пытанняў; прычым, як правіла, большасць пытанняў задачы павінна вырашацца множаннем і дзяленнем. Задача не павінна быць складанай па свайму зместу, павінна быць яскрава сфармуляванай і даступнай вучню, які нармальна прапрацаваў вучэбны год.

Настаўнік павінен патрабаваць ад вучня, каб пісьмовая работа была выканана правільна не толькі з матэматычнага боку, але і з пункту гледжання яе афармлення; гэта значыць, што работа павінна быць пісьменна напісанай, пытанні, развязанні і самыя дзеянні павінны быць правільна размяркованы.

З гэтай мэтай варта выдзеліць на работу 2 гадзіны з тым, каб даць магчымасць вучню без асаблівай спешкі яе выканаць.

Вусныя іспыты павінны насіць зусім іншы характар чым пісьмовыя, не дубліраваць апошніх. Няма сэнсу на вусных іспытах патрабаваць ад вучняў тое, што настаўніку ўдалося высветліць пасля праверкі пісьмовых работ. Пісьмовыя іспыты маюць сваей мэтай высветліць на колькі вучні аўладалі тэхнікай матэматычных аперацый і карыстаюцца імі пры вырашэнні розных задач. Вусныя іспыты высвятляюць, наколькі вучні свядома выконваюць арыфметычныя дзеянні, засвоілі асноўныя пытанні з тэорыі арыфметыкі.

На 3-м годзе навучання настаўнік высвятляе на вусных іспытах наступнае:

1. На колькі дзеці свядома карыстаюцца разраднай сеткай пры чытанні і пісанні лікаў адвольнай велічыні.

2. На колькі свядома дзеці выконваюць арыфметычныя дзеянні над лікамі адвольнай велічыні, зразумела ў рамках стабільнай праграмы і, асабліва, на колькі засвоены асобныя выпадкі дзеянняў:

Напр. $\begin{array}{r}-\,800049\\ 349399\\ \hline\end{array}$ $\begin{array}{r}\times\,328\\ 408\\ \hline\end{array}$ $\begin{array}{r}325\\ \times 900\\ \hline\end{array}$

У 3-й групе вучні павінны былі канчаткова засвоіць метрычную сістэму мер і навучыцца аперыраваць з так званымі найменнымі лікамі. Вусныя іспыты павінны высветліць засваенне вучнямі метрычных мер, іх суадносін і ўменне карыстацца імі пры аперацыях над найменнымі лікамі. Надаючы вялікае значэнне вуснаму лічэнню, асабліва на першых кроках навучання матэматыцы, неабходна на вусных іспытах праверыць, на колькі вучні свядома, вусна развязваюць, прыкладна, наступныя пытанні.

1. Павялічэнне, або памяншэнне лікаў на некалькі адзінак.
2. Павялічэнне альбо памяншэнне лікаў у некалькі разоў.
3. Падзел лікаў на дзве часткі так, каб другая частка была больш альбо менш першай на некалькі адзінак.

**Прыклад:** Як размеркаваць паміж 2-ма групамі 120 сшыткаў, каб другой дасталося на 40 больш чым 1-ай?

4. Падзел ліку на 2 часткі так, каб адна частка была больш альбо менш за другую ў некалькі разоў.

**Прыклад:** Як размеркаваць паміж 2-ма групамі 60 алоўкаў, каб другой дасталося ў 2 разы больш чым 1-ай?

5. Вуснае знаходжанне ад ліку адной альбо некалькіх роўных частак, напр.:

У групе налічваецца 45 вучняў, $^2/_3$ групы састаяць у піонерскім атрадзе. Колькі піонераў у групе?

Вусныя іспыты ў 4-ай групе высвятляюць, на колькі вучні цалкам засвоілі арыфметыку цэлых лікаў і падрыхтоўчы курс дробаў. На вусных іспытах вучні павінны паказаць:

1) правільнае і свядомае выкананне дзеянняў над лікамі адвольнай велічыны,

2) веданне правіл дзеянняў і іх паверак,

3) веданне назваў элементаў дзеянняў і знаходжанне невядомых элементаў дзеянняў,

4) веданне і разуменне таго, як змяняецца рэзультат дзеянняў у залежнасці ад змянення даных дзеянняў.

Курс дробаў у 4-ай групе з'яўляецца выключна падрыхтоўчым да сістэматычнага курса, які ставіцца ў 5-ай групе. Гэтая акалічнасць павінна адбівацца на запатрабаваннях да вучняў пры праверцы іх ведаў па арыфметыцы дробаў.

Вучні павінны паказаць, што яны засвоілі аперацыі над звычайнымі і дзесятковымі дробамі, згодна праграмы і свядома іх выконваюць. Напрыклад:

Ці ўмеюць вучні выражаць дробы ў аднолькавых частках пры складанні і адыманні іх.

Ці разумеюць множанне і дзяленне дробаў на цэлы лік, звязаўшы гэтыя пытанні з павелічэннем альбо памяншэннем дробаў у некалькі разоў.

Ці свядома карыстаюцца двумь дзеяннямі пры знаходжанні частак ад ліку, альбо ліку па частцы.

Знайсці $\frac{3}{5}$ ад 120. Знайсці лік, $\frac{3}{5}$ якога складаюць 120.

| | |
|---|---|
| 1) $120:5=24$ | 1) $120:3=40$ |
| 2) $24\times3=72$ | 2) $40\times5=200$ |

З ведаў па геаметрыі вучні павінны паказаць, што яны разумеюць сутнасць знаходжання плошчы фігуры і аб'ёма цела з поўным ужываннем квадратных і кубічных мер (плошча прамавугольніка і аб'ем прамавугольнага паралелепіпеда).

## II канцэнтр школы

Арыфметыка з'яўляецца асноўным раздзелам матэматыкі 5-га года навучання, а таму і пісьмовая работа для вучняў 5-га году навучання павінна быць выключна работа па арыфметыцы. Работа павінна быць падабрана з такім разлікам, каб асноўныя пытанні яе развязваліся пры дапамозе дзеянняў звычайнымі і дзесятковымі дробамі. Акрамя таго работа павінна паказаць, наколькі вучні засвоілі тэхніку процантных вылічэнняў. Настаўнік павінен патрабаваць ад вучняў, каб работа была выканана вучнямі не толькі правільна з матэматычнага боку, але граматна і прыгожа і з надворнага боку.

Пытанні павінны быць яскравыя, кароткія, развязванні павінны быць правільна распланаваны, дзеянні павінны выконвацца згодна тым правілам, якія даваліся вучням на працягу году; напр., у той час, калі вучань 1-га канцэнтра школы пры знаходжанні некалькі частак ад ліку, ужывае 2 дзеянні, вучань пятага году навучання гэтую аперацыю павінен выканаць пры дапамозе 1-го дзеяння, а іменна пры дапамозе множання на дроб.

Вусныя іспыты павінны паказаць наколькі вучні засвоілі тэарэтычны матэрыял, як па арыфметыцы, гэтак і па геаметрыі. Вучні павінны паказаць, што яны з арыфметыкі цвёрда засвоілі:

1) Асноўныя законы 4-х дзеяннеў над цэлымі і дробнымі лікамі.

2) Тэорыю правіл і тэхніку выканання дзеянняў над лікамі як цэлымі, так і дробнымі і іх паверку.

3) Тэорыю правіл і тэхніку процантных вылічэнняў.

4) Сутнасць прапарцыянальнасці і ўменне карыстацца ёй пры развязванні задач: запіс задачы ў форме табліцы, складанне прапорцыі і яе развязванне.

З курсу геаметрыі вучні павінны паказаць веданне асноўных уласцівасцяй элементаў прамалінейных фігур і цел, уменне вылічваць плошчу фігур і аб'ёмы цел з поўным ужываннем формул плошчаў і аб'ёмаў.

Пісьмовая работа на 6-ым годзе навучання павінна складацца з трох частак:

1) Задачы на складанне і развязванне раўнання.

2) Прыкладу на ператварэнне алгебраічных многачленаў альбо дробаў з адначленамі назоўнікамі.

3) Задачы па геаметрыі на вылічэнне.

Задачы і прыклады павінны быць падабраны з такім разлікам, каб высветліць, наколькі вучні спраўляюцца з тэхнікай ператварэння

многачленаў, алгебраічных дробаў з адначленнымі назоўнікамі і развязаннем раўнанняў.

Геаметрычная задача павінна быць задачай на вылічэнне, пры чым неабходна патрабаваць ад вучняў, каб яна выконвалася не ад рукі, а пры дапамозе цыркуля і лінейкі без ужывання тушы.

Вусныя іспыты праводзяцца асобна па алгебры і геаметрыі і маюць сваёй мэтай высветліць:

1) аўладанне тэорыяй і практыкай алгебраічных ператварэнняў многачленаў і дробаў з адначленамі назоўнікамі;

2) аўладанне формуламі скарочанага множання і карыстанне імі пры ператварэннях;

3) аўладанне тэорыяй і практыкай развязання раўнанняў з лікавымі каэфіцыентамі;

4) засваенне вучнямі геаметрычнага матэрыяла.

Вучні павінны выявіць уменне фармуляваць тэарэму і яскрава яе даказаць пры поўным ужыванні неабходных запісаў і рысункаў.

Адначасова з гэтым павінна быць высветлена, на колькі свядома вучні карыстаюцца цыркулем і лінейкай пры развязанні задач на пабудаванне.

Самым асноўным момантам у рабоце 7-га года навучання з курса алгебры з'яўляюцца алгебраічныя дробы, раўнанні 1-й ступені з адным і некалькімі невядомымі, а таму, пісьмовая работа па алгебры павінна складацца з двух частак:

а) задачы на складанне і развязанне сістэмы раўнанняў 1-й ступені з двума невядомымі;

б) прыкладу на ператварэнне алгебраічных дробаў.

Выходзячы з таго, што квадратныя раўнанні больш падрабязна вывучаюцца ў 8-ай групе школы, у тэхнікумах і такім чынам гэтае пытанне не з'яўляецца характэрным для 7-га года навучання, не варта яго ўключаць у пісьмовыя работы па алгебры.

Пісьмовая работа па геаметрыі павінна паказаць, наколькі вучні засвоілі падобнасць фігур, метрычныя суадносіны паміж бакамі трохвугольніка і, галоўным чынам, тэарэму Піфагора. Пры развязанні геаметрычнай задачы неабходна патрабаваць ад вучняў, каб яны ўжывалі цыркуль і лінейку.

Вусныя іспыты павінны таксама праводзіцца па альгебры і геаметрыі. Іспыты павінны паказаць, наколькі вучнямі засвоен тэарэтычны матэрыял і наколькі тэарэтычныя веды скарыстоўваюцца пры развязанні алгебраічных і геаметрычных пытанняў. Калі мы не раілі ўключаць у пісьмовую работу і квадратныя раўнанні, дык вусныя павінны паказаць наколькі вучні ўмеюць развязваць квадратовыя раўнанні ў тым аб'ёме, у якім гэта патрабуецца праграмай.

Фармулёўкі тэарэм, іх доказы, кароткія запісы пры доказах, карыстанне рысункам пры доказе, павінна заняць значнае месца на іспытах па геаметрыі.

*І. М. Голуб*

# Да пытання аб метадалогіі фізікі

Пры праверцы ведаў па фізіцы паступаючых у інстытут выяўляецца некалькі рыс, надзвычайна характарных для пастаноўкі фізікі ў сярэдняй школе, і, перш за ўсё, сямігодцы. На некаторых з іх я спынюся, улічваючы, што гэтым будзе аказана некаторая дапамога выкладчыкам масавай школы.

Перш за ўсё, кідаецца ў вочы, што курс фізікі ўспрымаецца вучнямі сярэдняй школы, як механічная сума нічым не звязаных раздзелаў (механіка, вадкасці, цяплыня і г. д.), як конгламерат рознастайных, разрозненных фактаў, як не маючая сувязі паміж сабой куча доследаў, законаў і незразумелых (а таму „страшных“) формул.

Адсюль,—бессістэмнасць ведаў, скальжэнне па паверхні фактаў, ненавуковы падыход да трактоўкі тых ці іншых пытанняў, адсутнасць цвёрдага фундамента „асновы навук“, няўменне карыстацца набытымі ведамі для рашэння новага (якога няма ў падручніку) пытання.

Аднэй з прычын гэтага з'явішча з'яўляецца адсутнасць кіруючай ідэі пры пабудове курса фізікі, адсутнасць у рада выкладчыкаў дакладнага і яснага разумення задач фізікі, яе мэт, аб'ёма і месца сярод іншых навук.

Што складае прадмет фізікі і якавы яе задачы?—Варта звярнуцца да курсаў фізікі для сярэдняй і вышэйшай школы, каб выявіць, што гэта не так „відавочна“ для розных аўтараў і выкладчыкаў.

Не застанаўліваючыся на розных азначэннях фізікі асобнымі аўтарамі, што адцягнула-б нас у бок, звернемся да Хвольсона.—„Физика,—кажа ён,—в широчайшем смысле слова есть наука о неорганизованной материи и о происходящих в ней явлениях. Эти явления называются явлениями физическими. Все другие науки о материи имеют дело с материей организованной (биологические науки)“ (т. I, изд. 1933 года).

Вось і ўсё, што мы знаходзім у Хвольсона па гэтым пытанні. Такое азначэнне фізікі з'яўляецца зусім бясплодным, бо ахапляе і фізіку, і хімію, і мінералогію, і астраномію, і геалогію і г. д., але не дае **зместа, спецыфікі фізікі** ў вузкім сэнсе слова, г. зн. не дае таго, што патрэбна фізіку.

Энгельс, класіфікуючы навукі, выходзіць з таго, што „каждая анализирует отдельную форму движения или ряд связанных между собой и переходящих друг в друга форм движения“.

Які-жа змест фізікі?

— Фізіка займаецца вывучэннем рада форм руxаў, якія маюць месца ў неарганічнай прыродзе; фізіка займаецца, у асноўным, вывучэннем умоў, суадносін звязаных з ператварэннем аднэй формы энергіі (формы руху) у другую, фізіка вывучае, такім чынам, асновы

энергетычных працэсаў, тыя асновы, якія з'яўляюцца базай, фундаментам іншых прыродазнаўчых і тэхнічных дысцыплін (хімія, цеплатэхніка, электратэхніка, радыётэхніка і г. д.). Закон захавання і якаснага ператварэння энергіі,—вось асноўны стрыжань курса фізікі.

Вывучэнне механічнай энергіі (потэнцыяльнай і кінетычнай), яе сувязі з цеплавой, з энергіяй электрычнага тока; цеплавой энергіі і яе сувязі з механічнай, з энергіяй электрычнага тока, з прамяністай энергіяй; вывучэнне энергіі электрычнага тока, і яе сувязі з механічнай энергіяй, з хімічнай, з цеплавой, з прамяністай; тое-ж самае адносна прамяністай энергіі; высвятленне фізічных умоў і колькасных суадносін, звязаных з гэтымі ўзаемапераходамі; вывучэнне ўласцівасцяў матэрыі (цел) у розных яе станах і ў сувязі з ператварэннем энэргіі—вось асноўны касцяк курса фізікі. Гэты „великий основной процесс, в познании которого заключается все познание природы“ (Энгельс)—працэс ператварэння энергіі, і павінен з'явіцца вядучай ідэяй, вакол якой групуецца ўвесь фактычны матэрыял.

Неабходна дабіцца такога становішча, каб вучань асазнаў сувязь паміж асобнымі раздзеламі курса фізікі, унутраную дынаміку курса, каб ён атрымаў сістэматызаваныя веды; але гэта магчыма толькі тады, калі выкладчык фізікі сам дастаткова прадумаў структуру, пабудову і змест курса.

Некалькі слоў аб формулах. Слова „формулы“ гучыць вельмі грозна для большасці іспытываемых; іх (гэтых формул) многа, яны знікаюць з памяці, у лепшым выпадку незначны іх процант застаецца ў выглядзе догм, зазубраных раўнанняў, невядома адкуль узятых ісцін... Гэта вялікае і балючае пытанне!

А справа заключаецца ў тым, што формулы не падносіліся, як запісы аб'ектыўных законамернасцяй, як кароткія запісы функцыянальнай залежнасці, існуючай паміж данымі велічынамі, не падкрэслівалася, што даная канкрэтная функцыянальная сувязь правільна ў даных канкрэтных умовах, не высвятлялася штодзённая роля формул, як аруддзяў разліку.

Разуменне існавання функцыянальнай залежнасці паміж вывучаемымі з'явамі, **разуменне характару гэтай сувязі**—вось асноўны этап у рабоце педагога; за гэтым ідзе запас гэтай сувязі—формуліроўка (на першых кроках словамі, потым на мове алгебраічнай сімволікі) і прымяненне гэтай формулы да развязвання задач. Нажаль, вельмі часта спяшаюцца з навязваннем, без дастатковага абгрунтавання, незразумелых вучню формул і тут-жа пераходзяць да механічнага зазубрэння гэтых формул на стэрэатыпных прыкладах і задачах, выхалашчваючы гэтым самым фізічную сутнасць пытання і ператвараючы фізіку ў алгебру і арыфметыку.

У сувязі з гэтым стаіць таксама пытанне аб характары формуліровак фізічных закономернасцяй. Формуліроўка фізічнай законамернасці павінна быць, па магчымасці, ізложана проста, ясна, павінна падкрэсліць самую сутнасць справы і быць **пазбаўленай трафарэта, казёншчыны, штампа.** На апошняй акалічнасці застановім сваю ўвагу.

Возьмем, для прыклада, формуліроўку закона Архімеда. У большасці падручнікаў даецца трафарэтная формуліроўка: „всякое тело, погруженное в жидкость, теряет в своем весе столько, сколько весит вытесненная жидкость“. Такая формуліроўка **перашкаджае** разуменню прычыны данага з'явішча, бо не выпячвае асноўнага—выпіхальнай сілы—і аперуе туманным тэрмінам „теряет в весе“. Не гледзячы на ўсе заўвагі, якія робіць у гэтым выпадку добрасумленны педагог, заўвагі аб тым, што гэту, бачыце, страту патрэбна

разумець у тым сэнсе, што з'яўляецца сіла накіраваная ўгару і г. д., у вучняў прочна асядае ў галаве гэта містычная страта вагі, вельмі часта без усякага разумення сутнасці справы.

Між тым, можна даць вельмі ясную формуліроўку гэтага закона: цела, пагружанае ў вадкасць, выпіхаецца з гэтай вадкасці з сілай, накіраванай уверх і роўнай вазе вадкасці ў аб'ёме дадзенага цела. Зусім бясспрэчна перавага другой формуліроўкі, як не ўносячай блытаніны ў сазнанне вучняў і дапамагаючай выхаванню навуковага мышлення.

Не застанаўліваючыся на іншых прыкладах, скажам толькі, што формуліроўка фізічнай законамернасці павінна быць выражана ў такой форме, якая забяспечыла-б разуменне формулы, як прылады даследвання, разліку, выпячвала-б функцыянальную залежнасць паміж велічынямі.

Мы закранулі каротка некалькі метадалагічных і метадычных праблем. Абгаварэнне гэтых і аналагічных пытанняў, бясспрэчна, будзе садзейнічаць больш паглыбленаму, самакрытычнаму падыходу выкладчыка фізікі да сваёй работы. У гэтым—залог выканання намі гістарычных пастаноў ЦК аб сярэдняй школе.

*Я. Шчэрбач*

Інструктар школ
Рэчыцкага раёна

# Увага інструктару-метадысту

Важнейшым звяном у агульнай сістэме барацьбы за паспяховую рэалізацыю пастаноў партыі і ўрада аб школе, безумоўна, з'яўляецца чоткае аперацыйнае метадычнае кіраўніцтва іх работай з боку РайАНА.

У мэтах больш шчыльнага набліжэння РайАНА да школы і канкрэтнай дапамогі настаўніцтву ў яго штодзённай рабоце па барацьбе „з карэнным недахопам школы", створан інстытут школьных інструктароў-метадыстаў. У нашым раёне, маючым 35 сельсоветаў і 124 школы, працуюць два інструктары.

З агульнага ліку школ мы маем на вёсцы 113 і 11 у горадзе. Школ першага канцэнтра на вёсцы 79, у горадзе 6; другога канцэнтра на вёсцы 34, у горадзе 5. У нацыянальным разрэзе: яўр.—6, польскіх—3, украінскіх—3, нямецкіх—1.

Гэты склад школ патрабуе дыферэнцыяванага чулага падыхода да іх нужд, чоткай аперацыйнай метадычнай работы РайАНА і ў прыватнасці школьнага інструктара. Метадычная дапамога настаўніку ў яго штодзённай педагагічнай рабоце ў значнай меры залежыць ад таго, якія ўмовы створаны для работы інструктара, як кіруе яго работай НКА і РайАНА. Да гэтага часу з боку школьнага ўпраўлення НКА БССР адсутнічае канкрэтнае кіраўніцтва (даслана толькі інструкцыя абследвання школ) работай метадыстаў і РМС пры РайАНА.

Трэба сказаць, што школьнае кіраўніцтва НКА амаль не кіравала работай інструктароў, не ведае іх складу, падрыхтоўкі і ўмоў работы. Яно нават не склікала нарады інструктароў перад пачаткам навучальнага года. Такім чынам, школьнае ўпраўленне НКА сваю работу не перабудавала так, каб наблізіцца да раённага звяна ў сістэме народнае асветы,—РайАНА і праваднікa яго мерапрыемстваў—інструктара. У лепшым выпадку кіраўніцтва работай раённых аддзелаў народнай асветы выражаецца ў патоку цыркуляраў і абежнікаў агульнага зместу, дасылцы многіх статыстычных бланкаў, на запаўненне якіх прыходзіцца траціць інструктару шмат каштоўнага часу.

Такія безадказныя адносіны да ўмацавання раённага звяна сістэмы народнай асветы характарызуюць значны фармалізм і самацёк, які прадаўжае існаваць у школьным упраўленні. Так, напрыклад, школьнаму ўпраўленню было своечасова паведамлена, што ў Рэчыцкім раёне няма польскіх і нямецкіх школ II канцэнтра, але чамусці і да гэтага часу ДВБ, з санкцыі школьнага ўпраўлення, прадаўжае дасылку падручнікаў і праграм для гэтых школ. Кіраўніцтва метадычнай ра-

ботай выявілася ў дасылцы двух інструкцый аб арганізацыі і функцыях РМС, далей справа не пайшла.

Не гледзячы на гэта, Рэчыцкае РайАНА ў сваёй рабоце мае некаторыя дасягненні. Арганізован райметодсовет, у склад якога ўваходзяць загадчыкі ўзорных школ, дырэктар педтэхнікума, лепшы актыў настаўнікаў, старшыя настаўнікі—кіраўнікі секцый груп першага канцэнтра, кіраўнікі прадметных камісій II канц., прызначаныя РайАНА, і інструктары. У горадзе арганізаван педгабінет, які склікае нарады настаўнікаў з пастаноўкай метадычных дакладаў, разбірае пытанні ўнутрышкольнага жыцця і г. д. На працягу гэтага часу ў ім былі заслуханы даклады лепшых настаўнікаў узорных ФЗД аб барацьбе за граматнасць вучня, аб арганізацыі работы вучнёўскага самакіравання, метадах работы піонерарганізацыі ў школе і дапамогі настаўнікаў звяну.

Трэба сказаць, што ў некаторых школах нашага раёна і да гэтага часу пануе сярод настаўнікаў тая думка, што беспартыйны настаўнік не можа дапамагаць піонерзвяну ў сваёй групе, што прымацаванне да яго звяна з мэтай дапамогі,—няверна. Зразумела, што прымацаванне настаўніка да піонерскага звяна ў групе для дапамогі нельга разглядаць як рэзультат загада па школе; яно павінна выцякаць з імкнення настаўніка дапамагчы піонерработніку справіцца з тымі задачамі, якія вычэрпваюцца ўсім зместам і глыбінёй задач комуністычнага выхавання маладога пакалення.

У сельсоветах у нас арганізаваны па тэрытарыяльнаму прынцыпу сельметодаб'яднанні настаўніка I канц. на чале з настаўнікамі—вопытнымі педагогамі. Такіх сельскіх метадычных аб'яднанняў настаўнікаў у нашым раёне арганізавана 22. Сельметодаб'яднанні канцэнтруюць сваю работу пры разгорнутай ШКМ, а там, дзе іх няма, пры масавых чатырох і шматкамплектных школах, у якіх маюцца моцныя, ідэалагічна вытрыманыя падрыхтаваныя настаўнікі. На апошніх ускладаецца дача ўзорных лекцый для маладых настаўнікаў, кіраўніцтва складаннем рабочых планаў, канспектаў, лекцый і г. д.

Інструктар-метадыст, будучы ў школе, дзе працуюць маладыя настаўнікі, сам праводзіць для іх узорныя лекцыі. Практычныя ўзорныя лекцыі даюцца на кожным паседжанні сельметодаб'яднання на вёсцы і секцыі ў горадзе, якія склікаюцца адзін раз у месяц. У прамежутках паміж паседжаннямі сельметодаб'яднанняў працуюць групавыя метадычныя камісіі па прынцыпу 1 гр , 2 гр , 3 гр., 4 гр., якія распрацоўваюць рабочыя планы, канспекты лекцый, абмяркоўваюць, як лепш арганізаваць педпрацэс, распрацоўваюць метадычныя пытанні, складаюць тэзісы. Змест работы сельметодаб'яднання вызначаецца наступнымі асноўнымі раздзеламі, вызначанымі ў іх планах работы:

а) планаванне вучэбна-выхаваўчай работы на бліжэйшы час;

б) падрыхтоўка да ўрока, падбор і парадак скарыстання на ўроках дыдактычнага матэрыяла, падбор матэрыяла з практыкі соц. будаўніцтва, лаканізацыя праграмнага матэрыяла, лепшае выкарыстанне падручнікаў і навучальных дапаможнікаў, пастаноўка доследаў у габінетах, лабараторыях, на прышкольных зямельных участках;

в) арганізацыя ўрока: агульная структура ўрока, рацыянальнае скарыстанне вучэбнага часу, метады і прыёмы, забяспечваючыя даступнасць і паглыбленасць выкладання, выклікаючыя актыўнасць і цікавасць вучняў;

г) арганізацыя дакладаў па пытаннях педагогікі, прыватных метадык, работа з падручнікам і навучальнымі прыладамі, арганізацыя палітэхнічнага працоўнага навучання і пазашкольнай работы;

д) заслухоўванне дакладаў асобных настаўнікаў аб іх рабоце;

е) вучот паспяховасці, бягучы ўлік паспяховасці вучняў і работы настаўнікаў;

ж) распрацоўка тыповых урокаў;

з) дапамога маладым настаўнікам;

к) дача практычных лекцый лепшымі майстрамі педагагічнага працэса.

На кожнае пасяджэнне сіламі методаб'яднання вызначаны ў плане пытанні, да разбору якіх настаўнікі па групавых камісіях рыхтуюцца разам. Для ілюстрацыі падаю парадак дня паседжання ў лютым месяцы (20|II-34 г.):

1. Методыка выкладання прыродазнаўства ў пачатковай школе (даклад практычнага зместа). Практычная лекцыя на тэму—арганізацыя і правядзенне доследа ў 3-й групе аб расшырэнні паветра пры награванні і сцісканні пры ахалоджанні. Аналіз канспекта ўрока паводле запатрабаванняў, якія паказаны ў раздзеле „в“ плана работы сельметодаб'яднання.

Аналіз падручніка па роднай і рускай мове 3-га года навучання (класавая накіраванасць, цяжкасць матэрыяла, тэкст, шрыфт, велічыня артыкулаў, матэрыял мастацкага характара і яго змест, рытм, лірычнасць, фабула, лёгкасць успрымання і т. д.).

3. Прапрацоўка матэрыяла (секцыйна) XVII з'езда ВКП(б) у напрамку насычэння канкрэтным зместам праграм па геаграфіі, грамадазнаўству (геаграфічнае размяшчэнне новых гігантаў соцбудаўніцтва, транспарт, сельская гаспадарка і інш.) і абгаварэнне метадаў прапрацоўкі гэтага матэрыяла ў школе з вучнямі.

Тут-жа даецца заданне к наступнаму пасяджэнню. І там, дзе старшыня методаб'яднання сумеў арганізаваць работу,—такія паседжанні характэрны агульнай актыўнасцю настаўніцтва, шырокім загадзя абдуманым і праверамым практыкай работы дзелавым абгаварэннем вызначаных мерапрыемстваў.

Інструк'тар-метадыст да паседжэння дапамог настаўніку скласці канспект гэтай лекцыі, падрыхтаваць матэрыял, размеркаваць бюджэт часу і т. д. Настаўнік сам прарабіў дослед у сябе на кватэры, улічыў тыя прыёмы, якімі трэба будзе карыстацца ў поўнай паступовасці ў часе лекцыі і ўпэўнена, добра даў узор работы маладому настаўніцтву, як трэба даваць урок. Гэты вопыт зараз-жа быў перанесен у другія школы методаб'яднання.

Перад гэтым мною была абследвана Заспенская ШКМ, якая мае 13 груп і на паседжанні заслуханы вывады аб рабоце гэтай школы, абгавораны канкрэтныя мерапрыемствы па барацьбе за граматнасць вучняў, выцякаючыя з агульнага становішча школ гэтага сельсовета.

Я лічу сябе адказным за школу свайго ўчастка і на кожны недахоп у школе, нароўні з яе загадчыкам. Але паспяховаму ажыццяўленню маіх абавязкаў перашкаджае тое, што вельмі часта прыходзіцца займацца канцэлярскімі справамі. Яшчэ ўвосень пастановай прэзідыума РВК я быў прызначан намеснікам загадчыка РайАНА і такім чынам мне надаюць правы адміністратара. Загадчык РайАНА мабілізуецца на правядзенне нарыхтовак, а мне як намесніку прыходзіцца сядзець на яго месцы, займацца размеркаваннем падручнікаў, прызначэннем і звальненнем настаўнікаў, перапіскай з НКА, запаўненнем статыстычных бланкаў, і г. д., але не сваёй непасрэднай работай.

Такім чынам выкарыстанне інструктароў не па прызначэнню з'яўляецца аднэй з галоўных прычын слабога метадычнага кіраўніцтва школай, адсутнасці паўсядзённай практычнай дапамогі масаваму настаўніку, які ад нас чакае шмат. Месца інструктара павінна быць на раёне, у школе, а не ў канцэлярыі.

Я лічу, што школьнаму ўпраўленню трэба склікаць нарады інструктароў, якіх (нарад) яшчэ не было; арганізаваць летам спецыяльныя курсы па павышэнні кваліфікацыі. Увага і кіраўніцтва інструктарам-метадыстам,—залог іх паспяховай работы, залог паспяховай барацьбы за практычнае ажыццяўленне пастаноў ЦК партыі аб школе.

*В. Зайцаў*
*С. Равін*

# Падрыхтоўка вырашае поспех урока

Без грунтоўнай падрыхтоўкі да ўрока я ў клас ніколі не прыходжу,—гаворыць ударніца-настаўніца 23-й Менскай яўрэйскай ФЗС тав. **Фурман.**

Сапраўды, хто пабываў на ўроках у т. Фурман у яе IV групе, той вам пацвердзіць, што ў настаўніцы-ўдарніцы словы не разыходзяцца са справай. Каб не быць галаслоўным, зробім з вамі, чытач, экскурс на яе ўрок грамадазнаўства.

Да званка на заняткі мы вельмі ўважліва і трэба сказаць проста прыдзірчыва праглядаем канспект урока т. Фурман, але, як кажуць, у ім „ні сучка, ні задорынкі". Тэма ўрока—„Днепрагэс". У канспекце досыць падрабязна распрацаваны мэтавая ўстаноўка данага ўрока, увесь ход яго, метады і дыдактычны матэрыял, якімі настаўніца будзе карыстацца, прапрацоўваючы гэту тэму.

Якую-ж мэту ставіла т. Фурман, калі ішла на гэты ўрок?

— Даць дасканала акрэслены аб'ём ведаў аб Днепрагэсе: геаграфічнае палажэнне электрастанцыі, прынцыпы пабудовы, значэнне яе індустрыялізацыі і абароны краіны; даць элементы антырэлігійнага і інтэрнацыянальнага выхавання на даным матэрыяле.

Уваходзім з настаўніцай у клас і адразу бачым, як клапатліва быў ёю падабраны дыдактычны матэрыял урока. На сцяне класнага пакою вісяць дзве геаграфічныя карты—адна карта СССР і другая—карта электрыфікацыі СССР. У пакладзенай на настаўніцкім стале папцы мы бачым шмат выразак малюнкаў з часопіса „СССР на стройке". Мы ўбачым далей, што настаўніцай былі падрыхтаваны і выкарыстаны і такія матэрыялы, як вытрымка з газеты „Ротэ-Фанэ" аб пуску Днепрагэса і некаторыя вершы, прысвечаныя Днепрабуду.

Тав. Фурман так майстэрскі праводзіць уступную гутарку, прысвечаную паўтарэнню прапрацаванага матэрыяла, што гэта паўтарэнне адначасова служыць падрыхтоўкай да сёнешняй тэмы. Гэта ўступная гутарка аб Урала-Кузнецкім камбінаце і гігантах хімічнай прамысловасці заняла роўна пяць хвілін, колькі і было прадугледжана ў канспекце.

Настаўніца не задавальняецца правільнымі адказамі дзяцей, яна жадае яшчэ ўпэўніца, ці ведае вучань геаграфічную карту. Выкліканы вучань хутка і правільна паказвае на карце гарады Урала-Кузнецкага камбіната. Далей настаўніца шляхам пытальна-апроснага метада ўспамінае з дзяцьмі гіганты хімічнай прамысловасці, пабудаваныя за першую пяцігодку.

Вучні ведаюць не толькі што такое Бобрыкі і Беразнікі, але без памылак адказваюць, якой сыравіннай базай карыстаюцца гэтыя волаты хімічнай прамысловасці.

— Ну, а што патрэбна для таго, каб гэтыя гіганты працавалі?

Вучань адказвае: трэба мець энергію, якая-б рухала машыны і варштаты гэтых гігантаў. Нам патрэбны электрастанцыі і мы будуем шмат электрастанцый,—дадае хлопчык.

Настаўніца вельмі ўдала і проста падкрэслівае ролю Владзіміра Ільіча Леніна, як ініцыятара электрыфікацыі Совецкага Саюза. Вучні ведаюць, што па загаду В. І. Леніна была ў 1921 годзе створана камісія, якая распрацавала першы план электрыфікацыі РСФСР, і што гэты план пачаў ажыццяўляцца яшчэ пры жыцці Леніна.

Пасля гэтага перахода да тэмы ўрока, т. Фурман коратка і выразна знаёміць дзяцей з мэтавай устаноўкай апошняга.

— Сёння мы будзем з вамі знаёміцца з адной з велізарнейшых нашых пабудоў—з Днепрагэсам. Сама назва „Днепрагэс“ (настаўніца пры гэтым расшыфроўвае з вучнямі слова Днепрагэс) гаворыць аб тым, што гэта электрастанцыя знаходзіцца на р. Днепр.

Паказваючы на карце гэту раку і месцазнаходжанне Днепрагэса, настаўніца ў даступнай дзецям форме тлумачыць не толькі праз якія рэспублікі працякае Днепр, але і тое, што ў ніжнім цячэнні ракі мы маем раёны, багатыя рознымі выкапнямі: каменным вугалем, жалезнай рудой, марганцам, алюмініевай глінай.

Далей настаўніца коратка, але ярка спыняецца на гісторыі дняпроўскіх парогаў. Тут у даступнай дзіцячаму разуменню форме і даюцца вучням элементы антырэлігійнага выхавання. Дзецям становіцца нават смешна, што іх далёкія продкі вельмі пужаліся дняпроўскіх парогаў і адзін з хлопчыкаў нават кажа:—Лодкі разбіваліся аб парогі ад вельмі хуткага цячэння, людзі думалі тады, што гэта губіць іх нейкая таемная сіла...

— Раней пры царох у Расіі таксама думалі пабудаваць плаціну і электрастанцыю, рабілі нават і праекты, але электрастанцыя не была пабудавана. Настаўніца падрэслівае кантраст паміж „тады“ і „цяпер“, яна праводзіць яскравую думку, што „тады“ было немагчыма, але зараз рабочыя пад кіраўніцтвам большэвікоў і не такія цуды могуць зрабіць. Тут настаўніца дае дзецям упэўненасць у моцы пролетарскай рэволюцыі.

— Большэвікі ўзяліся моцна за справу. Мы пачалі будаваць Днепрагэс у 1927 годзе і пусцілі яе ў 1932 годзе. У далейшай гутарцы настаўніца ўвесь час карыстаецца радам малюнкаў Днепрагэса. Яна паказвае дзецям партрэты лепшых ударнікаў рабочых і інжынераў—будаўнікоў гэтага гіганта, потым вучні бачаць фотоздымкі плаціны, шлюза, электрастанцыі. У часе тлумачэння і паказу малюнкаў—самая напружаная ўвага дзетвары.

Паказваючы малюнак электрастанцыі, настаўніца растлумачвае дзецям:

— Вада падае з вялікай вышыні ўніз. Ад сілы падзення вады верцяцца турбіны, якія круцяць велізарныя машыны — генератары і апошнія выпрацоўваюць электрычнасць. Так атрымліваецца вялікая электрычная сіла...

Сваю гутарку т. Фурман ілюструе не толькі малюнкамі з часопіса „СССР на стройке“, яна прачытала дзецям невялічкія вершыкі пра Днепрабуд. У гэтых вершах адбіваецца момант, калі плаціна гатова, і вада залівае берагі. Жыхары з ахвотай аддаюць свае месцы, адчуваючы, што творыцца нешта нябачанае, вялікае і новае і разумеючы неабходнасць свайго перасялення.

Ітак, дзеці, велізарная станцыя пабудавана. Вада паднялася, заліла парогі. Іх больш не відаць, яны ўжо больш не страшны, і параходы

спакойна плаваюць там, дзе раней не было праходу для лодак. Вада завярцела турбіны і...

— Атрымаўся ток, які пабег па дротах,—перабілі вучні настаўніцу.

Пасля высвятлення з дзяцьмі пабудовы гіганта першай пяцігодкі, настаўніца пераходзіць да тлумачэння значэння Днепрагэса. Ток пайшоў, і зараз трэба і можна гаварыць аб тым, дзе яго выкарыстоўваюць для нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

— Зараз вас цікавіць, дзе выкарыстоўваецца ток Днепрагэса. Мы сёння з вамі, дзеці, гаварылі аб багацьцях і выкапнях у раёне электрастанцыі...

Пры гэтым настаўніца паказвае вучням карціну—схему, на якой у цэнтры малюнак электрастанцыі, ад якой ідуць дроты, а па баках намаляваны галоўнейшыя прадпрыемствы Днепракамбіната.

Вучні даведваюцца ад настаўніцы, што каля Днепрагэса пабудован цэлы рад велізарнейшых гігантаў—заводаў: металургічны завод, велізарнейшы алюмініевы завод і інш. Калі вучні даведваюцца, што электраэнергія Днепрагэса каштуе толькі 0,75 кап. за кіловатгадзіну, то ў класе раздаецца:

— Ого, як танна, а у нас у Менску кіловатгадзіна каштуе 20 кап...

Токам Днепрагэса рухаюцца машыны заводаў Днепракамбіната, пры дапамозе яго ў калгасах малоцяць зярно, ён запальвае электрычныя лампачкі ў хатах калгаснікаў, рака Дняпро стала суднаходнай. Растлумачвае настаўніца дзецям і тое, што Днепрагэс мае вялікае значэнне для абароны краіны. На заводзе гіганце з дапамогай электрычнасці мы вырабляем алюміній, які патрэбен для пабудовы самалётаў.

— А самалёты нам патрэбны для абароны нашай краіны,—бойка кажа адна дзяўчынка.

Настаўніца разам з вучнямі падагульняе прапрацаваны матэрыял і фармулюе з імі значэнне Днепрагэса.

Днепрагэс—электрычнае сэрца Совецкай Украіны, Днэпрагэс садзейнічае далейшай індустрыялізацыі не толькі Украіны, але і ўсяго Саюза ССР.

Пасля гэтага настаўніца вельмі ўдала і зусім правільна простай мовай пераходзіць да тлумачэння інтэрнацыянальнага значэння Днепрагэса.

— Не толькі рабочыя і калгаснікі краіны советаў радуюцца Днепрагэсу. Рабочыя капіталістычных краін разам з намі радаваліся, калі магутная электрастанцыя была ўрачыста адкрыта. Вось я вам прачытаю, што пісалася ў газеце „Ротэ фанэ“ (гэта газета комуністычнай партыі Германіі,—тлумачыць т. Фурман) з поваду адкрыцця Днепрагэса.

„Днепрагэс ёсць цвярдыня не толькі Совецкага Саюза, але рабочага класа ўсяго света. Гэта дасягненне нас бадзёрыць, нас радуе і дае нам смеласць у барацьбе з буржуазіяй“...

У заключэнне настаўніца прапрацаваны матэрыял звязвае з важнейшай палітычнай кампаніяй—зборам сродкаў на пазыку.

— А дзе мы ўзялі столькі грошай для пабудовы такіх волатаў індустрыі?—пытаецца настаўніца ў дзяцей.

— Рабочыя і працоўныя падпісваюцца на пазыку...

— І нашы грошы тут ёсць... Мы таксама падпісаліся на пазыку на 57 руб.,—раздаюцца галасы дзетвары.

— А колькі вы ўжо ўнеслі?

— 36 рублёў,—адказваюць дзеці,—але мы хутка ўнясем і астатнія,— упэўнена заяўляе чацвертая група.

* * *

Што добрага маем мы ў гэтым уроку т. Фурман?

Па-першае, план урока быў метадычна прадуманы і распрацаваны так, што кожная папярэдняя частка ўрока служыла падрыхтоўкай і пераходам да наступнай: гутарка непрыкметна пераходзіла ад аднаго этапа да другога.

Па-другое, жывая мова настаўніцы была выразнай і зразумелай, вучні поўнасцю адчувалі велізарнае значэнне Днепрагэса і глыбока перажывалі як труднасці пры пабудове электрастанцыі, так і радасць пры яе адкрыцці.

Па-трэцяе, урок быў багата аснашчон ілюстрацыйнымі матэрыяламі,—карты, малюнкі, вершы.

Па-чацвертае, урок быў прасякнут элементамі інтэрнацыянальнага і антырэлігійнага выхавання. Асабліва ўдалым быў момант чытання вытрымкі з „Ротэ фанэ“.

Рэзультаты ўрока ясны. Вучні атрымалі поўнасцю тыя веды, якія павінны былі набыць. Яны перажывалі ўсе моманты будаўніцтва Днепрагэс, пільна прыглядаліся да малюнкаў электрастанцыі і яе будаўнікоў. Вучні ўвесь час былі вельмі зацікаўлены прапрацоўваемым матэрыялам, прынялі самы актыўны ўдзел у прапрацоўцы апошняга і таму не дзіва, што на ўроку была ўзорная, сапраўды свядомая дысцыпліна.

На прыкладзе гэтага ўрока з поўнай яскравасцю пацвярджаецца, якую вялікую ролю адыгрывае арганізацыя педагагічнага працэса не толькі ў справе добрага ўсваення дзяцьмі „асноў навукі“, але і ў справе арганізацыі свядомай дысцыпліны ў групе. Сакрэт поспехаў тав. Фурман заключаецца ў добрасумленнай і прадуманай падрыхтоўцы да ўрока.

**Ад рэдакцыі**

Рэдакцыя просіць інструктароў-метадыстаў і загадчыкаў школ дасылаць у рэдакцыю матэрыял (канспекты і апісанні) аб лепшых узорных уроках.

*Г. Сагаловіч*

# Да пытання аб методыцы, навучанню радыяннаму меранню вуглоў і дуг

На першых занятках па матэматыцы ў ВНУ заўважаецца, што студэнты не зусім яскрава асмыслілі ў сярэдняй школе сутнасць радыяннага мерання вуглоў і дуг і не бачаць перавагі апошняй перад градусным мераннем у пытаннях тэорыі і практыкі. Між тым з неабходнасцю карыстацца радыянным мераннем вуглоў студэнты сустракаюцца ўжо на першых занятках па фізіцы, механіцы і матэматыцы.

Сярэдняя школа мае поўную магчымасць у III канцэнтры цалкам пазнаёміць вучняў з гэтым пытаннем і прывучыць іх асмысленна карыстацца радыянным мераннем вуглоў.

У гэтым невялікім артыкуле я хачу застанавіцца на методыцы распрацоўкі гэтага пытання ў школе. Яно можа быць прапрацавана ў наступнай паступовасці:

1) Азначэнне радыяна.

2) Меранне дуг радыянамі.

3) Пераход ад радыяннай меры дугі да градуснай і наадварот.

1. К гэтаму часу вучні ўжо ведаюць у чым сутнасць мерання дуг дугавымі градусамі, вуглоў—вуглавымі, разумеюць, што велічыня дугавога градуса залежыць ад радыуса дугі і таму велічыня яе—launcher пераменная, а велічыня вуглавога градуса—пастаянная: разумеюць сэнс фразы „цэнтральны вугал вымяраецца адпаведнай дугой“.

У пытаннях матэматыкі больш выгадна і такая сістэма мерання дуг, пры якой за меру дугі прымаецца аднашэнне даўжыні яе да радыуса, т. з. радыянная сістэма мерання дуг. Радыянная мера дугі, як рэзультат дзялення двух найменных лікаў (даўжыня дугі на даўжыню радыуса) ёсць лік абстрактны, а таму такія запісы, як:

$$\alpha^2;\ \alpha^3;\ \sqrt{\alpha};\ \sqrt[3]{\alpha};\ \alpha+1$$

$$\mathrm{Sin}\ \alpha^2;\ \mathrm{Sin}\ \alpha^3;\ \mathrm{Cosin}\ \sqrt{\alpha};\ \mathrm{tg}\ \sqrt[3]{\alpha};\ \mathrm{Sin}\ (\alpha+1),$$

якія не маюць месца пры градусным меранні вуглоў, маюць пэўнае месца пры радыянным; а трэба заўважыць, што ў фізіцы, механіцы, матэматыцы, мы вельмі часта сустракаемся з неабходнасцю аперыраваць з гэтымі велічынямі.

Радыянам мы называем цэнтральны вугал, даўжыня адпаведнай дугі, якая раўна радыусу. Вугал, у якога адпаведная дуга большая за радыус у 2, 3... $\pi$ раз, ёсць вугал 2, 3... $\pi$ радыянаў;

напрыклад, поўны вугал... мае $2\pi$ радыянаў.
разгорнуты вугал . . . . . . . . . $\pi$ радыянаў
Прасты вугал . . . . . . . . . . . . $\frac{\pi}{2}$ радыянаў
Вугал у 45° . . . . . . . . . . . . . $\frac{\pi}{4}$ радыянаў і г. д.

Варта звярнуць увагу вучняў на неправільнасць наступных запісаў:

$$360^\circ = 2\pi,$$
$$180^\circ = \pi$$
$$90^\circ = \frac{\pi}{2}$$

Замест таго, каб пісаць, што 360° роўна $2\pi$, мы пішам, што вуглу ў 360° адпавядае вугал у $2\pi$ радыянаў, або вуглу ў 90° адпавядае дуга ў $\frac{\pi}{2}$ радыянаў.

360° адпавядае $2\pi$
180° адпавядае $\pi$
90° адпавядае $\frac{\pi}{2}$
45° адпавядае $\frac{\pi}{4}$




Мал. 5.

2. Такім чынам, калі абазначым радыянную меру вугла праз $\varphi$, то:

$$\varphi = \frac{l}{R},$$

дзе $l$.... даўжыня дугі
$R$... радыус дугі,

а таму $l = R\varphi$.

Гэтая формула для вылічэння даўжыні дугі бязумоўна павінна быць засвоена вучнямі. Лічу карысным паказаць вучням, як яна выкарыстоўваецца пры развязванні задач.

Задача: Даны 2 канцэнтрычныя акружыны.

Пад якім вуглом $\varphi$ неабходна правесці радыусы $AO$ і $BO$, каб дуга $AB$ была роўна дузе $CD + AC + BD$.

Развязанне
$$R\varphi = r\varphi + 2(R - r)$$
$$R\varphi - r\varphi = 2(R - r)$$
$$\varphi(R - r) = 2(R - r)$$
$$\varphi = 2$$

Адказ: Пры вугле $\varphi$ у 2 радыяны дуга $AB$ будзе роўна дузе $CD$ плюс $(AC+DB)$.

Цікава заўважыць, што размеры радыусаў не маюць уплыва на рэзультат; у тым выпадку, калі радыус меншай акружыны роўны нулю, атрымліваем той самы адказ:

$$R\varphi = 2R$$
$$\varphi = 2$$

III. Толькі зараз вучні пачынаюць вучыцца пераходзіць ад радыяннай меры вугла да градуснай і наадварот. На гэтым пытанні лічу лішнім спыняцца, бо яно досыць падрабязна распрацавана ў нашых падручніках.

Варта прывучыць вучняў карыстацца наступнымі модулямі перахода пры выкананні вышэйназванай аперацыі, а менавіта: пры пераходзе ад градуснай меры дугі да радыяннай, неабходна лік градусаў вугла множыць на 0,01745, а лік мінут вугла на 0,00029, бо дуга адпавядаючая вуглу ў 1° мае $\frac{\pi}{180}$ радыянаў, што дае 0,01745 рад., а дуга адпавядаючая вуглу ў (1″) мае $\frac{\pi}{180 \cdot 60}$ радыянаў, што дае 0,00029 рад.

4. Урэшце спынімся на паняцці стэрэаметрычнага радыяна скарочана стэррадыяна.

Аналагічна таму, як радыян ёсць цэнтральны вугал, адпаведная дуга якога роўна радыусу стэррадыяннага, будзем называць такі цэнтральны вугал, адпаведная частка шырокай паверхні якога мае плошчу роўную $R^2$, а таму

$$\frac{S}{R^2} = \omega$$
$$S = R^2\omega,$$

дзе....$S$.. плошча часткі шаравой паверхні
$\omega$...цялесны вугал у стэррадыянах.

Заўважым, што ў пэўнай сферы маецца $4\pi$ стэррадыянаў, у палове яе...$2\pi$, стэррадыянаў і г. д.

*Трацэвіч і Мееровіч*

# Наглядныя формы ўліку соцспаборніцтва палепшылі якасць работы

Барацьба за высокую паспяховасць і свядомую дысцыпліну вучняў метадамі соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў нашай школе ў мінулым вучэбным годзе не дала належных вынікаў.

У пэўнай меры ў гэтым прарыве вінавата дрэнная пастаноўка ўліка соцспаборніцтва. Дагавор соцспаборніцтва паміж групамі не быў у дастатковай меры канкрэтным, не прымаліся пад увагу тыповыя рысы і прарывы данай групы. Адсутнічаў штодзённы ўлік выканання дагавора, змест якога праз кароткі тэрмін часу забывалі.

У пачатку бягучага вучэбнага года педкалектыў парашыў дамагчыся пераломy. І сёння можам канстатаваць: пералом маецца, дасягненні ў галіне барацьбы за паспяховасць і свядомую дысцыпліну несумненны. Якім-жа парадкам мы дамагаліся гэтага?

1. Мы перагледзелі змест дагавароў соцспаборніцтва, унеслі ў іх канкрэтныя пункты. Напрыклад, 6-я група брала на сябе абавязкі звесці да нуля спазненні, узяўшы на буксір 6 вучняў, што сістэматычна спазняліся (у дагаворы яны названы па прозвішчах).

2. Разгорнута індывідуальнае соцспаборніцтва па канкрэтных пунктах міжгрупавога соцдагавора.

3. Увялі наглядныя формы ўліка хода між групавога і індывідуальнага соцспаборніцтва: у кожнай групе маецца спецыяльная дошка ўліка соцспаборніцтва.

Гэта дошка зроблена такім парадкам:

| Прозвішча і імя | Дата | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | |

Унізе вызначаны ўмоўныя знакі.




Мал. 6.

Кожны член вучэбна-вытворчай брыгады фіксуе ў асобным сшытку паводзіны за дзень прымацаваных да яго 4-х чалавек групы. У канцы дня паказальнікі кожнага вучня заносяцца на даную дошку. Вучань, у час выканаўшы заданні на дом, адказаўшы здавальняюча пры апросе настаўнікам, не спазніўшыся, не маючы заўваг па сваіх паводзінах за даны дзень, атрымлівае ў адпаведнай графе, супроць свайго прозвішча поўнасцю чырвоны значок.

У выпадку аднаго якога-небудзь із'яна (прышоў без піонерскага гальштука, спазніўся, атрымаў „НЗД“, дысцыплінарнае спагнанне і г. д.) ён атрымлівае чырвоны значок з „із'янам“ па ўказаных вышэй умоўных адзнаках. Пры наяўнасці ў большасці адмоўных паказальнікаў, ён атрымлівае сіні значок. У канцы кожнага месяца падводзяцца вынікі. Вучань з пераважаючым сінім колерам рызыкуе аказацца ілжэ-ўдарнікам.

На гэтай-жа аснове фіксуецца і ход між групавога соцспаборніцтва.

У школе маецца агульна-школьная дошка ўліка, якая разграфавана такім парадкам:

| Дата | III група | IV група | V група | VI група | VII група |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

Кожная група мае свой дзённік, сшытак, які разграфаваны гэтак:

| Дата | Назва прадмета | Кольк. „нзд“ адказаў | Колькасць спазненняў | Колькасць заўваг | Лік невыкан. работ дома | Подпіс настаўніка |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Адзнака настаўніка, прымацаванага да вытворчага сектара | | |

Вучань, які спецыяльна вылучаны вучэбна-вытворчай брыгадай пэўнай групы, фіксуе паказальнікі данага дня. Пасля кожнай лекцыі ён падае сшытак настаўніку, які правёў даную лекцыю для фіксацыі паказальнікаў данай лекцыі. У канцы дня збіраюцца сшыткі-дзённікі ўсіх груп і даецца ацэнка кожнай з іх.

Тая група, у якой за дзень усё прайшло добра, г. зн.—няма заўваг, няма спазненняў, усе выканалі заданні на дом, няма „НЗД“ адказаў і г. д., атрымлівае чырвоны кружок. Пры наяўнасці якога-небудзь із'яна група атрымлівае адпаведную адзнаку:



Мал. 7.

Ацэнку робіць настаўнік, прымацаваны да вытворчага сектара учкома (у нашых умовах гэта загадчык вучэбнай часткай). Гэтыя-ж паказальнікі адзначаюцца на агульна-школьнай дошцы соцспаборніцтва адпаведным кружком. Кожная група, кожны вучань уцягнуты ў справу ўліка соцспаборніцтва, усе змагаюцца за перавагу чырвоных кружочкаў. Вынікі такавы: працаздольнасць, паспяховасць, дысцыплінаванасць 7-й групы значна павысілася, кожны вучань сочыць за парадкам і арганізаванасцю сваіх таварышоў.

У 6-й групе рад вучняў, сістэматычна спазняўшыхся, (Беркман, Бацвінік, Копчыц) выправіліся, падцягнуліся.

5-я група, найбольш недысцыплінаваная ў нашай школе, падцягнулася і за апошні месяц дае куды меншы лік адмоўных ацэнак.

У барацьбе за першае месца дзеці праявілі ініцыятыву, арганізавалі ўзорныя лекцыі-дні. Узорныя яны былі і па дысцыпліне і па адказах вучняў.

Вучні моцна рэагуюць на атрыманне адмоўных ацэнак. Кожны з іх з нецярплівасцю сочыць за з'яўленнем кружочкаў на дошцы, глядзіць, на якім месцы ідзе сёння яго група, які яна атрымлівае значок. Адчуваецца калектыўная адказнасць за ўвесь клас у цэлым, за кожнага вучня паасобку.

Дзеці дапамагаюць адстаючым у вучобе з мэтай ліквідацыі „НЗД“. Напрыклад, вучань 7-й групы Дун дапамагае Каждану, вучні 6-й групы Лётарштэйн і Касінская дапамагаюць Гольдману, Шапіру і г. д.

Грамадская работа кожнага вучня ўлічваецца ў канцы кожнага месяца. Вывешваюцца зводкі ходу рэалізацыі пазыкі. Але трэба сказаць, што ў гэтым напрамку ў нас яшчэ не ўсё зроблена, яшчэ не знойдзены формы ўвязкі ўліка грамадскай работы вучняў і груп з усёй астатняй працай.

*М. Калінічэнка*

# Методыка правядзення экскурсіі ў прыроду

## Значэнне экскурсіі ў праграмна-навучальнай рабоце школы

Совецкая палітэхнічная школа павінна знаходзіцца ў цеснай сувязі з грамадска-палітычным жыццём свайго раёна і вытворчым акружэннем. Ведаць вытворчае акружэнне, флору і фауну сваёй мясцовасці,—адна з істотных задач школы.

Ажыццяўленню гэтай задачы садзейнічае ў значнай ступені экскурсія. Экскурсія, як актыўны метад, падводзіць вучня да вывучэння рэчаіснасці, з'яўляецца вялікім адукацыйна-выхаваўчым сродкам. Экскурсія, як і іншыя метады, якія ўжывае настаўнік, павінна быць падпарадкавана вучэбным і выхаваўчым мэтам школы.

Экскурсія дае вучням ілюстрацыю, жывы паказ прадметаў і з'яў у іх жывой і рэальнай сапраўднасці.

Экскурсіі павінны быць настаўнікам прадугледжаны пры планаванні работы на год, чверць, а таксама, больш падрабязнага—у канспекце. Задача настаўніка пры складанні плана намеціць мінімум экскурсій, неабходных для большай эфектыўнасці вучэбна-выхаваўчай работы школы. Тэматыка і выбар экскурсій залежыць ад праграмы, але трэба ўважліва аднесціся да планавання экскурсіі.

У практыцы школ маюць прымяненне экскурсіі вытворчыя, біялагічныя, геаграфічныя і г. д. Кожная такая экскурсія павінна ў мэтах яе большай прадукцыйнасці і зацікаўленасці вучняў мець акрэсленую канкрэтную задачу. Дзеці павінны ведаць, куды і зачым яны ідуць. Пагэтаму настаўніку трэба ў папярэдняй гутарцы давесці да дзяцей мэту экскурсіі, улічваючы развіццё, узрост, ад якіх у значнай ступені залежыць характар экскурсіі. У першай і другой групах экскурсія носіць агульны характар. Задача яе заключаецца ў пашырэнні кола ўяўленняў дзяцей і развіцці іх наглядальнасці. У больш старэйшых групах экскурсія мае характар глыбокага азнаямлення і вывучэння з'явы.

Вельмі многае залежыць ад кіраўніка экскурсіі. Ён павінен добра аўладаць тэхнікай і методыкай правядзення экскурсіі, патрабуе добрай арганізацыі і падрыхтоўкі.

Усякая экскурсія падзяляецца на тры паслядоўныя моманты альбо этапы, працягласць якіх можа змяняцца ў залежнасці ад задач экскурсіі, месца яе ў прадмеце, ступені складанасці і матэрыяла яе. Гэтыя этапы наступныя: 1) падрыхтоўка экскурсіі; 2) правядзенне самой экскурсіі і 3) падагульненне экскурсіі.

Падрыхтоўка да экскурсіі ўключае ў сябе два моманты: 1) падрыхтоўку самога настаўніка і 2) падрыхтоўку вучняў да экскурсіі.

Падрыхтоўка настаўніка да экскурсіі павінна пачынацца з выбара месца экскурсіі, якое вызначаецца зместам праграм і задачамі экскурсіі, з улікам узроста, ведаў і звычак.

Пункты экскурсіі для малодшага ўзроста не трэба браць далёкія (у Менску, Віцебску можна выкарыстаць трамвай). Калі настаўнік выбраў месца экскурсіі, ён павінен сам абследаваць той участак, куды павядзе дзяцей на экскурсію, як напр. лес, парк, сад і г. д. Настаўнік абавязан дэтальна ведаць матэрыял экскурсіі, а таксама пазнаёміцца з адпаведнай літаратурай. Пры адборы матэрыяла і складанні плана экскурсіі ў лес неабходна прыняць пад увагу ступень складанасці вывучэння лесу і яго аб'ектаў.

Наступны момант работы настаўніка—устанавіць прыёмы работы на экскурсіі. Яны могуць быць розныя: вучань разглядае прадмет, слухае, бярэ на вошчуп і г. д.

**Роль настаўніка на экскурсіі.** Настаўнік вызначае форму арганізацыі работы, якая можа быць франтальнай, звеннявой і індывідуальнай. Усе іншыя формы павінны дапоўніць друг друга.

Пытанне аб правільным абсталяванні экскурсіі з'яўляецца важнай умовай поспеха правядзення экскурсіі Характар абсталявання экскурсіі залежыць ад яе спецыяльнай мэты (біалагічная, гістарычная і г. д.).

Прадметы абсталявання дзеляцца на дзве групы: 1) прадметы агульнага карыстання і 2) прадметы асабістага карыстання. Напр., пры экскурсіі ў лес рэчамі агульнага карыстання будуць: рулетка, вяроўка, бінокль, лупа, рыдлёўка, фотографічны апарат і інш. Прадметы асабістага карыстання: карандаш, папера, дошчачка на вяроўцы для падкладвання пад паперу ў час пісання, рысавання.

Настаўнік павінен дакладна ўстанавіць час на экскурсію. Веснавыя экскурсіі ў лес, парк лепш за ўсё праводзіць у апошнія гадзіны школьнага дня (1-я змена). А пры другой змене ў 1-й гадзіны.

Наступны момант першага этапа—гэта **падрыхтоўка дзяцей да экскурсіі.** Яна складаецца з двух частак: арганізацыйнай і вучэбнай.

Пасля таго, як настаўнік сам добра падрыхтаваўся да экскурсіі ён праводзіць падрыхтоўку вучняў. Настаўнік папярэджвае вучняў за дзень, што заўтра будзе экскурсія ў лес, парк, каб яны падрыхтавалі абутак, захапілі яду і г. д. У гутарцы перад экскурсіяй настаўнік даводзіць да вучняў мэтавую ўстаноўку экскурсіі. Дзеці павінны ведаць куды і зачым ідуць, на што асабліва звярнуць увагу, што і як рабіць у час экскурсіі. Пытанні экскурсіі фармулююцца і запісваюцца брыгадзірамі і вучнямі.

Другая частка—арганізацыйная: як будзем вывучаць лес? Тут мы маем моманты франтальнай работы, а таксама і разбіўку матэрыяла на часткі, якая даручаецца пэўнай групе ў 3—5 чалавек—брыгадзе ці звяну. Разбіўка дзяцей на групкі, брыгады робіцца па погляду настаўніка. Кожны вучань абавязан ведаць сваю групу, заданне, якое павінна выканаць уся група і ён у прыватнасці. Настаўнік размяркоўвае абсталяванне па характару задання збору матэрыяла той ці іншай групкай.

Другім важным арганізацыйным мерапрыемствам з'яўляецца дысцыпліна. Ад дысцыплінаванасці групы залежыць поспех экскурсіі. Перад выхадам даецца дзецям правіла вулічнай хадзьбы, трэба праверыць як засвоілі яны гэтыя правілы. Без дазволу настаўніка ад экскурсіі адлучацца нікуды нельга. Дысцыплінаванасці патрабуе кожная экскурсія, у лес, на вадаём і г. д. Шум, неарганізаванасць, смех, крык пужае насельнікаў пруда, леса і г. д.

**Правядзенне самой экскурсіі.** Правядзенне самой экскурсіі змяшчае ў сабе некалькі элементаў. Перш за ўсё гэта роль кіраўніка, якая як было ўжо сказана, з'яўляецца вядучай. Экскурсія можа праводзіцца франтальна, альбо брыгадна. Гэтыя формы злучаюцца. Спачатку як

установачныя—франтальна, сярэдзіна асобнымі брыгадамі, а канец яе робіцца ўсёй групай.

Роль настаўніка зводзіцца да развіцця самадзейнасці вучняў, арганізацыя імі наглядданняў, гутаркі. Разам з гэтым ён ні на адну мінуту не ўпускае асноўнага плана экскурсіі і г. д. Настаўнік кіруе наглядданнямі, дае тлумачэнні, рэгуліруе паводзіны дзяцей на экскурсіі.

Апрача гэтага ён павінен даць неабходныя тэхнічныя прыёмы пры нагляданні (напр. „як трымаць сачок, альбо выкапаць расліну", „знайсці насякомае...").

З прыёмаў збірання матэрыяла і наглядання—ператварэння іх у звычкі. На падставе агульнага кіраўніцтва, індывідуальнай дзейнасці асобнай групы ці вучня, будусцца выпаўненне калектыўнай задачы ўсей групай—збор match матэрыяла, а таксама фотографічнай мясцовасці і зарысоўкі вучнямі найбольш цікавых аб'ектаў (дрэў, птушак і г. д.). Набраўшы цікавыя аб'екты (раслін, кветак, корневішчы і інш.) арганізавана вяртаемся ў школу.

Трэці і апошні этап экскурсіі адбываецца ў класе. Разглядаецца і класіфікуецца матэрыял, які сабран у час экскурсіі, праводзіцца абмен уражаннямі, запісамі і малюнкамі групак ці брыгад пад кіраўніцтвам настаўніка. Паўтарэнне матэрыяла прымае характар гутаркі, асноўныя вывады якой заносяцца ў сшыткі, і, урэшце, выяўляюцца асобныя пытанні, якія патрабуюць расследвання, самастойнай работы вучня (ікра жабы, расліны леса, почкі дрэў, птушкі і г. д.).

Магчымы самыя розныя віды прапрацоўкі экскурсіі—канечная мэта гэта сістэматызаваць веды, паглыбіць і дапоўніць іх.

Асноўнай умовай поспеху экскурсіі з'яўляецца ўзброенасць настаўніка методыкай вядзення экскурсіі і аўладанне фактычным матэрыялам. Настаўнік павінен ведаць больш вучня,—гэта азначае, што трэба карыстацца не падручнікам, для другой групы, а ўзяць курс заалогіі. батанікі і добра ўявіць увесь матэрыял, які належыць здабыць на экскурсіі. Шляхам кансультацыі ў пед. габінеце, узорнай школе настаўнік можа ўзброіць неабходнымі ведамі, методыкай правядзення экскурсіі.

## ПРЫКЛАДНАЯ РАСПРАЦОЎКА ЭКСКУРСІІ

*2-га года навучання да тэмы „Лес увесну" (гл. праграму І канц. стар. 27)*

На прапрацоўку тэмы „Лес увесну" у праграме даецца 9 гадз. Змест гэтай тэмы па свайму сезоннаму характару можа прыпадаць на канец трэцяга перыяда і пачатак чацвертага—гэта з 20-25-га красавіка да 5—10 мая. З'явы гэтага перыяда: зацвітанне мацьмачахі, у вадаёмах аглядваюць ікру жабы. Развіццё почак, агульнае пазеляненне леса.

Мэта гэтай тэмы патрабуе азнаямлення вучняў: 1) з важнейшымі мясцовымі пародамі дрэў і хмызнякоў (сасна, бяроза, ліпа, ёлка, клён, арэшнік, бузіна і г. д.). 2) Віды леса: хваёвы, лісцёвы, мешаны. 3) Распусканне почак на дрэвах, іх паслядоўнасць. 4) Расліны—першыя кветкі (мацьмачаха, хахлатка, мядуніца, пралеска, фіялка—іх карневішчы). 5) Насякомыя леса (шкодныя і карысныя). 6) Птушкі (грак, жаўранак, шпак; іх будова, апярэнні, форма).

Змест тэмы патрабуе канкрэтнага ўяўлення гэтых з'яў у самой прыродзе пры дапамозе экскурсіі ў прыроду.

Змест гэтай тэмы патрабуе 2-х экскурсій: у пачатку і сярэдзіне тэмы. Па часу—першая 20—25 красавіка, а другая—1—10 мая.

Пункт экскурсіі—гэта лес, парк. У Менску добра ў маі месяцы правесці экскурсію ў Сляпянскі лес, Камароўскі (выкарыстаўшы трамвай). У самым Менску—парк—трэк (але ён не заменіць леса).

Настаўнік папярэдне сам, альбо групай педагогаў з прыродаведам старшых груп, праводзіць экскурсію і знаёміцца з аб'ектамі па плану. Тут яшчэ можна скарыстаць літаратуру па птушках, дрэвах, насякомых, раслінах.

Пасля гэтай падрыхтоўкі настаўнік складае канкрэтны план, маршрут гэтай экскурсіі.

Так, напрыклад: **І. Дрэва леса:** 1) Якія пароды дрэў растуць у лесе? 2) Чысты ці мешаны лес? 3) Параўнайце сосны ці бярозы ў лесе з гэтымі дрэвамі на адкрытых месцах, якая паміж імі розніца. Чаму такая розніца? (Уплыў святла, глебы, гушчыня). 4) Якія хмызнякі растуць у лесе (бузіна, арэшнік і інш.). 5) На якой глебе расце гэты лес? 6) Панаглядайце за развіццём почак на дрэвах. Збярыце калекцыю галінак. 7) Што знаходзіцца пад дрэвамі леса на зямлі? Пашукайце, можа што знойдзеце: плады, парасткі клёна, жолудаў.

**II. Расліны** (першыя кветкі). 1) Знайдзіце цвітучыя расліны. Заўважце дзе яны растуць. Выкапайце іх саўком альбо лапаткай з коранем; 2) падзяліце іх на знаёмыя і незнаёмыя; 3) адзначце, якія часта сустракаюцца, якія рэдка. 4) Якія расліны сустрэліся на краі леса, а якія ў самым лесе.

**III. Насякомыя.** 1) Якія насякомыя лятаюць каля цвятучых раслін, дрэў. 2) Пашукайце пад карой дрэў жукоў. Збярыце іх з карой. 3) Знайдзіце на кары дрэў матылёў, жукоў, параўнайце іх з афарбоўкай дрэва. 4) Знайдзіце чырвоную кароўку (7 чорных кропак на крылейках), паглядзіце, што яна робіць.

**IV. Птушкі.** 1) Якія птушкі зімуючыя, а якія прыляцелі? (у паслядоўнасці). 2) Звярніце ўвагу на велічыню, на асобныя прыметы (грак—на носе белая палоска), апярэнні, форму дзюбы, хваста, паводкі і голас. 3) Дзе бачылі, што рабілі? 4) Зарысуйце птушак, якіх наглядалі.

Усе іншыя аб'екты патрабуюць абсталявання, напр. рыдлёўку, альбо савок для выкопвання раслін, палку даўжынёй метры 2 з загнутым цвіком на канцы (для нахілення галінак дрэў. Перачынны нож для зрэзвання галінак (нож павінен быць у настаўніка).—Папка велічынёй 45 на 50 *см* з укладзенымі аркушамі газетнай паперы для ўкладкі раслін. Каробкі, банкі шкляныя з коркам альбо марлей для заморвання насякомых, збору. Лупа--разгляд раслін цвятучых кветак, апрадзяліце колькі год дрэву на кольцам (на зрубах). Рулетка—вымерванне таўшчыні дрэва. Пінцэт—браць насякомае. Каранлаш, папера. Бінокль для разгляду птушак. Фотографічны апарат для здымкаў цікавых аб'ектаў.

**Падрыхтоўка дзяцей.** На першай лекцыі настаўнік праводзіць гутарку—папярэдне выяўляе. што дзеці ведаюць аб жыцці леса, якія пароды дрэў і хмызнякоў ведаюць у лесе (хваёвыя, лісцёвыя). Якія насякомыя, птушкі ў лесе, веснавыя кветкі і г. д. У гутарцы з дзецьмі выяўляецца, што аб гэтым можна даведацца на экскурсіі. Выпрацоўваецца план і запісваецца (гл. вышэйскладзены). Дзеці разбіваюцца на 4 групы. 1. Дрэвы. 2. Кветкі. 3. Насякомыя. 4. Птушкі. Запіс плана брыгадзірамі. Размеркаванне дапаможнікаў па характару заданння. Правілы дысцыпліна-ванасці. Арганізавана выходзім на экскурсію.

**Правядзенне экскурсіі.** Па дарозе да леса звяртаем увагу на палявыя работы. Вось мы на краі леса. Тут адзіночныя сосны, бярозы з пышнай кронай, нізка апушчанымі галінкамі. Ідзем далей. Разглядаем лес, пароды, знадворны выгляд (проба), будова ствала, размяшчэнне галінак, корні, цвіценне, хмызнякі—дзе яны растуць уніз е дрэў: арэшнік, бузіна і г. д. Як распаложаны галінкі, лісточкі. Глеба, на якой растуць расліны. Чаму дрэвы ў лесе маюць галінкі наверсе ствала, а якія на прасторы—пышныя і доўгія галіны, якія звісаюць да зямлі (адносіны да святла).

Якія кветкі ў лесе ёсць і дзе яны знаходзяцца, разглядаем корні. Чаму яны так рана зацвілі, выкарыстоўванне света (маць-мачаха, пралеска).

Насякомыя. Уважліва прыглядаемся да кары дрэў. Знаходзім бабачку. Шукаем пад карой дрэў. Знаходзім жука караеда, яго лічынку, разглядаем чэлюсці. Лічынка прагрызае кару і робіць хады. Сочым за ходам—знаходзім лічынку, кукалку і самага жука. Бярэм гэты матэрыял з карой для калекцыі. Вучні робяць вывад, што караед жыве за кошт дрэва—знішчае лес.

Далей ворагі гэтых шкоднікаў—птушкі. Прыглядаемся ўважліва (трэба, каб была цішыня ў гэты час). Вельмі добра ўжываць тэатральныя біноклі для разглядвання птушак (іх адзнакі, велічыню, апярэнне, хвост, дзюба, паводкі і г. д. гл. план задання). Пасля франтальнага агляду—вучні разыходзяцца з брыгадзірамі для наглядання і збору матэрыяла па сваім аб'ектам, зарысоўцы, запісу, якія робяцца самастойна. Настаўнік дапамагае той ці іншай групы, дае тлумачэнне, альбо ўжыванне рэчаў для збору матэрыялаў. Сабраўшы матэрыял, настаўнік збірае ўсю групу на палянцы ў сухім месцы і робіцца вывад аб экскурсіі. Ідзем дамоў (у час адпачынку трэба рабіць адпачынак).

**Прапрацоўка экскурсіі.** Усякая экскурсія павінна заканчвацца выніковай работай, якая мае мэтай падагуліць праробленае на экскурсіі. Гэта работа ўжо адбываецца ў класе. У выніку павінен быць матэрыял у кутку жывой прыроды: расліны высадзіць у скрынкі для назірання за імі, галінкі трэба паставіць у банку. Прарослае насенне клёна ў вазоны, насякомыя—калекцыя жука-караеда з яго лічынкай, кукалкай і карой, дзе яго знайшлі. Надпісы. Іншых насякомых трымаць у слоіку, пакрыўшы марлей, каб не ўляцелі. Дзеці ўважліва разглядаюць сабраны матэрыял. Зарысоўваюць, разбіраюць на парадку збора. Прапрацоўку матэрыяла рабіць па распрацаванаму плану тэмы (**гл. ніжэй**). З прычыны абмежаванасці размеру артыкула нельга даць у раз-

торнутым выглядзе вывучэнне аб'ектаў. Іх настаўнік павінен знайсці ў літаратурным матэрыяле.

1) **Полянский** —„Сезонные явления природы".
2) **Покровский** —„Календарь природы".
3) **Кайгородов** —„Методические указания к использованию мира птиц, как экскурсионно-методического материала".
4) **Всесвятский**—„Весенние и летние экскурсии в природу".

Планаванне матэрыяла па ўсёй тэме ў часе можна размеркаваць так:

**1-ая гадзіна**. Папярэдняе выяўленне ведаў дзяцей аб жыцці леса, якія пароды дрэў і хмызнякоў растуць у лесе (хваёвыя, лісцевыя), якія насякомыя, птушкі ў лесе, веснавыя кветкі і г. д. Складанне плана экскурсіі ў прыроду.

**2-3-ая гадзіны** Экскурсія ў лес, парк. Асноўныя пароды і хмызнякі дрэў. Нагляданне за роспускам пачак дрэў, збор веснавых кветак. Нагляданне за насякомымі пад карой дрэў. Збор насякомых і сапсаваных раслін для жывога кутка. Нагляданні за птушкамі. Прапрацоўка экскурсіі.

**4-я гадзіна**. Дзеці адзначаюць, якія асноўныя пароды дрэў і хмызнякоў сустрэліся ў лесе, вызначаюць іх назву, зарысоўваюць і запісваюць іх характэрныя адзнакі. Складаюць калекцыі. Знаёмяцца з прынесенымі раслінамі, высажваюць у скрынкі, вазоны, на пришкольны ўчастак.

**5-6-гадзіны**. Дзеці запісваюць якіх птушак бачылі на экскурсіі. Якія з іх пералётныя, якія зімуючыя. Кароценька апісваюць іх велічыню, колер, форму дзюбы, хваста (дзятла, пішчухі), лап у каршуна. Дзеляцца нагляданнямі, праведзенымі за птушкамі. Выяўляюць карысць птушак. Далейшае нагляданне за птушкамі: будова гнёзд, вывад птушанят, кармёшка. Вывад: не разараць гнёзд, не ўбіваць з рагаткі. Рабіць шпакоўніцы, каб птушкі сяліліся і знішчалі ворагаў сада, леса.

**7-я гадзіна**. **Насякомыя леса**. Разбіраюць прынесены матэрыял з экскурсіі, упарадкоўваюць яго ў кутку жывой прыроды. Кароценькае апісанне, зарысоўкі насякомых і папсавання імі раслін лес . Калекцыя.

**8-я гадзіна. Грамадскае значэнне леса**. Гутарка аб выкарыстанні чалавекам леса. Уплыў навукі на вырашчванне добрага леса. Аб планавай вырэзцы леса. Ахова леса. Не разводзіць кастры ў лесе. Удзельнічаць у „Дні леса".

**9-я гадзіна**. Падагульненне ўсяго матэрыяла. Складанне наглядных табліц: 1) Наши хвойныя і лісцяныя дрэвы, Гербарыі раслін—першых кветак, насякомых і г. д.

Заданне на лета: прадаўжаць нагляданні за гэтымі аб'ектамі.

# За паспяховае правядзенне іспытаў

Праверачныя іспыты ў нашай Совецкай палітэхнічнай школе з'яўляючыся вычэрпальным, заключным гадавым вучотам ведаў вучняў, маюць велізарнае палітычнае значэнне. Яны павінны паказаць, як школа, увесь настаўніцкі і вучнёўскі калектыў па сапраўднаму змагаюцца за рэалізацыю пастаноў ЦК аб школе, за ліквідацыю „караннага“ недахопа школы. Іспыты ў нашай школе служаць магутным сродкам у справе аказання дапамогі вучням, падвышэння адказнасці вучняў за вучобу і адміністрацыйна-педагагічнага персанала за змест работы школы.

Поспех іспытаў у поўнай меры залежыць ад таго, на колькі ўся настаўніцкая маса і шырокая пролетарская грамадскасць зразумеюць значэнне іспытаў для школы, наколькі настаўнікі аўладаюць методыкай іх правядзення. Рашаючай умовай поспеха праверачных іспытаў было і застаецца—чулыя адносіны да вучняў, рашучая барацьба з усякімі спробамі ператварыць праверачныя іспыты ў экзамены старога тыпа з характэрнымі для іх зуброжкаю, натасканнем, запуганнем, трэціраваннем рэбят.

Трэба добра ўсвядоміць, што ў выніку ўсёй грамадскай работы школы, сувязі школы з акаляючай пролетарскай і калгаснай грамадскасцю, у выніку работы ўсёй шматмільённай дзіцячай комуністычнай арганізацыі, нашы вучні выраслі, актывізаваліся, змагаюцца за свядомую дысцыпліну. І таму кожны настаўнік, побач з прад'яўленнем да вучняў рада запатрабаванняў абавязан надзвычайна чула і ўважліва адносіцца да кожнага вучня паасобку, улічваючы яго індывідуальныя асаблівасці.

У падрыхтоўцы і правядзенні іспытаў у гэтым навуч. годзе мы абавязаны ўлічыць памылкі мінулага года, асобныя промахі, скажэнні правільнай лініі ў правядзенні іспытаў, каб папярэдзіць іх у гэтым годзе.

Асноўныя характэрныя памылкі і скажэнні ў правядзенні іспытаў мінулага года:

1. Недастаткова праведзена растлумачальная праца сярод вучняў, бацькоў і шырокай пролетарскай грамадскасці аб значэнні іспытаў, іх прынцыповага адрознівання ад экзаменаў старой школы і парадку правядзення іх, у выніку чаго грамадскасць, асабліва ў вясковых школах, прыймала вельмі слабы ўдзел ў правядзенні іспытаў.

2. У радзе раёнаў іспыты зводзіліся да экзаменаў старой школы, для правядзення іспытаў арганізоўваліся спецыяльныя камісіі, настаўнік у час іспытаў адыгрываў пасіўную роль, а іспыты вёў настаўнік другой групы, або прадстаўнік камісіі.

3. Меліся выпадкі шарахання ў адваротны бок: праверачныя іспыты праходзілі без удзела грамадскасці, нават без удзела прадстаўнікоў АНА, настаўніцтва, асабліва ў вясковых школах. Іспыты былі ператвораны ў звычайныя заняткі.

4. У паасобных школах не складаўся спецыяльны план правядзення іспытаў. Іспыты праводзілася па ранейшаму раскладу, па якому школа працавала на працягу года, у выніку чаго па некоторых дысцыплінах у вялікіх групах іспыты расцягваліся на дзве сямідзёнкі. У значнай частцы планы іспытаў былі недастаткова прадуманы, у час іспытаў у асобных школах мяняўся план.

5. Вызначаліся іспыты па адной дысцыпліне на працягу 4-х і больш гадзін падрад, праводзіліся іспыты ў дзень па 3-х дысцыплінах на працягу 6-ці гадз., вызначаліся іспыты ў адзін дзень пісьмовыя і вусныя па адной дысцыпліне (матэматыка і мова).

6. Да вучняў папярэдня даводзіліся кантрольныя пытанні, якія падрыхтаваны былі метод. аб'яднаннямі для настаўнікаў. Гэта прывяло да зуброжкі, натасківання дзяцей. Былі выпадкі, калі настаўнікі папярэдня рэпеціравалі вучняў, падрыхтоўваючы з імі адказы на кантрольныя пытанні.

7. Былі выяўлены факты змазвання, ачкаўцірацельства з боку настаўнікаў, жаданне паказаць перад прысутнічаючымі прадстаўнікам АНА, НКА, грамадскасцю толькі лепшых вучняў.

8. У час іспытаў у школах амаль спынілася ўся па-зашкольная выхаваўчая работа, зусім дрэнна працаваў насценны друк, вельмі слаба мабілізаваў вучнёўскую масу навакол іспытаў.

Каб не паўтараць памылак мінулага года, неабходна да іспытаў як след падрыхтавацца. Якасць правядзення іспытаў, чоткасць усёй работы школы ў гэты час залежыць у значнай ступені ад таго, наколькі дасканала, дэталёва спланіравана як уся падрыхтоўчая работа, таксама і работа ў час правядзення іспытаў. Загадчык школы сумесна з загадчыкам навуч. часткі распрацоўваюць падрабязны план усёй падрыхтоўчай работы да іспытаў і план правядзення іспытаў, у якім вызначаюць мерапрыемствы па рабоце з вучнямі, бацькамі, грамадскасцю. Уся падрыхтоўчая работа павінна быць закончана да 1-га мая.

Загадчык школы, які нясе персанальна поўную адказнасць на належную падрыхтоўку да іспытаў і правільную лінію ў правядзенні іх, павінен стала, дэталёва прапрацаваць інструкцыю аб іспытах з настаўнікамі, дабіцца дасканалага вывучэння і разумення яе кожным настаўнікам.

Інструкцыя павінна быць прапрацавана кожнаю школаю на школьным метод. бюро, на групавых метод. аб'яднаннях І-га канц., на цыклавых метод. аб'яднаннях ІІ-га канц., на канцэнтровых метадычных нарадах, а ў вясковых школах на сельметод. аб'яднаннях і куставых ці раённых цыклавых метод. аб'яднаннях настаўнікаў ІІ-га канц. Інструкцыю трэба прапрацоўваць, прымяняючы яе да кожнай дысцыпліны ці групы.

З практыкі мінулага года мы ведаем, што ў значнай частцы школ методыцы паўтарэння матэрыяла не ўдзялялася ніякай увагі. Настаўнікі зачастую прыходзілі на лекцыі ў час паўтарэння зусім не падрыхтаванымі, паўтарэнне праводзілася без усялякага плана бессістэмна, ставіліся выпадковыя пытанні не абагульняўся, не замацоўваўся праграмны матэрыял тых раздзелаў, якія былі слаба засвоены на працягу года, вось чаму метадычныя аб'яднанні (школьныя, вясковыя

гарадскія) асабліва ўважліва з улікам усіх дробязей павінны распрацаваць методыку паўтарэння матэрыяла, як для пачатковай школы, так і для ІІ-га канц., намеціць канкрэтна парадак паўтарэння.

Кожны настаўнік намячае, якія раздзелы пройдзенага праграмнага матэрыяла патрабуюць паўтарэння, гэта абмяркоўваецца на метод. аб'яднаннях. На кожнай лекцыі настаўнік адводзіць 10—15 мінут на паўтарэнне матэрыяла. Можна дапускаць паўтарэнне і на працягу цэлага дня, чаргуючы прапрацоўку бягучага праграмнага матэрыяла з паўтарэннем. Вучні абавязкова папярэдадні папярэджваюцца, якія раздзелы праграмы будуць паўтарацца, атрымоўваюць заданні. Настаўнік стала прадумвае і падрыхтоўвае пытанні для паўтарэння матэрыяла, намячае вучняў, якія павінны быць апрошаны. Паўтарэнне праграмнага матэрыяла павінна праходзіць на працягу ўсяго чацвертага квартала.

Інструкцыя аб іспытах абавязкова павінна быць даведзена да кожнага вучня. Кожны вучань па сваей групе разам з групавым вучнёўскім советам павінен прапрацаваць інструкцыю аб іспытах з вучнямі сваёй групы, дабіцца поўнага ўсведамлення кожным вучнем значэння і важнасці праверачных іспытаў, стварыць здаровы, бадзёры рабочы настрой у вучняў, мабілізаваць вучняў на барацьбу за якасць вучобы, за ліквідацыю адставання па асобным дысцыплінам па асобным раздзелам праграмнага матэрыяла. Па кожнай групе трэба арганізаваць штодзённую сістэматычную дапамогу адстаючым вучням шляхам арганізацыі рэпецітарскіх груп пад кіраўніцтвам настаўнікаў, прыцягнуць да гэтай работы асобных падрыхтаваных бацькоў вучняў. Пры арганізацыі рэпецітарскіх груп трэба ўчытваць індывідуальна кожнага вучня. Неабходна забяспечваць дапамогу кожнаму вучню, прымаючы пад увагу яго адставанне па той ці іншай дысцыпліне. Прымацаванне моцных вучняў да слабых ні ў якім разе не павінна падмяняць сабой работу рэпецітарскіх груп, якія працуюць абавязкова пад кіраўніцтвам настаўніка. Нельга ператвараць вучняў у памоцнікаў, намеснікаў настаўнікаў. Прымацаваныя вучні дапамагаюць сваім таварышам штодзённа рыхтавацца да лекцыі, лепш, грунтоўней прапрацоўваць матэрыял.

У сувязі з тым, што ў апошнюю чверць асабліва напружаная работа, дзецям прыходзіцца траціць шмат энергіі, школа павінна на гэты час палепшыць якасць харчавання вучняў. Неабходна правесці адпаведную работу з бацькамі вучняў, дабіцца, каб і дома бацькі таксама палепшылі харчаванне дзяцей. Загадчык школы, кожны настаўнік павінны пільна сачыць за тым, каб паўтарэнне і прапрацоўка праграмнага матэрыяла не выклікалі перагрузкі дзяцей. Рэжым школьнікаў у гэты час ні ў якім разе не павінен парушацца. Кожнай школе неабходна, на падставе загада НКАсветы т. Чэрнушэвіча аб урэгуліраванні нагрузкі вучняў актывістаў, пераглядзець нагрузку там, дзе яна яшчэ не перагледжана, не дапускаючы больш адной нагрузкі на вучня. Уся пазашкольная работа ў гэты час павінна быць падпарадкавана аздараўленню дзяцей, павінны праводзіцца мерапрыемствы аздараўленчага і ўвесяліцельнага характара.

Школьны насценны друк павінен рэгулярна працаваць, адбіваць ход падрыхтоўкі да іспытаў і ход самых іспытаў, мабілізуючы дзяцей на лепшае правядзенне іспытаў, выпраўляючы недахопы і памылкі на хаду.

Неабходна, каб бацькі ўсвядомілі значэнне іспытаў, каб не стварылі дома абстаноўкі, нервуючай, запугваючай дзяцей. Інструкцыя аб іспытах абавязкова павінна быць прапрацована на бацькоўскіх сходах, па

групах, дзе дэталёва абмяркоўваюцца канкрэтныя мерапрыемствы па аказанню дапамогі з боку бацькоў як школе, так і кожнаму вучню паасобку, неабходна забяспечыць удзел бацькоў у самых іспытах, намеціць бацькоў, якія павінны будуць удзельнічаюць у іспытах, уключыўшы іх наведванне ў каляндарны план правядзення іспытаў.

Пытанне аб іспытах неабходна прапрацаваць на прадпрыемствах, у соўгасах і калгасах, да якіх прымацаваны школы, выкарыстаць гэтую справу для таго, каб дабіцца ўключэння іх ва Ўсесаюзнае соц. спаборніцтва шэфаў палітэхнічнай школы, асабліва ў галіне ўдзела ў правядзенні праверачных іспытаў.

Загадчык школы складае агульны план правядзення іспытаў, у якім прадугледжвае ўсе мерапрыемствы па падрыхтоўцы да іспытаў, точна вызначае колькасць гадзін, адведзеных на іспыты па кожнай дысцыпліне, у кожнай групе, затым складаецца каляндарны расклад самых іспытаў, точна падтрымліваючыся інструкцыі, з улікам асноўных педагагічных патрабаванняў, указаных у інструкцыі.

У дзень праводзіцца толькі адзін іспыт—пісьмовы ці вусны. З боку паасобных школ ёсць няправільнае разуменне ўвагі да 28-га пункта інструкцыі. Там гаворыцца аб тым, што іспыт, які-бы ён не быў— вусным ці пісьмовым,—павінен заканчывацца ў адзін дзень. Ні ў якім разе нельга дапускаць двух іспытаў ў адзін дзень. Зусім няправільная тэндэнцыя асобных школ, як напрыклад Крупскай узорнай ШКМ, намячаць у адзін дзень правядзення іспытаў цалкам па дысцыпліне— пісьмовы і вусны (матэматыка, мова). Для іспытаў па матэматыцы ў другім канцэнтры групу прыдзецца дзяліць за дзве часткі. На іспыты адвесці 4 гадзіны і праводзіць іспыты разам па алгебры і геаметрыі. Дысцыпліны, па якім не праводзяцца іспыты, абавязкова павінны ўключацца ў план правядзення іспытаў і па іх праводзяцца звычайныя заняткі. Пісьмовыя кантрольныя работы па рускай мове даюцца ў 4-х, 5, 6, 7, 8 і 9-х групах беларускіх школ, у 5-х, 6, 7, 8 і 9-х групах нацыянальных школ у такім-жа выглядзе і ў тым-жа парадку, як па роднай ці беларускай мове.

Падрыхтоўка і прапрацоўка усіх матэрыялаў да іспытаў павінна праводзіцца ў поўнай адпаведнасці з інструкцыяй. Надзвычайна вялікая задача ў гэты перыяд ускладаецца на ўсе метадычныя аб'яднанні (школьныя, с/савецкія, гарадскія і раённыя). Аддзелы Народнай асветы павінны забяспечыць планавую сістэматычную работу метадычных аб'яднанняў па прапрацоўцы ўсяго матэрыяла да іспытаў, забяспечыць кансультацыю і дапамогу найбольш слабым, некваліфікаваным настаўнікам.

Асаблівую ролю ў падрыхтоўцы да іспытаў і ў час самых іспытаў павінна адыграць узорная школа. Яе задача даць сапраўдны ўзор лепшай арганізацыі падрыхтоўкі і правядзення іспытаў, дапамагчы масаваму настаўніку кансультацыяй і практычнымі матэрыяламі (тэксты кантрольных пісьмовых работ па мовам, задачы, пытальнікі па ўсім дысцыплінам).

Вучні загадзя павінны ведаць аб асноўных пытаннях, аб плане, аб схеме таго, што будзе патрабавацца ў час іспытаў ад вучняў па кожнай дысцыпліне, але ні ў якім разе нельга даводзіць да вучняў кантрольных пытанняў, па якім іх будзе апытваць настаўнік.

Кантрольныя пытанні распрацоўваюцца ў гарадскіх школах кожнаю ФЗС, а ў вясковых школах ШКМ ці пачатковай школай, калі склад настаўніцтва гэтых адпавядае запатрабаванням, указаным у інструкцыі. Калі склад настаўнікаў ШКМ ці пачатковай школы некваліфікаваны, то школа скарыстоўвае кантрольныя пытанні, складзеныя

ўзорнаю школаю ці другою ШКМ. Кантрольныя пытанні абавязкова абмяркоўваюцца на метадычных аб'яднаннях, якія папярэдня павінны даць устаноўку, як складаць кантрольныя пытанні, а затым прапрацаваць складзеныя кантрольныя пытанні і даць указанні настаўнікам як кожнаму выкарыстоўваць іх ва ўмовах сваёй школы, дапасоўваючы да кожнага вучня і ўлічваючы асаблівасці сваёй школы.

Кантрольныя пытанні па кожнай дысцыпліне павінны ахапляць сабою асноўныя пытанні праграмнага матэрыяла, а не з'яўляцца шпаргалкамі, па якім проста натасківаюць вучняў. Пытанні павінны ахапляць увесь пройдзены матэрыял. Неабходна пэўная сістэма ў распалажэнні пытанняў, якая-б забяспечыла-б логіку курса. Пытанні павінны быць яснымі, точнымі, невыклікаючымі двухсенсоўнага тлумачэння, нармуліроўка пытанняў павінна быць такая, каб адказы былі лагічна фармуляваны і связна пабудаваны. Род пытанняў павінен быць звязан з практычнымі заданнямі, напрыклад: пры іспытах па фізыцы вучні, фармулюючы закон, прымяняюць яго пры рашэнні задач, пры пастаноўцы вопытаў. Педагог павінен намеціць пытанні для кожнага вучня з улікам яго асаблівасцей, галоўным чынам з тых раздзелаў, якія гэтым вучнем слабей прапрацаваны. Пытанні вучням на іспытах ставяцца па сістэме курса, у парадку паслядоўнасці ізлажэння праграмнага матэрыяла. Трэба каб у час іспытаў быў паўторан увесь прапрацаваны праграмны матэрыял. Іспыты павінны прывесці ў сістэму веды вучняў па данай дысцыпліне. Ні адно пытанне, пастаўленае настаўнікам, не павінна застацца без адказа. У выпадку затруднення вучня пры адказе, настаўнік можа звярнуцца да любога вучня, у тым ліку і апрошанага. У вогуле можна дапускаць пытанні апрошанаму вучню з іншых раздзелаў з тым, каб высветліць дасканала яго веды акрамя таго раздзела, па якім яго апрашвалі. Усе вучні абавязкова застаюцца ў групе да сканчэння іспыта.

Трэба дасканала прадумаць абсталяванне заняткаў у час іспытаў дыдактычным матэрыялам па кожнай дысцыпліне, прыкладна: на іспытах па геаграфіі павінны быць карты, глобус, табліцы; на іспытах па фізіцы—табліцы, прылады, інструманты і г. д.

Настаўнік павінен устанавіць час для апроса кожнага вучня, выходзячы з таго, прыкладна, разліка—5 мін. для вучня І-га канц. і 10 мін. для вучня ІІ-га канц.

Яшчэ раз папярэджваючы, што іспыты не павінны быць ператвораны ў экзамены старога тыпа, разам з гэтым патрэбна прыняць усе меры да таго, каб іспыты не былі зведзены да звычайных заняткаў. Апрашваемы вучань абавязкова выклікаецца да дошкі, карты, табліц, картаграм па такім дысцыплінам, як матэматыка, фізіка, прыродазнаўства, хімія, геаграфія, гісторыя, мова, па літаратуры апрашваемы вучань выклікаецца да стала. Гэтым папярэджваецца падсказванне, якое збівае і нервуе апрашваемага вучня. Ні ў якім разе нельга дапускаць падняцця вучнямі рук пры заданні пытання вучню ці ў тых выпадках, калі апрашваемы вучань затрудняецца даць адказ на заданае пытанне. Гэта таксама нервуе вучняў, збівае іх.

Распрацоўка інструкцыі, папярэдняе абмеркаванне прынцыпаў складання плана правядзення іспытаў паказвае, што адной з цяжкасцей з'яўляецца забеспячэнне на час іспытаў кожнай школы прадстаўнікамі АНА. Крупскі РайАНА мяркуе выйсці з гэтага становішча, скараціўшы заняткі ва ўзорных школах і ў адной з лепшых ШКМ. Такая лінія, безумоўна, няправільная. РайАНА не мае права скарачаць навучальны год ні па якім прычынам ні ў аднэй з школ. Забяспечыць прадстаўнікамі АНА кожную пачатковую школу патрэбна і мажліва

за кошт лепшых падрыхтаваных настаўнікаў ШКМ, РайАНА павінен скласці спіс гэтых настаўнікаў, устанавіць колькі дзён ён павінен удзяліць масавай школе ў час іспытаў, давесці гэта да загадчыка ШКМ, які абавязан пры складанні плана іспытаў па сваёй школе ўлічыць гэта і даць мажлівасць гэтаму настаўніку мець вольныя дні па сваёй школе. Для кожнай ШКМ ці ФЗС у якасці прадстаўнікоў АНА пасылае інструктароў-метадыстаў, прадстаўнікоў Саюза, Райкома комсамола і асобных настаўнікаў узорнай школы. Кожная ШКМ абавязана забяспечыць сваім прадстаўніцтвам у час іспытаў 4-ыя групы тых пачатковых школ, вучні якіх у наступным навучальным годзе пяройдуць у гэтую ШКМ.

Іспыты ў 4-й і 7-й (выпускных) групах праводзяцца па курсу данай групы. Нельга дапускаць праверкі ведаў вучняў па ўсяму курсу за першы ці за другі канцэнтр.

Загадчык школы да іспытаў праз школьнага ўрача павінен даскanала высветліць усіх хворых вучняў, іспыты якіх пераносяцца на восень, а таксама тых слабых нервовых вучняў, добра паспяваючых, якія зусім вызваляюцца ад іспытаў.

Заняткі ў першай і другой групах заканчваюцца ў гарадской школе 20-га мая, а ў вясковай школе 1-га чэрвеня. У той час, калі ў 3-х і 4-х групах праводзяцца іспыты, у нулявых, першых і другіх групах праходзяць звычайныя заняткі, у час якіх праводзяцца паўтарэнне праграмнага матэрыяла ў парадку звычайных кантрольных работ.

Вынікі паспяховасці за 4-ты квартал абавязкова падводзяцца перад іспытамі. Ацэнка паспяховасці кожнага вучня за апошні квартал і гадавая ацэнка паспяховасці даводзіцца да кожнага вучня і паведамляецца бацькам. Ацэнка паспяховасці дзяцей у час іспытаў, ацэнка кантрольных пісьмовых работ (прынцыпы, крытэрый), патрабуюць спецыяльнага абмеркавання на метадычных аб'яднаннях. Усе дакументы, у якія заносіцца ацэнка паспяховасці вучняў у час іспытаў, павінны быць прыведзены ў парадак і захоўвацца ў школе. Таксама патрэбна захаваць усе пісьмовыя кантрольныя работы.

Пасля кожнага іспыта настаўнік інфармуе загадчыка школы аб выніках правядзення, іспытах па сваей дысцыпліне ці групе. Загадчык школы абавязан на хаду выпраўляць усе заўважаныя памылкі і недахопы, абмяркоўваць асобныя пытанні на кароткіх нарадах настаўнікаў.

Пасля правядзення іспытаў падводзяцца вынікі кожным настаўнікам па сваёй групе ў першым канцэнтры і па дысцыпліне ў другім канцэнтры. Групаводы, прымацаваныя да груп II-га канц., абагульняюць увесь матэрыял па сваёй групе, кожнаму вучню даецца ацэнка на падставе ацэнак па ўсім дысцыплінам. Вынікі іспытаў даводзяцца да вучняў, бацькоў вучняў. Бацькі паведамляюцца аб тым, па якіх дысцыплінах вучням іспыты пераносяцца на восень. Настаўнік па сваёй дысцыпліне абавязан даць кожнаму вучню, а таксама і яго бацькам падрабязнае ўказанне, як яму падрыхтавацца да асенніх іспытаў.

Загадчык РайАНА і загадчыкі школ павінны мабілізаваць усе сілы, правільна расставіць іх, забяспечыць удзел у іспытах шырокай пролетарскай грамадскасці і ўсю работу паставіць так, каб іспыты гэтага навуч. года правесці як сапраўдны заключны вычэрпальны вучот работы школы, правесці іспыты так, каб яны сапраўды былі формаю дзяржаўнага і грамадскага кантроля за работай кожнай школы і кожнага настаўніка паасобку.

*Лешчынскі, Баршчэўская, Бразоўская.*

# **Вопыт** ударнікаў **зрабіць** здабыткам **усёй асветніцкай масы**

*М Прудн́ікава*

Настаўніца - ударніца Гомельскай ФЗД імя Комінтэрна

## Выхаваць барцоў за комунізм

Я з'яўляюся брыгадзірам першых груп у школе імя „Комінтэрна". Брыгада мая складалася з 5 асоб, маладых настаўнікаў.

Мы паставілі сабе мэтай працаваць так, як ад нас патрабуе партыя і ўрад. Размеркавалі работу па падбору матэрыяла (па галінах). Умовіліся складаць падрабязны план, дзяліцца вопытам, вывучаць дзяцей і дапамагаць другім, вынікі сваёй работы выносіць на гарадское аб'яднанне. Падрабязнае абгаварэнне матэрыяла давала нам магчымасць больш быць падкаванымі, абгаварэнне кожнага ўрока дапамагала зьнішчаць недахопы, мы раслі і настойліва дабіваліся намечанай мэты.

Мы вывучаем асяроддзе дзяцей, прачыталі кожны па два даклады, як навучыць прыгожа і граматна пісаць, як займацца з адстаючымі, (як праводзіць перапынкі і г. д). Кожны метадычны ліст, навейшая літаратура не праходзіла міма нас. Мы працавалі дружна з нейкім асаблівым энтузіязмам, гэтым самым мы заражалі і іншых настаўнікаў.

Да кожнай канферэнцыі настаўнікаў я падрыхтоўваю планы, але не даю іх спісваць, самі разам распрацоўваем. Настаўнікі вясковых школ дзеляцца вопытам і цяжкасцямі ў рабоце, а па працоўнаму навучанню я ім паказваю, як з папяровага ўціля можна зрабіць многае... Расказваю, і паказваю, як правесці ўрок роднай мовы; настаўнік не ўмее прыгожа маляваць,—пакажу яму як выразкамі з газеты замяняць малюнкі. Да мяне на ўрок прыходзяць настаўнікі, я раблю ўзорную лекцыю, а потым уважліва слухаю заўвагі. Так мяняемся вопытам.

Урок роднай мовы (прысутнічала настаўніца Пірагова). Да ўрока падрыхтаваны два малюнкі, кніжка, кнопкі (тут на стале). Другі званок, кніжка на стар. 49 ляжыць разгорнутая (гэта брыгадзір вучэбнага сектара падрыхтаваў)—хатняе заданне... На гэта адведзена па плану 10 мінут, выклікаю 3—4 слабейшых вучняў, стаўлю ацэнку, якую зачытваю пасля ўрока.

Распрацоўваю новы матэрыял, як звычайна: чытаю сама, тлумачу незразумелыя словы, сказы, чытаюць вучні, расказваюць па пытаннях (10 мінут). Я задалася мэтай выкрыць спекуляцыю ворага па нашых цяжкасцях (харчовых і іншых) (камерцыйнага хлеба яшчэ не было ў нас у продажы).

— Чаму кулакі не любяць калгасаў? Чаму яны ўсё-ж-такі стараюцца пралезці ў калгас? Як можна выяўляць ворага Совецкай улады? А ці ёсць ворагі Совецкай улады ў нашым горадзе?.. Для вырашэння гэтых пытаннаў вывешваю 2 малюнкі з газет—1) рабочы за станком, 2)—„чарга за маслам“ (да чаргі падыходзіць нейкі дзядзька і спакойна заўважвае: „так раней не было, ніякай чаргі мы раней не ведалі і ўсяго было досыць“.

Мне не трэба доўга чакаць пытання, бо дзеці адразу засыпаюць імі: „Калі гэта раней“, „каму гэта жылося так добра“ і г. д.

З маіх адказаў дзеці робяць вывад, што ворагі лезуць у чаргу, уздыхаюць аб мінулым, робяць паклёпы на совецкую ўладу.

Гэта яны—ворагі заахвочваюць дзяцей да боек, любяць, калі дзеці не ходзяць у школу і падрываюць школьную дысцыпліну. Аб сапраўдным жыцці ў мінулы час ад ворагаў не даведаешся. Ворагі не тоўстапузыя, не ў цыліндрах і шляпах, як іх прадстаўляюць сабе дзеці, яны зараз такія ціхенькія, салодзенькія, смірненькія, яны пралязаюць у калгас, становяцца пастухамі, канюхамі, рахункаводамі, каб падарваць нашы калгасы ўнутры. Яны дзейнічаюць, як сказаў т. Сталін, ціхай сапай. Як-жа мы павінны рэагаваць на байкі, якія распаўсюджваюць ворагі?—Не верыць, **даваць ім адпор**, а ў школе добра вучыцца.

Заданне да хаты—прыносіць выразкі з газет, а калі хто знойдзе і пачытаць пра тое, аб чым мы гаварылі (з выразак мы робім альбомы, на перапынку разглядаем і расказваем аб фактах з жыцця).

Я вывучаю дзяцей і іх асяроддзе, дапамагаю ім індывідуальна. Не ходзіць вучань у дапаможны гурток,—я сумею зацікавіць,—ён прыбяжыць, знішчыць сваю запазычанасць. Мацнейшыя памагаюць слабейшым. Слаба лічыць вучань: даю талоны і грошы збіраць, але сама кірую, грошы ў кішэню не пазваляю класці. У групе няма пакраж. Грошы мне здаюць пад распіску, а я іх у портфэль, у сваю кішэню не кладу—каб не прывучаць да кражы (чытала і з педалогам гаварыла аб гэтым).

Кожны вучань мае маленькую, але пэўную нагрузку (раздача сшыткаў, чарніл, адказны за збор малюнкаў і г. д.).

Дысцыпліна ў маёй групе належная. Самыя недысцыплінаваныя часта становяцца лепшымі ўдарнікамі вучобы. Коля Солтан, яго ведаюць як зрыўшчыка работы многія школы. У групе ён з хлопчыка, які ведаў як ціханька ўкрасці грошы, перагнаць спірт на водку, навучыўся працаваць як трэба вучню совецкай школы.

Лішніх заўваг вучням не раблю і не крычу на іх, але я не прапусціла ні аднаго ўчынка, каб не рэагаваць у школе, на вуліцы свайму і іншаму вучню. Мяне ведаюць і не баяцца расказаць аб усім,—я растлумачу.

Я цесна ўвязваю сваю работу з жыццём атрада. Сама акуратна наведваю ў выходныя дні атрад, там разам працую з дзецьмі. Зважатымі я правяла ў гарадскім маштабе гутаркі на тэму: „Ручныя работы ў атрадзе і як навучыць дзяцей працаваць“, і „ўлік работы і як яго рабіць“. Работа з акцябратамі ў нас у школе пастаўлена нядрэнна.

Работа з бацькамі ў мяне наладжана. Дагавор з бацькамі заключан. Бацькі з вучнямі маёй групы заключылі соцдагавор, узялі і выканалі абавязкі да XVII партз'езда. Брыгада—Ліўшыц, Шулькіна, Зарына правяралі. На бацькаўскім сходзе я зрабіла два даклады: „Чаму нас дзеці часта не слухаюць“ і „Рэлігія—тормаз соцбудаўніцтва“. Бацькі наведваюць лекцыі.

Дзеці ў мяне вясёлыя і жвавыя. Я іх не пераутамляю, на трэцім уроку праводжу фізмінутку.

Работа ў школе і атрадзе аднолькава мне блізкі. Я люблю школу і дзяцей, аддаю ім усё, ніколі не лічуся з часам і цяжкасцямі. Я прывыкла выконваць заданне, дзеці бяруць з мяне прыклад. Яны надаюць мне сілы і жадання з яшчэ большым энтузіязмам працаваць, каб навучыць любіць нашу школу,—школу Маркса—Леніна—Сталіна, шанаваць заваёвы Акцябра, вырасціць з дзяцей сапраўдных змагароў за заветы Леніна і Сталіна.

У мяне ў групе паспяховасць добрая, з пашанай трымаем сцяг соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Група будзе і ў далейшым змагацца за рэалізацыю пастаноў ЦК партыі аб школе.

*А. Бадзіч*

Ціценская школа,
Гомельскага р-на

## Газета і часопіс дапамагаюць у рабоце

Працую ў Ціценскай 2-х камплектнай школе, Гомельскага раёна пяты год.

Галоўную ўвагу ў маёй рабоцё я звяртаў на ўстанаўленне ў школе сталай свядомай дысцыпліны, без якой не можа быць і гутаркі аб паспяховай ліквідацыі „карэннага недахопа".

Значна дапамагае ў рабоце газета „Піонер Беларусі", якая ў нашай школе шырока распаўсюджана і карыстаецца вялікім уплывам. Газета ўрасла ў школьнае жыццё, як неабходны фактар навучання і выхавання.

Для выхаваўчай работы падбіраю прыклады нашага друку аб жыцці і рабоце герояў нашаї эпохі. Парушэнне дысцыпліны, як правіла, заўважаецца ў мяне толькі тады, калі настаўнік не падрыхтуецца да лекцыі і абвінавачваць тады вучняў няма ніякай падставы. У мяне маецца з бацькамі жывая непасрэдная сувязь праз сходы, членаў вучкома, наведванне настаўнікамі бацькоў на даму, перапіску і г. д.

Умовы работы ў школе цяжкія. Галоўнейшай перашкодай у рабоце школы з'яўляецца калейдаскапічная змена настаўнікаў. За час майго загадвання гэтай школай змянілася сем настаўнікаў, з якіх толькі адна настаўніца П. працавала на працягу года (1931—1932). Гэты год і быў найбольш цэласным і поўным у сэнсе прадукцыйнасці працы школы.

З 1|XII да зімовага перапынку я застаўся адзін у школе. З 15/I 1933 г. па 11 лютага з 1 і 3 групамі займаўся настаўнік-дапрызыўнік, атрымаўшы адтэрміноўку, які амаль зусім не ведаў рускай мовы; з 11 лютага 10 сакавіка пасля ад'езду Стрыжанка ў Чырвоную армію яго групы пераходзяць да мяне, з 10 сакавіка групаводам малодшых груп прызначаецца настаўніца Шарамет, якая да гэтага часу працуе ў Ціценскай школе. Гэты эксперымент пакінуў цяжкі рэзультат.

Мы добра падрыхтаваліся і па баявому правялі перавыбары вучкома і яго органаў. Упор быў зроблен на тое, каб кожны член вучкома, арганізатары галін работы яго і кожны вучань, дасканала і канкрэтна ведалі кола сваіх абавязкаў. У выніку мы маем план вучкома да канца года, план работы (не больш 5 пунктаў) для кожнага арганізатара, абавязкі дзяжурных, спісы членаў добраахвотных таварыстваў, ударнікаў вучобы і дысцыпліны, спісы актыву бацькоў, асабліва тых, якія канкрэтна дапамагаюць у забеспячэнні школы дравамі, і інш. Усё гэта знаходзіцца ў школе на відным месцы.

Пабываўшы на 1-м Усебеларускім з'ездзе настаўнікаў-ударнікаў, пазнаёміўшыся з работай Менскіх школ, я спадзяюся, што даб'юся такіх вынікаў, асабліва ў сэнсе дысцыпліны, якія заваяваны гарадскімі

ўзорнымі школамі. Прыклад дысцыпліны ў 2 групе 20 ФЗД на ўроку арыфметыцы (2/III) заслугоўвае асаблівай увагі, пастаноўка-ж выкладання матэматыкі ў IV-а і IV-б гр. (другая змена) 25 узорнай ФЗД патрабуе большай чоткасці, канкрэтнасці і лепшага засваення вучнямі матэрыяла дробаў.

Наладжванне дысцыпліны ў малодшых групах я праводзіў праз кароценькія агульныя сходы вучняў усіх груп, якія склікаюцца часта ў канцы заняткаў у выніку накаплення матэрыялаў у вучкоме па поваду парушыцелей дысцыпліны і правядзення той альбо іншай работы.

Калі мы гаворым аб тым, што ў нашай школе прывіваецца свядомая дысцыпліна, то мы маем перш за ўсё на ўвазе такую дысцыпліну, калі інтарэсы калектыва, грамадскія інтарэсы, ставяцца вышэй асабістых. Гэта адна з самых выдатных рыс таго новага чалавека, які выхоўваецца ў совецкай школе.

У цэнтры ўвагі ў мяне ўжо доўгі час стаіць праблема аб рабоце аднаго настаўніка з некалькімі групамі. Лічу, што настаўнік, які працуе з некалькімі групамі, павінен аўладаць больш складанай тэхнікай арганізацыі і правядзення педпрацэса, чым настаўнік, які працуе з аднэй групай. Тэарэтычнага, тым больш практычнага матэрыяла для асвятлення гэтага віда работы пакуль мала ў нашай літаратуры. „Выжджаць" на самастойных працах, як гэта звычайна праводзіцца ў аднакамплектных і двухкамплектных школах, справа небяспечная. Ёсць каштоўны матэрыял у часопісе „Комуністычнае выхаванне" № 6—7 1933 г., які дае рад правільных установак у арганізацыі педпрацэса пры рабоце аднаго настаўніка з двума і больш групамі.

Вельмі важным момантам у рабоце малакамплектнай школы з'яўляецца выкарыстоўванне такога палажэння, калі для прапрацоўкі пэўнага матэрыяла той ці іншай дысцыпліны злучаюцца 2 групы для сумеснай работы з настаўнікам, які добра ведае праграму кожнага году навучання, як з боку аб'ёма, так і зместа. Такія супольныя месцы лягчэй усяго знайсці ў матэрыяле па мове і матэматыцы. Гэты спосаб мае вялікае значэнне ў педпрацэсе: ён актывізуе заняткі, паскарае тэмпы прапрацоўкі праграмнага матэрыяла, уплывае на якасць і лепшае засваенне ведаў. Здольныя вучні напр. 3-й гр. сваімі правільнымі адказамі падцягваюць адстаючых вучняў старэйшай, напр. 4-й групы.

Карыстаючыся паказаным метадам заняткаў, я ў старэйшых групах прапрацоўваў увесь праграмны матэрыял для данага адрэзка часу па роднай і часткова рускай мовах па раздзелу граматыкі і правапіса. Граматычны разбор праводзіцца мной паслядоўна і сістэматычна 3-й і 4-й груп.

Канкрэтнасць выкладання, нагляднасць і паказ у мяне на першым месцы ў кожнай дысцыпліне, дзе гэта толькі магчыма ва ўмовах вясковай школы, не маючай дастатковай матэрыяльнай базы.

Для паглыблення ведаў і падцягвання адстаючых, у школе працуюць гурткі па мовах і матэматыцы. Ёсць нядрэнныя прыклады дапамогі мацнейшых вучняў слабейшым на падставе добраахвотнага прымацавання, індывідуальных дагавораў і г. д. Паспяховасць па школе ў першай чвэрці—82%, у другой—91%.

Метадычнага кіраўніцтва і дапамогі не атрымоўваю. Жадаў-бы бачыць на старонках часопіса „Комуністычнае выхаванне" навукова абгрунтаваны даследчы матэрыял аб рацыянальнай, даючай найлепшы эфект пастаноўцы заняткаў аднаго настаўніка з некалькімі групамі. Часопіс значна дапамагае ў рабоце.

***Н. Я. Жыльчык***

Н стаўніца-ударніца
Гомельск й ФЗД
імя К. Лібкнехта

# Мацаваць сувязь з піонерамі

Мая трэцяя група „Б" Гомельскай ФЗД імя К. Лібкнехта прышла к канцу другога паўгоддзя з высокімі паказчыкамі работы. Паспяховасць групы—98,9%. Дзеці добра ведаюць пастанову ЦК партыі аб школе і патрабаванні, якія да іх прад'яўляе партыя. Дысцыпліна добрая, належным чынам усвоены санітарна-гігіенічныя навыкі.

У групе—41 чалавек, з іх 39 піонераў. Я сама актыўна памагаю піонерам другой базы завода „Рухавік Рэволюцыі" і праводжу з імі выхаваўчую работу. Піонеры майго атрада з'яўляюцца ініцыятарамі ва ўсіх палітычных кампаніях, збіраюць сродкі на пабудову стратастата і г. д.

Усе вучні маёй групы разбіты на 4 брыгады: вытворчая, культмасавая, санітарная, гаспадарчая. Брыгадзіры вядуць штодзённы вучот паспяховасці і выканання хатніх заданняў. Мацнейшыя прымацаваны да слабейшых вучняў і рэгулярна займаюцца з імі. Сшыткі ў дзяцей ў парадку, вучні добра ведаюць, што кожны з іх павінен мець чысты, акуратны, граматны сшытак.

Дысцыпліна добрая. Калі і бываюць выпадкі парушэння дысцыпліны,—у школе, на вуліцы і г. д., я хутка рэагую на гэта, праводжу з рабятамі гутаркі. Грубых парушэнняў дысцыпліны няма.

У групе 38 ударнікаў. Вядзецца вучот па спецыяльна-заведзенаму графіку і ў канцы кожнага месяца правяраецца выкананне абавязкаў. Заключаны індывідуальныя дагавары паміж дзецьмі, а таксама паміж апошнімі і бацькамі. Бацькі наведваюць групу, бываюць не толькі на сходах, але часта і на ўроках.

Абследвала дзяцей на даму, добра ведаю іх жыццё па-за школай і таму мне лёгка праводзіць з імі работу. Вяду гэту групу ўжо чацверты год (пачала з нулявой) і зусім натуральна, што дзеці прывыклі да настаўніцы, звяртаюцца да мяне з кожным пытаннем, якое іх хвалюе.

У выходны дзень мы калектыўна наведваем тэатры і кіно.

Сама я старанна рыхтуюся да ўрокаў, заўсёды імкнуся дастаць мастацкі матэрыял, усе неабходныя прылады, скарыстоўваю газетныя весткі. Урокі праходзяць жыва і цікава, а калі дзяцей цікавіць урок,—значыцца паспяховасць і дысцыпліна будуць добрыя.

Перашкаджае мне ў рабоце адсутнасць кніг (хрыстаматыя для 3-й групы, падручнік па геаграфіі БССР), няма карты. Няма месца, дзе можна было-б праводзіць па-зашкольную работу.

З часопісам „Ком. выхаванне" буду падтрымліваць сувязь, перыядычна даваць матэрыял аб школе, нашых дасягненнях і недахопах. Абавязкова падзялюся рэзультатамі перанясення ў нашу школу вопыта 25 Менскай ФЗС па штодзённаму ўліку спаборніцтва.

*Б. З.*

# Галоўнае—гэта барацьба за павышэнне сваёй кваліфікацыі

Настаўнік Ціценскай вясковай 2 камплектнай беларускай школы тав. **Бадзіч Арсені-Цітавіч**—адзін з лепшых ударнікаў-настаўнікаў **Гомельскага** раёна. Ён быў дэлегатам першага ўсебеларускага з'езда настаўнікаў-ударнікаў, якія збіраліся ў Менску для падвядзення вынікаў за першае паўгоддзе вучэбнага года, для абмена вопытам барацьбы за рэалізацыю гістарычнага рашэння ЦК партыі аб школе. Тав. **Бадзіч** мае за сваімі плячыма 23-х гадовы педагагічны стаж. У гутарцы з нашым працаўніком т. Бадзіч падзяліўся наступным:

— Я працую ў сельскай школе ўжо 23 гады. Працаваць у 2-х камплектнай школе, як вядома, прыходзіцца аднаму настаўніку з двума групамі. Работа з двума групамі не лёгкая, яна патрабуе вялікага майстэрства. Прыходзіцца шмат падумаць над тым, каб добра падрыхтавацца да лекцый,—трэба-ж так арганізаваць педагагічны працэс, каб абое групы былі заняты прапрацоўкай праграмнага матэрыяла.

„Лявацкія“ пражэкцёры ў свой час шмат унеслі блытаніны ў нашы галовы. Сваёй „тэорыяй“ адмірання школы, сваімі „метадамі праектаў“, а потым так званым „брыгадна лабараторным“ метадам, як адзіна-правільнымі і вядучымі, яны збівалі настаўніка з ленінскага шляху будаўніцтва палітэхнічнай школы.

Цяпер у нашай ганаровай, цяжкай і адказнай справе ёсць цвёрды напрамак—ён даецца гістарычнымі пастановамі ЦК партыі аб школе. Яны далі большэвіцкую праграму дзеяння для пабудовы сапраўднай палітэхнічнай школы Маркса—Леніна—Сталіна. Зараз я ў сваёй рабоце ўжо смела скарыстоўваю ўсю рознастайнасць метадычных прыёмаў. Пакажу гэта на прыкладзе.

Трэба было па прыродазнаўству прапрацаваць тэму „граніт“. Добра прадумаўшы і падрыхтаваўшыся, я на гэтай лекцыі скарыстаў цэлы рад метадаў: расказ, пытальна-апросны і наглядны метады і нават экскурсію. З экскурсіі звярнуліся мы з дзяцьмі ў школу з добрай калекцыяй па гэтай тэме, паўтарылі ў школе яе яшчэ раз і ў рэзультаце прапрацаваны матэрыял замацаван у памяці дзяцей усур'ёз і надоўга. У сваёй рабоце я цвёрда трымаюся правіла, каб дзеці не ўспрымалі механічна, а таму вялікае месца ў маёй школьнай рабоце займае наглядны метад. Кепска толькі тое, што органы нарасветы амаль не забяспечваюць школы нагляднымі дапаможнікамі. Алемы знаходзім выхад з гэтага становішча—разам з вучнямі ў парадку прапрацоўкі праграмнага матэрыяла рыхтуем самі і наглядныя дапаможнікі. Сапраўды, як ты напрыклад, будзеш вучням тлумачыць пра куб, калі ім яго не пакажаш. Вось з дзецьмі паступова і запасаемся дапаможнікамі па арыфметыцы, геаметрыі, калекцыямі раслін, мінералаў і г. д.

Дарэчы аб дзецях. Паглядзіш на цяперашніх вучняў і мімаволі перад вачыма паўстае малюнак свайго дзяцінства, малюнак старой вясковай царскай школы, калі настаўніку прыходзілася працаваць пад кантролем папа і ураднiка, калі ў вясковай школе „асновамі

навукі" былі: закон божы, укараненне пакорлівасці лёсу, „на зямлі міру і ў чэлавецах благаваленне". Старая царская школа, школа зуброжкі і бізуна, якая да рэчы ў вёсцы была пераважна так званай цэркоўна-прыходскай школай выхоўвала з дзяцей пакорных служак цару і капіталу.

Наш вучань, вучань совецкай школы па свайму агульнаму развіццю ні ў якае параўнанне не можа ісці з вучнямі царскай вясковай школы. Вучань старой вясковай школы быў забіты, яму не давалася магчымасці развіваць свае здольнасці і расці. Наш вучань вясковай совецкай школы расце з кожным днём, ды і цябе часта прымушае прызадумацца над тым, каб павысіць свой агульна-адукацыйны ўзровень, сваю кваліфікацыю. Прыходзіш ў клас, а вучні старэйшай IV-й групы ўжо паспелі прачытаць раённую газету і спяшаюцца пазнаёміць цябе з найбольш выдатнымі падзеямі сёнешняга дня. Наш вучань ужо не зубрыць аб „міры на зямлі", а наадварот,—ён не кепска разбіраецца ў сутнасці класавай барацьбы і дапаможа выкрыць прабраўшагася ў калгас кулака.

У мяне ў школе 75 дзяцей, з іх 46—піонеры. У старой царскай школе вучні аб газеце не мелі ніякага паняцця, а ў мяне дзетвара не толькі чытае друкаваныя газеты, але выдае сваю штодзенную насценгазету. Праз сваю газету вядуць барацьбу за свядомую дысцыпліну, за павышэнне пісьменнасці, за ліквідацыю „карэннага недахопа". Вучні прымаюць актыўны ўдзел у грамадскай рабоце школы,— правядзенні розных гаспадарча-палітычных кампаній. Вось не так даўно былі апублікаваны дырэктывы партыі і ўраду аб праверцы насенных фондаў і ўсхожасці насення. Вучні Ціценскай школы не засталіся ў баку ад вырашэння гэтай задачы. Пасля маёй гутаркі з імі на гэту тэму, яны не толькі дзейнічаюць на бацькоў у сэнсе праверкі насенных фондаў, іх лепшай аховы, але і дапамагаюць правяраць насенне на ўсхожасць.

У чым сказваецца ўплыў нашай школы на культурную перабудову вёскі?

Да рэволюцыі ў нашай вёсцы пісьменнымі былі адзінкі, а зараз— ніводнага непісьменнага. Раней газет не толькі не выпісвалі, але іх не было каму і чытаць, бо адсутнічалі грамацеі. Зараз на 130 гаспадарак выпісваецца больш 100 розных газет. Калі год 6—7 таму назад сяляне чыталі толькі „Крестьянскую газету", дык зараз ў дадатак да яе яны патрабуюць і чытаюць такія газеты, як „Правда", „Известия", „Звязда". У нашай вёсцы з поспехам вядзецца барацьба з рэлігійным дурманам. Школа разам з актывам вядзе барацьбу за арганізацыю калгаса ў нашай вёсцы,—да пасеўнай ён будзе арганізаван.

Культурныя запатрабаванні сялянства растуць, вялікія задачы стаяць перад школай і асабліва вясковай школай у сувязі з рашэннямі XVII партз'езда. Школа—важнае звяно ў вырашэнні задач пяцігодкі пабудовы бясакласавага соцыялістычнага грамадства. Да настаўніка з кожным годам будуць прад'яўляцца ўсё большыя і большыя патрабаванні. Вось чаму нам—настаўнікам і ў першую чаргу настаўнікам-ударнікам трэба сапраўды па-большэвіцку ўзяцца за павышэнне сваёй кваліфікацыі, за павышэнне свайго палітычнага ўзроўню—за ўзбраенне тэорыяй Маркса—Леніна—Сталіна.

Мы чакаем ад органаў Наркамасветы і прафарганізацый працасветы не разгавораў наогул, а жывой канкрэтнай дапамогі і кіраўніцтва ў справе рэалізацыі задач, пастаўленых партыяй перад школай і настаўнікам, пастаўленых XVII партз'ездам і правадыром сусветнага пралетарыята і лепшым настаўнікам-ударнікам тав. Сталіным.

*М. С.*

## Ударнікі прапануюць

Выкананне дырэктыў XVII партз'езда патрабуе хутчэйшага пад'ёма на належную вышыню работы школы. Адгэтуль неабходнасць вялікай увагі настаўніку. Трэба наладзіць вывучэнне вопыта перадавога настаўніка-ўдарніка, яго дасягненняў, перашкод у працы, пажаданняў у адносінах да арганізацыйнага і метадычнага кіраўніцтва. Па гэтых пытаннях мы гутарылі з Магілеўскай дэлегацыяй усебеларускага з'езда настаўнікаў-ударнікаў.

Агульным дасягненнем усіх дэлегатаў з'яўляецца высокая паспяховасць вучняў па школе і групе, па свайму прадмету. Якімі шляхамі дасягаюцца добрыя паказчыкі? Добрай падрыхтоўкай да заняткаў і арганізацыяй працы па метадах соцпаборніцтва і ўдарніцтва.

Так, напрыклад, настаўніца польскай школы **Янчэўская** дабілася па IV групе паспяховасці на 94,5%. Акрамя добрай падрыхтоўкі да заняткаў са складаннем падрабязнага рабочага плана т. Янчэўская свае заняткі ажыўляе газетай, мастацкай літаратурай, доследамі і экскурсіямі. „Апіраючыся на піонераў,—кажа яна,—праз звенні я ўцягнула ўсіх дзяцей у соцпаборніцтва і ўдарніцтва, класком заслухаў справаздачы адстаючых і займаючыхся лепш вучняў і потым вялася сістэматычная праца з адстаючымі.

Тав. **Шаміга** выкладчык гісторыі і заг. нав. часткі Вендараскай узорнай школы, па свайму прадмету даў 92% паспяховасці, шляхам разгортвання соцпаборніцтва, мабілізацыі групсовета, хуткага рэагавання на ўсякі прарыў, вывучэння хатніх умоў дзяцей, пасылкі ўдарных вучнёўскіх брыгад да бацькоў вучня—прагульшчыка, лодыра.

Тав. **Верам'юк** загадчык і выкладчык гісторыі Гарадзішчанскай ШКМ разгарнуў вялікую работу па мабілізацыі грамадскасці навакол школы,—праз бацькоў і шляхам заключэння соцумовы з калгасам. У выніку пабудавалі дом, зрабілі рамонт школы, забяспечылі матэрыяламі палітэхнічную майстэрню, абсталявалі інтэрнат і сталоўку для 40 вучняў, выдзелілі школе зямельны ўчастак у 5 *га*, забяспечылі яго насеннем, вызначылі 500 руб. у фонд дапамогі бяднейшым вучням.

Параўнаўча высокая паспяховасць па школе (90,5%) у значнай меры дасягнута добрай арганізацыяй дзіцячага самакіравання праз разгорнуты друк (сістэматычна кожную шасцідзенку выходзяць групавыя газеты—2 разы ў месяц школьныя).

Па свайму прадмету т. **Верам'юк** дабіўся паспяховасці на 95%—шляхам сістэматычнага планавання кожнай тэмы і давядзення яе да кожнага вучня, прыцягнення газетных матэрыялаў, ілюстравання карцін і дыяпазітываў, правядзення пасля кожнай тэмы акадэмбаёў.

Заг. Дасовіцкай ШКМ т. **Накуеў**, які працуе першы год, дабіўся паспяховасці па школе 96,3%, а па свайму прадмету—біялогіі—97%.

З самага пачатку нав. года быў заключан соцдагавор з другой школай, і, на падставе яго, соцумовы паміж групамі, і настаўнікамі з канкрэтнымі абавязацельствамі кожнага. Высокай паспяховасці па свайму прадмету Накуеў дабіўся шляхам сістэматычнага, звязнага і жывога выкладання, актыўным скарыстанням мікраскопа, зарысоўкамі. У школе наладжана метадычная работа, праводзяцца паказальныя лекцыі. Паказальная лекцыя спачатку даецца для сваіх настаўнікаў, потым праводзіцца на гэтую-ж тэму (як праверка) з вучнямі ў прысутнасці ўсіх настаўнікаў, а потым робіцца разбор яе.

Досыць значная работа праведзена і заг. І-й узорнай школы т. **Каранчуком** (дэлегат усесаюзнага з'езда настаўнікаў-ударнікаў) па арганізацыі настаўніцкага калектыва і метадычнай працы. Наладжана сталая праверка працы кожнага настаўніка ў групе і аналіз яго заняткаў, дабілася складання не толькі канспекта лекцыі, але самага ходу заняткаў. Як у выкладчыка гісторыі, у тав. Каранчука з'явілася добрым мабілізуючым вучняў момантам акрамя арганізацыі паміжкласных баёў,—гэта конкурс на лепшага гісторыка ў групе, а потым і ў школе.

Некаторыя дасягненні ў метадычнай працы мае заг. чыгуначнай школы т. **Рубека**. Калектывам настаўнікаў распрацоўваліся канкрэтныя метадычныя тэмы,—„Метады выкладання літаратуры," „Метады і формы выпраўлення сшыткаў", „Дысцыпліна", „Як праводзіць аб'яснянальнае чытанне" і г. д.

Перашкодамі ў сваей працы ўдарнікі лічаць:

1. Недастатковае метадычнае кіраўніцтва як з боку НКА гэтак і НДІ і РайАНА. 2. Перагрузку грамадскай (так напрыклад т. **Верам'юк—сакратар калгаснай парт. ячэйкі, член прэзідыума сельсовета і акрамя таго вучыцца ў завочным педінстытуце.** 3) Недастатковую работу піонератрадаў,—частую змену піонер-важатых і нізкую іх кваліфікацыю (тт. Шаміга і Рубека) 4. Недастатковую кваліфікацыю настаўнікаў і слабасць праводзімай імі выхаваўчай работы.

Якія-ж пажаданні і прапановы выказваюць ударнікі?

1. Трэба выпрацаваць методыкі паасобных прадметаў. Асабліва вострая патрэбнасць у такіх методыках адчуваецца ў першым канцэнтры і ў прыватнасці па грамадазнаўству і арыфметыцы. Гэтае патрабаванне высоўвалася большасцю настаўнікаў-ударнікаў у тым ліку і заг. школ. Указвалася, што асабліва ў першым канцэнтры, часта пры недастатковай кваліфікацыі настаўнікаў, пануе блытаніна і метадычная бездапаможнасць.

2. Неабходнасць метадычнай распрацоўкі асобных тэм, напр. па грамадазнаўству „Рэволюцыя 1905 года для такой-та групы". Тав. Верам'юк уносіць прапанову, каб НДІ Комвыхавання сумесна з НКА па прыкладу Ленінграда і Масквы выпускаў сістэматычны „Метадычны дапаможнік" 2 разы ў месяц альбо за паўгоддзе.

3. Патрэбнасць у выпуску „стабільных падручнікаў" па асобных прадметах для самаго настаўніка. Ударнікі абгрунтоўваюць неабходнасць такога „стабільнага падручніка" тым, што зачастую настаўнік вымушан шукаць матэрыял па розных крыніцах і адсутнасць сістэматызаванага пашыранага матэрыялу служыць перашкодай у працы.

4. Узмацніць метадычнае кіраўніцтва палітэхнізацыяй ў школе. Тав. Верам'юк указвае на неабходнасць увязкі праграмы працоўнага выхавання ў школе з праграмамі асобных прадметаў. Тав. Каранчук лічыць неабходным вырабатку стандартнага станка для палітэхнічных майстэрань для рознага тыпа школы.

5. Неабходнасць выпуску метадычнага ліста і метадычных работ на тэму: „Арганізацыя грамадскай працы ў школе і пазашколай“.

6. Распрацоўка актывізацыі метадаў работы 1-га канцэнтра з чоткім высненнем такіх палажэнняў як: „Выхаваўчы момант“, „Рабочы змест“, „Сувязь тэорыі з практыкай“ і г. д. (т. Шаміга ўказвае, што па гэтаму пытанню існуе значная блытаніна).

7. Неабходнасць асобнай методыкі пісьма (т. Верам'юк). Гэтая прапанова з'яўляецца сапраўды актуальнай у сувязі з слабым местам школы,—пісьменнасцю дзяцей.

8. Сістэматычнае асвятленне вопыту школ і канкрэтных дасягненняў асобных настаўнікаў (т. Накуеў). Тут ударнік сапраўды б'е ў слабае месца і НКА і НДІКВ, якія зусім слаба скарыстоўваюць вопыт і канкрэтныя дасягненні для мабілізацыі і выхавання „Ізотавых педагагічнае справы“.

9. Неабходнасць метадычна-педагагічнай работы на тэму: „Перавыхаванне вучня дэзарганізатара“ (т. Каранчук). Гэтая тэма закранае значную праблему, маючую вялікае значэнне ў практыцы нашае школы у барацьбе за талантлівага, часам, жывога вучня, але „педагагічна-запушчанага“, патрабуючага асобнага падыходу.

Акрамя таго, ударнікі патрабуюць выпуску метадычнага ліста на тэму: „Як складаць канспект і ход лекцыі“, просяць, каб уся дзіцячая, вучэбная і педагагічная літаратура выходзіла больш ілюстраванай з добраякаснымі малюнкамі.

Усе прапановы настаўнікаў-ударнікаў заслугоўваюць увагі, прадумвання і рэалізацыі ў нашай палітэхнічнай школе.

# НАША КАНСУЛЬТАЦЫЯ

*І. Ф.*

## Як арганізаваць работу ДСК перад скончэннем навучальнага года

Пытанне настаўніцы Касцюковіцкага раёна А. П.

**Адказ:** „Змест і задача ДСК чотка акрэслены ў пастановах ЦК партыі аб школе і піонерарганізацыі, а таксама ў палажэнні аб ДСК палітэхнічнай шлолы, зацверджаным калегіяй НКА і ЦК ЛКСМБ.

Гэтыя дакументы павінен добра ведаць кожны настаўнік, і кожны вучань савецкай школы. Галоўным у рабоце ДСК з'яўляецца,—арганізацыя актыўнасці вучняў на барацьбу за высокую якасць вучобы, узмацненне свядомай дысцыпліны і выхаванне ў дзяцей соцыялістычных адносін да вучобы, працы і грамадскай работы.

Зараз, калі школа ўступіла ў апошнюю чверць навучальнага года, калі падводзяцца вынікі гадавой работы і пачынаецца падрыхтоўка да новага навучальнага года,—роля школьнага самакіравання асабліва ўзрастае. У гэтым адказе мы звяртаем ўвагу настаўніцтва на дзве важнейшыя задачы ДСК у цяперашні час:

1. Мабілізацыя актыўнасці ўсіх вучняў на паспяховае скончэнне бягучага навучальнага года.

2. Актыўны ўдзел школы ў барацьбе за паспяховае правядзенне веснавой сяўбы другога года другой пяцігодкі.

Што павінна зрабіць школьнае самакіраванне ў барацьбе за паспяховае завяршэнне навучальнага года?

а) У кожнай групе групавы совет праз групавода павінен выявіць стан паспяховасці кожнага вучня, звярнуўшы асаблівую ўвагу на выяўленне адстаючых, высвятленне прычын і характару адставання.

б) На групавым совеце з дапамогай групавода, неабходна намеціць канкрэтныя мерапрыемствы па аказанню дапамогі адстаючым (сістэматычная дапамога з боку выкладчыкаў, прымацаванне больш паспяваючых вучняў да слабейшых і дадатковыя заняткі з апошнімі, поўнае забеспячэнне іх падручнікамі і вучэбнымі дапаможнікамі, стварэнне ўмоў для арганізаванага правядзення хатніх заняткаў і г. д.).

Пры гэтым трэба стварыць такую абстаноўку, каб кожны адстаючы вучань паставіў сабе мэтай ва што-б там ні стала падцягнуцца да ўзроўня перадавікоў. Кожны адстаючы павінен зразумець, што можа стаць перадавіком, пры ўмове настойлівасці і большэвіцкай напорыстасці ў вучобе і высокай дысцыплінаванасці. Але з тымі вучнямі, якія не жадаюць вучыцца, адмаўляюцца ад дапамогі, якая ім аказваецца, хуліганяць, зрываюць школьны рэжым, не выконваюць заданняў і наогул недысцыплінаваны,—неабходна ў гэты перыяд ўзмацніць барацьбу.

ДСК павінна шырока папулярызаваць інструкцыю НКА аб іспытах. Трэба каб кожны вучань загадзя ведаў парадак і аб'ём іспытаў, якія павінны стымуляваць дзяцей да лепшай падрыхтоўкі і высокай паспяховасці.

У радзе вясковых школ заўважаецца з надыходам вясны значны адсеў і частыя пропускі заняткаў, якія выклікаюць адставанне, а ў радзе выпадкаў і другагодніцтва. ДСК павінна праз вучняў і бацькоў правесці такую работу, каб ніводзін вучань у апошнюю чверць навучальнага года не зрабіў ніводнага пропуска і спазнення. Павінен быць наладжан старанны вучот наведвання ў кожным выпадку, калі заўважаецца, што вучань не прышоў на заняткі, трэба зараз-жа высветліць прычыны, прымаць меры да іх знішчэння. У тых выпадках, калі самі бацькі затрымліваюць вучняў, не пускаюць іх у школу, неабходна праз мясцовыя совецкія органы прымусіць бацькоў забяспечыць сістэматычнае наведванне вучняў да канца заняткаў.

У мэтах лепшай падрыхтоўкі да іспытаў і замацаванне пройдзенага матэрыяла ДСК павінна разгарнуць масавую пазашкольную работу (конкурс на лепшых фізікаў і матэматыкаў, вечары пытанняў і адказаў, вечары паасобных прадметаў—хіміі, геаграфіі і г. д.). Гэтыя мерапрыемствы павінны служыць паўтарэнню пройдзенага матэрыялу, лепшаму яго замацаванню, пашырэнню кругавіда дзяцей і ўзмацненню комуністычнага выхавання.

Але разам з гэтым трэба ўлічыць, што падрыхтоўка да іспытаў не павінна перагружаць дзяцей. ДСК павінна арганізаваць рацыянальнае скарыстанне вольнага часу вучняў, выходныя дні, перапынкі, скарыстаць вясновы час для фізічнага аздараўлення дзяцей. Трэба палепшыць знадворны выгляд школы, ачысціць школьны двор, зрабіць фізкультурную пляцоўку і г. д.

Мы пералічылі толькі асноўныя ўчасткі работы ў барацьбе за паспяховае заканчэнне навучальнага года. Загадчык школы, важаты піонер-атрада настаўнік і, у першую чаргу, групавод, павінны забяспечыць кіраўніцтва і актыўную дапамогу ДСК ва ўсіх яго мерапрыемствах. Неабходна помніць, што вядучая роль у гэтай рабоце належыць комсамольскай і піонерскай арганізацыям школы. Прыклад піонераў і комсамольцаў будзе мець надзвычай вялікае значэнне.

Апошняя чверць навучальнага года супадае з вялікай гаспадарча-палітычнай кампаніяй—вяснавой сяўбой. Школа не можа стаяць у баку ад барацьбы за паспяховае правядзенне веснавой сяўбы. Вопыт мінулых год паказвае, што школа можа шмат чым дапамагчы ў справе большэвіцкага правядзення сяўбы, удзел у якой мае вялікае выхаваўчае значэнне для школы. Што ў гэтым напрамку павінна зрабіць ДСК?

1. Неабходна, каб кожны вучань ведаў, якія асноўныя задачы стаяць перад пасеўнай кампаніяй у гэтым годзе.

2. Кожны вучань павінен ведаць, як бліжэйшы калгас, соўгас, або МТС, падрыхтаваўся да пасеўнай. ДСК арганізуе невялікія брыгады са старэйшых вучняў для азнаямлення са становішчам рамонту трактароў, сельскагаспадарчага інвентара, збруі і засыпкі насенных фондаў. Праз агітплакаты, лозунгі, выпуск насценных газет і г. д. вучні мабілізуюць увагу ўсіх калгаснікаў на баявое правядзенне сяўбы.

3. У кожнай калгаснай брыгадзе ДСК арганізуе кантрольныя і сігнальныя пасты, якія сочаць за ходам падрыхтоўкі да сяўбы, даглядам коней, цялят, сельскагаспадарчага інвентара.

4. Праз майстэрні школы ДСК арганізуе выраб цацак для дзіцячых пляцовак, ясляў, выдзяляе перыядычна лепшых вучняў для дапамогі

кіраўнікам у справе арганізацыі і правядзення работы з дзецьмі. Вучні сочаць за санітарна-гігіенічным станам пляцовак і г. д., дапамагаюць праўленню калгаса давесці план сяўбы і нормы задання на кожны дзень і пяцідзёнку, да кожнага калгасніка. Вучні дапамагаюць калгасу наладзіць збор попелу на ўгнаенне жалеза для рамонта сельскагаспадарчага інвентара.

Вопыт мінулых год паказаў, што школы могуць прыняць удзел у справе праверкі ўсхожасці насення і яго ачысткі. Гэтая работа праводзіцца пад кіраўніцтвам прыродаведа, агранома і можа быць скарыстана для пашырэння ведаў дзяцей. Вялікае значэнне ў барацьбе за добрае правядзенне сяўбы, за ўзмацненне працоўнай дысцыпліны, мае сістэматычна пастаўленая палітычная прапаганда і заняткі па ліквідацыі агра-тэхнічнай малапісьменасці. Вучні праз насценныя газеты, гутаркі з бацькамі дабіваюцца сістэматычнага наведвання бацькамі палітгурткоў, палітінфармацый, агра-тэхнічных гурткоў і г. д.

Вучні таксама дапамагаюць праўленню калгаса і брыгадзірам у падвядзенні вынікаў соцспаборніцтва, выпуску чырвонай і чорнай дошкі, выяўленні лепшых ударнікаў у калгасе, класавых ворагаў і лодыраў, якія дзейнічаюць ціхай сапай, падрываючы калгас знутры. Можна арганізаваць дастаўку газет і кніжак на полі, у час перапынку на абед арганізаваць галоснае чытанне газэт для калгаснікаў.

Заканчваючы навучальны год, ДСК арганізуе вечар сустрэчы ўдарнікаў школьнай вучобы і ўдарнікаў сяўбы.

У гэтым годзе ўсе вясковыя школы будуць мець свае прышкольныя ўчасткі. Трэба неадкладна прыступіць да іх арганізацыі, заключыць умовы з калгасамі, агарадзіць участкі, добра апрацаваць глебу і засеяць іх. Школьны зямельны ўчастак павінен быць узорным агітатарам за высокаякасную сяўбу. Тут рэбяты павінны атрымаць веды і навыкі па агра-тэхніцы, замацаваць і пашырыць свае веды па прыродазнаўству, батаніцы, хіміі, і г. д.

Уся работа па ўдзелу школы ў пасеўнай кампаніі павінна быць загадзя спланавана. Змест гэтай работы павінен быць добра прадуман з пункту гледжання яго каштоўнасці для вучэбна выхаваўчых мэт школы. Ні ў якім разе нельга дапускаць, каб удзел у сяўбе зрываў нармальны хоў заняткаў. Наадварот удзел у пасеўнай павінен садзейнічаць падняццю якасці вучобы, умацаванню свядомай дысцыпліны сувязі паміж навучаннем і грамадска-прадукцыйнай работай, падняць на вышэйшую ступень удзел школы ў соцспаборніцтве і класавай барацьбе пролетарыята і калгаснага сялянства супроць астаткаў разгромленага кулацтва, лодыраў, рвачоў, апартуністаў усіх колераў.

*Е. Матлін*

# Ці можна развіваць памяць вучня і якім чынам?

Большасць буржуазных псіхолагаў на пытанне аб магчымасцях развіцця памяці дае адмоўны адказ. Што і зразумела, бо буржуазная навука абслугоўвае класавыя інтарэсы буржуазіі. Такім адказам „падмацоўваецца" тэорыя аб прыроджанасці здольнасцей; аб найлепшым стане псіхічных функцый у „вышэйшых класаў",—буржуазіі.

У нас у Совецкім саюзе не толькі тэорыя, але і сама штодзенная практыка социялістычнага будаўніцтва паказвае агромнейшы рост і развіццё людзей, мажлівасці шырокага развіцця памяці і наогул псіхічных функцый. Дзеці, падлеткі, дарослыя,—усе ўзбагачаюць свой вопыт, набываюць усе больш ведаў, развіваюцца літаральна з кожным днём. Інакш і быць не можа. Развіццё соцыялістычнай гаспадаркі і культуры штурхае развіццё людзей, прад'яўляе да іх усе больш патрабаванняў, вымушае вучыцца, накапліваць і абагульваць вопыт мільёнаў, крытычна пераацэньваць старое і сілай свайго ўсе ўзрастаючага багацця ведаў уключыцца ў агульны гіганцкі рух—рух пабудовы соцыялізма.

Такім чынам, для нас пытанне аб магчымасці развіцця памяці даўно вырашана жыццём, соцыялістычнай практыкай. І зусім дарэмна некаторыя настаўнікі часам вінавацяць дзяцей за беспамятлівасць. „Беспамятлівых" дзяцей няма, калі яны не разумова-хворыя.

Адсюль узнікае другое пытанне,—аб педагогіцы памяці. Ленін на III з'ездзе РКСМ сказаў: „Комуністам стаць можна толькі тады, калі ўзбагаціць сваю памяць веданнем усіх тых багаццяў, якія выпрацавала чалавецтва. Нам не трэба зуброжкі, але нам трэба развіць і ўдасканаліць памяць кожнага навучаючагася веданнем асноўных фактаў". (Том XXV, стр. 388).

Якімі-жа шляхамі можна развіць памяць?

1) **Цікавасць.** Чым вучань больш зацікаўлен матэрыялам, тым зразумела лягчэй будзе запомніць яго. Запамінанне ў значнай ступені залежыць ад здольнасці настаўніка зацікавіць дзяцей, умення багацей, красачней, эмоцыянальней падаць свой матэрыял.

2) Важным фактарам у запамінанні з'яўляецца ўспрыйманне вучэбнага матэрыяла максімальна большым лікам **аналізатараў,** гэта значыць, што дзіця павінна не толькі **пачуць** аб новым матырыяле (слух), але і **прачытаць, убачыць** яго (зрок), **замаляваць, запісаць, склеіць, выразаць, зрабіць мадэль** (маторыка) і г. д., чым больш органаў пачуцця будуць уключаны ў успрыйманне, тым лепш матэрыял запамінаецца.

3) Зусім зразумела, што калі вучань больш уважліва **прадумае** той ці іншы матэрыял, увяжа ў адпаведную сістэму з тым, што ўжо знаёма па данаму пытанню, то ён лепш запомніць яго.

Трэба помніць, што памяць у значнай ступені залежыць ад **уважлівасці** вучня і разумення ім сутнасці запамінаемага. Запамінанне не існуе ізалявана ад іншых псіхічных функцый.

4) З усяго сказанага вынікае,—што памяць дзіцяці як і дарослага ў канечным ітогу залежыць **ад стана арганізма**. Зморанасць, галаўная боль, дрэннае самаадчуванне,—усё гэта не можа не адбіцца на запамінанні. Такавы агульныя ўмовы развіцця памяці.

Некалькі слоў аб так званай, „механічнай" памяці. Запомніць дату, лічбу,—гэта зусім не значыць зазубрыць яе. Лёгка паказаць, што і тут вялікае значэнне мае „апасродкаванне", г. зн. сувязь даты і лічбы з сутнасцю тых фактаў, з якімі яны звязаны. Пры ўменні знайсці ў аб'екце „механічнай" памяці своеасаблівую лагічнасць—матэрыял значна лягчэй запамінаецца.

Вось пара прыкладаў:

**Першы прыклад.** Можна добра растлумачыць вучням прычыны, ход, сутнасць і значэнне якога-небудзь факта, скажам, вялікай французскай рэволюцыі. Дата „1789" лепш запамінаецца, калі вучань свядома звяжа гэты гістарычны факт з канцом XVIII стагоддзя, эпохай прамысловага пераварота, разлажэннем феадальнага ладу і г. д. Але гэтага мала. Калі пры гэтым настаўнік толькі **назаве** дату „1789". г. зн. дзейнічае толькі на слух,—дзеці адразу не запомняць дату. Трэба яшчэ настаўніку адначасова **назваць** дату, **запісаць** на дошку „1789", **падкрэсліць** гэтую лічбу і **дабавіць**: глядзіце, лёгка запомніць 7—8—9", як гэта ўрэжацца ў памяць на ўсе жыццё.

**Другі прыклад.** Запомніць год нараджэння Леніна „1870" лёгка, звярнуўшы ўвагу на тое, што гэта гістарычная дата ўсяго на 1 год папярэдзіла другі гістарычны факт—Парыжскую комуну.

Такім чынам мы бачым, што маецца шмат мажлівасцей і сродкаў для развіцця памяці.

## Усім настаўнікам пачатковых і сярэдніх школ

Часопіс „Комуністычнае Выхаванне“ мае сваей асноўнай мэтай быць арганізатарам настаўніцтва ў барацьбе за якасць школьнай работы, дапамагчы настаўніку выканаць пастаўленую нашай Комуністычнай партыяй і Урадам перад школай задачу—выхаваць узброенае глыбокімі ведамі асноў навукі комуністычным светапоглядам пакаленне актыўных будаўнікоў соцыялізма.

Гэтую дапамогу часопіс „Комуністычнае Выхаванне“ ажыццяўляе шляхам асвятлення пытанняў марксісцка-ленінскай падагогікі і палітыкі ў галіне народнай асветы, падагульнення вопыта нашых школ, распаўсюджання лепшых дасягненняў школ як БССР, так і брацкіх саюзных рэспублік, давядзення іх гэтых дасягненняў да ўсіх школ нашай рэспублікі, узбраення настаўнікаў навукова абгрунтаванымі інструкцыйна-метадычнымі матэрыяламі для непасрэднага кіраўніцтва імі ў штодзеннай рабоце, у школе.

**Стаячыя перад часопісам „Комуністычнае Выхаванне“ задачы толькі тады будуць з належным поспехам выкананы, калі ў ім непасрэдны удзел прымуць шырокія масы настаўніцтва.**

Рэдакцыя просіць настаўнікаў інструктароў-метадыстаў арганізаваць у школах, на методнарадах, методаб‘яднаннях, у Райметодбюро калектыўны разбор часопіса, высвятленне яго станоўчых і адмоўных бакоў,—і свае заўвагі, патрабаванні і пажаданні як калектыўныя, так індывідуальныя даслаць у рэдакцыю.

Рэдакцыя просіць настаўніцтва, методаб‘яднанні і райметодбюро ў максімальнай ступені скарыстаць Бюро консультацыйна-масавай работы Навукова-Даследчага інстытута Комвыхавання, якое непасрэдна, і праз часопіс, дае адказы на запытанні па ўсім пытанням тэорыі і практыкі школьнай работы.

Рэдакцыя просіць настаўнікаў і інструктароў-метадыстаў Заг. РайАНА быць карэспандэнтамі часопіса, пісаць аб усіх школьных справах, даваць артыкулы аб вопыце асобных школ і настаўнікаў, усякае дасягненне даводзіць да нас, а тым самым да ўсяго настаўніцтва нашай рэспублікі.

Рэдакцыя просіць райметодбюро і асобныя школы стварыць карэспандэнцкія пункты, якія-б арганізавана ўдзельнічалі-б у часопісу „Комуністычнае Выхаванне“.

**Рэдакцыя лічыць, што не можа быць ніводнай узорнай школы, ніводнага інструктара-метадыста, ніводнага райметодбюро, якія-б не трымалі сістэматычнай сувязі з часопісам „Комуністычнае Выхаванне“.**

Рэдакцыя выклікае на соцспаборніцтва ўсе райметодбюро, усе ўзорныя школы і інструктароў-метадыстаў па наступнаму пытанню.

Рэдакцыя абавязваецца адказваць на кожнае запытанне настаўніка, школ, інструктароў і райметодбюро не пазней як праз 2 дні па атрыманні пытання і забяспечыць выхад часопіса з такім разлікам, каб

увесь метадычны матар'ял, змешчаны ў чарговым №, пападаў у школу своечасова, без усякага спазнення. Усе ўзорныя школы, райметодбюро і інструктары-метадысты павінны ўзяць на сябе абавязак усе дасягненні школ і асобных настаўнікаў даводзіць да рэдакцыі своечасова, а таксама забяспечыць прысылку запытанняў для кансультацыі.

Рэдакцыя чакае індывідуальных заяў на соцспаборніцтва.

Цесная сувязь рэдакцыі часопіса „Комуністычнае Выхаванне" і шырокіх настаўніцкіх мас безумоўна дапаможа ўзмацненню і далейшаму разгортванню работы палітэхнічнай школы.

**Часопіс „Комвыхаванне" павінен стаць арганізатарам у барацьбе за якасць школьнай работы, метадычным дапаможнікам кожнага настаўніка ў яго штодзеннай педагагічнай рабоце.**

**Рэдакцыя часопіса „Комуністычнае Выхаванне".**

## Арыентыровачны змест чарговых нумароў часопіса „Ком. выхавання“

**№ 5 павінен выйсці 15/V.**

1. Задачы школы ў святле рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б.
2. Ленін і Сталін па пытаннях Нарасветы.
3. Задачы вясенніх настаўніцкіх канферэнцый.
4. Агульнае становішча работы ўзорных школ БССР (па матэрыялам НКА).
5. Арганізацыя метадаў работы узорн. школ.
6. Артыкулы асобных узорных школ.
7. Работа РайАНА.
8. Аб падрыхтоўцы да новага навуч. года ў БССР.
9. План і методыка пазашкольнай работы на лета (гарадской і вясковай).
10. Методыка работы дашкольных устаноў на лета.
11. Пытанні і методыка залікаў ў ПедВНУ і педтэхнікумах.
12. Методыка экскурсій па прыродазнаўству ў 2-ой групе.
13. Аб правядзенні дзіцячай алімпіяды.
14. Настаўнікі—чытачы аб часопісу.
15. Кансультацыя.
16. Хроніка.

**№ 6 павінен выйсці 10/VI**

1. Школьнае будаўніцтва ў БССР у 2-ю пяцігодку.
2. Задачы піонерарганізацый на летні перыяд.
3. Вынікі абследвання менскіх школ.
4. Палітэхнічна-вытворчае навучанне ў менскіх школах.
5. Дысцыпліна ў менскіх школах.
6. Работа настаўніка з двумя групамі.
7. Методыка вывучэння беларускага правапіса.
8. Становішча асобных дысцыплін у школе.
9. Мастацкае выхаванне ў школе.
10. Работа дзіцячага тэатра.
11. Работа педтэхнікумаў.
12. Кансультацыі.
13. Рэцэнзіі на новыя падручнікі.
14. Кансультацыя.
15. Хроніка.

**№ 7 павінен выйсці 5/VII**

1. Нацменшколы ў БССР.
2. Грамадазнаўства і гісторыя ў менскіх школах (стэнаграмы, іх аналіз і методвывады).
3. Як РайАНА змагаюцца за падрыхтоўку да новага навучальнага года.
4. Інфармацыя РайАНА аб падрыхтоўцы да новага нав. года.
5. Як рыхтуюцца да новага навучальнага года, асобныя школы ШКМ.
6. Становішча работы ПедВНУ.
7. Работа кафедр педагогікі ў ПедВНУ.
8. Вынікі з'езда пісьменнікаў у БССР.
9. Аб дзіцячай літаратуры (па выніках з'езда).
10. Методработа ў раёнах.
11. Становішча выхаваўчай работы ў дзіцячых дамах.
12. Школа ў барацьбе за ўраджай.
13. Некаторыя пытанні методыкі вытворч. паліт-навуч. ў школах.
14. Дапаможныя школы ў Менску.

15. Кансультацыі.
16. Рэцэнзіі.
17. Хроніка.

**№ 8—9 павінен выйсці 5/VIII**

1. Задачы школы ў новым навучальным годзе.
2. Задачы асенніх настаўніцкіх канферэнцый.
3. Профсаюзныя арганізацыі ў барацьбе за якасць работы ў 1934-35 навуч. годзе.
4. Арганізацыйна-метадычныя матэрыялы да асенніх настаўніцкіх канферэнцый.
5. Вынікі работы школ за 1933/34 год.
   а) Агульная характарыстыка і арганізацыйныя пытанні.
   б) Адукацыйная работа.
   в) Выхаваўчая работа.
6. Вынікі 1933/34 навуч. года па асобных раёнах.
7. Вынікі гадавой работы (якіх поспехаў і як школа дабілася за год).
8. Грамадазнаўства і гісторыя ў менскіх школах (стэнаграма, іх аналіз і методвывады).
9. Арганізацыя методработы ў раёне і школе.
10. Піонерская работа ў школе.
11. Вынікі соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў школах і задачы ў галіне соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў 1934/35 навуч. годзе.
12. Вынікі дзіцячай алімпіяды.
13. Планаванне і вучот школьнай работы.
14. Як складаць расклад у школе.
15. План пазашкольнай работы ў школе на восень.
16. План правядзення Кастрычн. свят у школе.
17. Грамадскую работу ў школе на вышэйшую ступень.
18. Чарговыя задачы школы ў галіне вытворча-палітэхнічнага навучання.
19. Абаронная работа ў школе.
20. Пытанні інтэрнацыянальнага выхавання ў школе.
21. Як падрыхтаваць работу дзіцячых бібліятэк.
22. Як падрыхтаваліся да новага вучэбнага года Барысаўскае метод. бюро і інструктары метадысты.
23. Асноўныя цяжкасці ў выкладанні рускай мовы ў беларускіх школах і як іх перамагчы.
24. Асноўныя метадычн. пытанні па выкладанні нямецк. мовы.
25. „ „ „ „ „ фізвыху
26. „ „ „ „ „ спеваў
27. „ „ „ „ „ прыродазнаўству.
28. „ „ „ „ „ маляванню.
29. Кансультацыі.
30. Хроніка.

ТАВАРЫШЫ НАСТАЎНІКІ, ШЛІЦЕ Ў РЭДАКЦЫЮ МАТЭРЫЯЛЫ І АРТЫКУЛЫ!

*Рэдакцыя часопіса*
*„КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ“*

N 3-4. 1934

## ЗМЕСТ


Стар.

Перадавы—За ўдзел школы ў бальшэвіцкай сяўбе . . . . . 3
В. Зайцаў, А. Джэлюк—Перамога ленінскай нацпалітыкі . . . 11
Ю. С. Дарлак—Ленін аб пытаннях народнай асветы . . . . 22
Б. Іоффе—За сапраўднае інтэрнацыянальнае выхаванне . . . . 34

**Аўладаем тэхнікай педагагічнага працэса**

А. Нусенбаум і М. Сноткін—Настаўнік павінен рыхтавацца да ўрока . . 39
А. Казлоў—Да пытання аб педалагічным абгрунтаванні ўрока . . 50
М. Кунда—Аб арганізацыі прышкольнага зямельнага ўчастка . . . 56
Г. С.—Як трэба знаёміць дзяцей з процантамі ў пачатковай школе . . 62
А. Гельфанд.—Аб парадку дзеянняў у арыфметыцы . . . . 64
Сагаловіч.—Як праводзіць іспыты па матэматыцы . . . . 67
К. Маеўскі—Як падрыхтаваць вучняў да самастойных пісьмовых работ . 71
І. М. Голуб—Да пытання аб метадалогіі фізікі . . . . . 75
Я. Шчэрбач—Увага інструктару-метадысту . . . . . 78
В. Зайцаў, С. Равін—Падрыхтоўка вырашае поспех урока . . . 82
Г. Сагаловіч—Да пытання аб методыцы, навучанню радыяннаму мерэнню . 86
Трацэвіч, і Меэровіч—Наглядныя формы ўліку соцспаборніцва . . 89
Калінічэнка—Мэтодыка правядзення экскурсіі ў прыроду . . . 92
За паспяховае правядзенне іспытаў . . . . . . 97

**Вопыт ударнікаў зрабіць здабыткам усёй асветніцкай масы.**

М. Пруднікова—Выхаваць барцоў за комунізм . . . . . 103
А. Бадзіч—Газета і часопіс дапамагаюць у рабоце . . . . 106
Н. Я. Жыльчык—Мацаваць сувязь з піонерамі . . . . . 108
В. З.—Галоўнае—гэта барацьба за павышэнне сваёй кваліфікацыі . . 109
Б. С.—Ударнікі прапануюць . . . . . . . 111

**Наша кансультацыя**

І. Ф.—Як арганізаваць работу ДСК перад сканчэннем навучальнага года . 114
Е. Матлін.—Ці можна развіваць памяць вучня і якім чынам? . . 117
Усім настаўнікам пачатковых і сярэдніх школ . . . . . 119
Арыентыровачны змест чарговых нумароў часопіса „Комвыхаванне" . 121